Ձ чытаецца як „дз“,
Ģ—як „дж“.

(Гл. артыкул Дубоўкі „Проэкт літар для згукаў „дз“ і „дж“, „Узвышша“, № 4 (10), 1928 г.).

Новыя літары ўведзены як спроба.

**Рэдакцыя.**

# ЗЬМЕСТ



**Вокладка работы мастака М. М. Аксельрода**


Галоўлітбел № 1207. Заг. № 1706. У ліку 1000 экз. Гомель, друкарня „Палесдрук“

**Кузьма Чорны**

# На пасёлку [1]

Праўда, што Чаркас часьцей відён стаў для ўсіх на пасёлку. Міхал Макарэвіч раз быў сказаў:

— Гэта адно здаецца ўсім. Ён і раней цягаўся сюды. Але каму гэта, значыцца, у голаў было: ходзіць—няхай ходзіць. А гэта як пачаліся ўсялякія гэтыя гаворкі, дык усякі ўжо на Чаркаса вочы вылупіў—от бо Чаркас ходзіць на пасёлак! Усякі ўсё стаў на яго прыглядацца. У ваччу, значыцца, у кожнага ўжо Чаркас стаў!

Чаркаса таксама часта бачылі і на хутарох. Усюды бачылі яго. Раз адлежным днём, купіўшы на хутарох у кагосьці мяшок бульбы, ён шукаў якое-небудзь выпадковае фурманкі. Забег у млын і прасядзеў там з мужчынамі гадзіны дзьве—усё курыў, раз па разу пляваў і даводзіў усіх да рогату. Вочы яго блішчэлі, шапка была ссунута на патыліцу. Пасьля, як пайшоў ён, Аляксандар Махлак выказаў:

— Вядома, што, калі чалавек, як утрапёны які, і языком, можна сказаць, меньціць, і нагам спакою не дае, дык гэта ён нешта мае патом у галаве. Гэта ён табе тут ня з ласкі на пацеху нагам гэтакі ход дае. Чаго ён гэта тутака сядзеў бяз дай прычыны?! Выпытаць нешта хацеў, от што. Гэта ён нешта ўжо арудаваць зьбіраецца. Чаго-ж бо гэта ён так трапятаўся-б па сьвеце, як чорт, ня пры нас казана, на ражне?! Утрапёны нейкі, няхай ён спрахне. З ім трэба асьцярожна.

Антось Макарэвіч сказаў:

— Яго мусіць нешта за сэрца скрабе.

Тады Махлак ядавіта ўсьміхнуўся:

— А каму-ж лепш ведаць, як не табе.

— Чаму гэта мне, канешне, ведаць?

Махлак адно сказаў:

— Н-ну!

І сказаў гэтак, што ўсе глянулі на Макарэвіча, а ён павінаватаму загаварыў:

— Якое гэта каму дачыненьне павінна быць да каго. От-бо людзі! Канешне, каб надазаляць другому, каб от душу даставаць усялякімі хітрыкамі. А няхай-бы яно правалілася, цьфу!

Выгляд у Антося быў такі, што Махлак больш не ўспамінаў яму пра Чаркаса.

А за тыдняў некалькі да гэтага, каваліха дзён тры старалася даводзіць усім, што Чаркас сіберны азіят і арыштант бяз душы і сэрца, бо ў самую жалобу давёў усіх да сьмеху і не сароміўся тупаць каля Надзі.

---

[1]) Новыя разьдзелы з роману „Вецер і пыл“.

Справа была гэтая тагды, як хавалі Макарэвічыху. Антось ня меў чым колькі трэба было заплаціць папу, і поп адно ў хаце зрабіў адправу, а на могілкі цела не праваȝіў. Дык тагды ў дварэ паставілі труну на сані і павязьлі на могілкі. Як выносілі з хаты труну каваліха раптам падняла лямант:

— А божа-ж мой міленькі, што-ж гэта яны робяць! Гэта-ж на кабыле нябожчыцу, вечны спакой, павязуць. Маладая кабыла жарабят ваȝіць ня буȝе. Няўжо гэта, Антоська, ты каня ня мог у каго дастаць?

Тагды Чаркас панура сказаў:

— Хіба мы тут пачакаем, а вы пабяжэце, цётка, на хутар да Купрыяновіча жарабца папрасеце. Сьмялей буȝе.

Усе зарагаталі. Наȝя з ціхім папрокам глянула на Чаркаса, а ён падыйшоў да яе і да самых могілак ішоў поплеч з ёю.

За труною ішлі ўсе. Усе з пасёлку, амаль усе з хутароў, нават з мястэчка. І йдучы, гаварылі пра нябожчыцу, пра Чаркаса і пра Наȝю. Гаварылі найбольш жанчыны:

— Гэтая небарака ȝяўчына гора ўжыла на сваім вяку, з малых ȝён на люȝі служыць пашла, а цяпер увесь клопат на яе галаву.

— І работа на яе рукі.

— Але небарачына.

— А патом якая мажная! Твар які белы, круглы.

— Яна добрая ȝяўчына.

— Кажуць вельмі ўбораў наспраўляла сабе, як паслужыла ў гораȝе.

— А аȝяецца проста, ня лішне франціць.

— Шануе, вядома. Гаспадарская ȝяўчына. Ня то што шарахвост які.

— Чаркас, ліха яму, і не адыхоȝіць ад яе.

— А ён гэткі.

— Ня мае ён і сораму.

— Дык ȝіва вялікае, што ён пройȝе з ёю. Няўжо-ж жанатаму з ȝяўчынаю і загаварыць ня можна.

— Ня то што ня можна, а як ён усё паглядае на яе. Проста вачыма есьць.

— Ай, яны ўсе гэтакія.

— Нябожчыцы Антосісе таксама ня мёд быў жыць.

— Адкуль, што гаварыць!

Пасьля пахаваньня, Чаркас не захацеў ісьці на памінкі. Антось папрабаваў сьперш прасіць:

— Як-жа гэта, браце, ты-ж і дол капаў, і так памагаў.

— Не магу, браце. Вельмі-ж часу ня маю.

І пайшлі яны ўдвух у мястэчка з Аляксандрам Махлаком. Напрамік нельга было йсьці—вельмі пасля адлегі абгалалёȝела сьцежка. Пайшлі дарогаю. Было здалёк відаць, як Чаркас размахвае рукою, нешта гаворачы Махлаку, а Махлак зьвешваў на правы бок галаву і падтульваў плячо, пра нешта разважаючы.

А Міхал Макарэвіч на памінках быў, выйшаў адтуль трохі падпіўшы, з пачырванелым тварам. Хлопцы праводзілі яго да самае хаты і ўсю дарогу слухалі, як гудзе яго голас:

— Хлопцы таксама памагалі Антосю, а на жалобную вячэру ні адзін ня прышоў. Не прызнаюць, значыцца. Ну, не прызнаюць. Цяпер няма гэтага. Ну, няхай сабе няма. Даўней было, значыцца, а цяпер няма. Яно патом зараз зьвядзецца ўсё гэта... Як ты там яго ні памінай, што там па ім ні пі, ні еж—яму ўсёроўна. Земля—й больш нічога. От закапаюць у зямлю: родныя дзеці! Наваляць тры аршыны зямлі, ценжар гэтакую, там пэўна й труна гэтая раздушыцца як сьлімак які, значыцца пад нагою і... От-бо на сьвеце як яно ўсё йдзе. Жыве-жыве, а пасьля от-бо памерці, канешне, трэба! Яно-то ўсёроўна няжывому — ці тры аршыны ты на яго навалі, ці хоць тры вярсты ўглыб, але жывому як падумаеш, дык страхата нейкая. Каб гэта, здаецца, як-небудзь прыстроіць, значыцца, што гэтакае, каб не закопваць, а ў паветра як-небудзь, на волю яго, значыцца. Высока як-небудзь яго, каб сьвету не засмрооваў, але-ж каб і ня гэтая ценжар зямлі! Каб от вальней, вальней як-небудзь, ці як, ці што, ліха яго ведае... От-бо... Жыць, вядома, усяму жывому хочацца, ня то, скажам, чалавеку. Як гэта чалавек умірае. Ведае, што ўмірае. Нічога зрабіць ня можа. Ня мае сілы чалавек, нічога парадзіць ня можа. Нешта наваліцца, значыцца, на чалавека—і канцы. Што т-ты зробіш! Аяй-аяй! Кожны, хто-б ён ні быў — жыве-жыве... І гады прайходзяць, і назад іх ня вернеш, і што зрабіў—не пераробіш, і што сказаў—ня возьмеш назад... Мне цяпер, значыцца, шэсьцьдзесят першы год, жыць мне, можна сказаць колькі засталося?! Я пра гэта лішне й ня думаю, галавы не забіваю, а от калі ўзбрыдзе на думку, дык агні яго ведаюць... Не, я яшчэ здароў, няма лішне мне пра гэта чаго думаць. Хіба можа так якая, як той казаў, хуртовіна, падкоціцца, ну, дык тагды... гэта бывае. А так, дык пакуль што..

Ён шкрэбаў сваімі ботамі па дарозе, шырока расстаўляў ногі. Ногі ў яго заўсёды гэтакія, растапыраныя нейкія. Ступае ён цьвёрда, але рухавым бывае вельмі часта. Лёгкім нейкім робіцца. Любіць доўга стаяць на вуліцы, глядзець у адно мейсца і разважаць паціху сам з сабою, пакіўваючы ў тахту словам сваім, галавою.

Прайшоўшы па дварэ, ён пацьверазеў. Утуліўся ў кажух, каля свае хаты ўсьміхнуўся ў каўнер:

— Чаркас, падла, лоўкі хлопец, зух. Жарабца, кажа, пайдзі да Купрыяновіча папрасі. Трасца яго мат-тары што за штукар!

Памаўчаўшы:

— Цяпер, Антосю жаніцца прыдзецца, няйначай. Надзя замуж як пойдзе, дык тагды...

— Можа пакуль што ня пойдзе.

— Як гэта ня пойдзе, гэтакая дзяўчына! Ёй цяпер самы раз замуж. А што-ж, не?.. Ну, то я хіба пайду.

І зашкрэбаў да ганку. А хлопцы засталіся стаяць на вуліцы.

Хаты пастаўлены рэдка. Ад хаты да хаты —доўгія платы. Вуліца шырокая і ў канцы чарнее студня. Поле белае ад месячнага сьвятла. Чорным якім стаіць за агародамі лес! Ветру няма, але лес усёроўна шуміць. Шуміць—ледзьве прыкметна для вуха. А можа гэта, прывыкшы, здаецца. Больш нідзе няма ніякіх зыкаў. У некаторых хатах яшчэ трымаецца позьняе сьвятло.

---

Надзя Макарэвічава цяпер заўсёды была ў клопаце. Раніцамі, яшчэ нацямочку, па разоў два ці тры, прыйходзіла яна пад студню па ваду, і як нясла яна свае поўныя два вядры назад, хлопцы, поячы коні, глядзелі ёй усьлед, аж пакуль яна не хавалася ў сваім двары. А бабы гаварылі:

— Хлопцы аж млеюць па ёй.

— Патом відаць, што яна гарадзкая.

— Якая яна гарадзкая!

— А што-ж, не?! От адметнейшая ад усіх.

Міхал Макарэвіч, адкідаючы шуфлем ад студні пасечаны лёд, умяшаўся быў раз у гэтую гаворку:

— А такі яна адмятнейшая, гэта правільна. Яна, значыцца, у горадзе выбічкавалася. От бачыце—яна сабе робіць і нікому, значыцца, ня здрастуе.

Адна з жанчын зларадна заўважыла:

— А яно такі й відаць, што яна Чаркаса прыймае, калі-б ён ні прыйшоў. Вы думаеце гэта плёткі? Чаркас—дык яго справа мужчынская, яны ўсе гэтакія Але яна! З жанатым чалавекам!

Тады нейк нечакана для самога сябе Міхал заступіўся за сваю нябогу:

— А ты бачыла?

— Можа й бачыла, а можа й не. Усе людзі гавораць. Я сама ад сябе ня выдумала.

— А калі-б нават яна й сапраўды, была, значыцца, такая грэшная, дык якое каму дачыненьне павінна да гэтага быць? Усякі глядзі сябе? Ты бачыла, я цябе пытаю?

Жанчыны ўсе разам нешта загаварылі, а Міхал плюнуў:

— Займіся з бабамі!

І падаўся да хлопцаў. А пасьля, управіўшыся каля студні, пайшоў да Антося Макарэвіча, каб пагаварыць з Надзяю.

— Жывучы, усяго бывае. Тагды ты на мяне можа й коса была каля студні глянула, як я загаварыў быў пра тое каб, замуж, значыцца...

Надзя адцэдвала сьвіную картоплю і нявыразна чула яго гаворку. Ветліва сказала:

— Можа-б, дзядзька, блінца сьвежага зьелі.

— Цёплы?

— Гарачы.

— Н-ну... Яно гэтак...

Мажучы здорам блінец, ён расказаў пра гаворку каля студні. Надзя ніводным словам не перабіла яго. Як скончыў, сказала:

— Няхай плешчуць, горлаў не пазатыкаеш.

— Я гэтак мяркую—плюнь ты на ўсе гэтыя гаворкі, чорт іх матару бяры. Я ім так і ў вочы сказаў—ты, пытаю, бачыла? от-бо каб на іх спрутная найшла, каб хуртовіна якая ўкацілася.

Зьеўшы блінец, стаў каля печы грэцца. Увайшоў Антось. Сеў каля парогу перавязваць гуменную мятлу. Міхал глядзеў, як у мыцельніку ўпраўляляся Надзя. У хаце было змрочна—мароз густа сеў на маленькія шыбы. Пахла паранымі буракамі і мерзлым бярозавым венцам. Малы Надзін брат сам падшываў сабе лапці—цяжка яшчэ было яму калоць у сухім скураце дзіркі і дзіцячымі пальцамі працягваць дратву. Лапці падшываліся марудна, скурат дрэнна прыставаў да сьцёртага лыка. Міхал падышоў да малога:

— Нічога, дзетка, у цябе ня выходзіць. Адно крэкчаш, небарак. Пакажы сюды.

Пакруціў у руках лапаць, сеў і падшыў. Гаварыць ня было чаго з Антосем, ды й дрымота пачала апаноўваць яго. Надзя пайшла ў сенцы малоць у жорнах вобмешку.

— Надзя меле?

— Але.

— Адвыкла яна, мабыць, ад жорнаў.

— Праклінае іх на чым сьвет стаіць. Можна, кажа, як-небудзь старацца, каб не малоць саматугам. Нашто, кажа, здароўе губіць. А тут як ты пастараешся. Горуе небарачына. Як гэта ўсё зрабілася! Каб старая жыва была, дык зноў паехала-б яна служыць; зьбіралася ўжо нават. А тут—на табе! Дзе коратка, там і рвецца. Божа мой,божа мой!

Міхал доўга маўчаў, сядзеў на лаве і гойдаў паціху нагамі. Антось гэтаксама доўга, увесь час, пакуль сядзеў Міхал, бедаваў усё, божкаў. У сенцах гулі жорны. Антось стаў абвязвацца башлыком, іцьці корпацца на дварэ. Міхал устаў, пазяхнуў і пацягнууся.

— Нявестка будзе бурчэць. Я ўжо ведаю. Пачне ўжо: „пашоў пад студню лёд адкідаць, а няма ведама куды дзеўся на цэлы дзень“. Цьфу, каб ты згарэла, гэтакая кабеціна, каб ты.

Сказаў гэта, ён сам сабе пацiху, можа нават ніхто ў хаце не пачуў, ці не разабраў. І выйшаў з хаты. Паглядзеў яшчэ ў сенцах на Надзю, пасьля пастаяў у дварэ і падаўся да Агаты Ўласавых, бубнячы сабе пад нос:

— Чорт іх матару бяры, няхай вар'ююцца. Ніякую трасцу самі робяць, мала я папамалаціў гэтыя дні!? Я хворы чалавек, у мяне нага адранцьвела.

Надзя малола доўга. Спачатку хацелася ёй, каб хутчэй змалоць, а пасьля, у палавіне мліва, нейк усёроўна стала калі дамеле. Паволі і роўна круціла млён. Трохі гарэлі далоні рук—млён быў новы, ня

гладкі і ня спрытны. Аднастайна, пагультайску гулі жорны і вельмі-ж патроху, што аж смутак апаноўваў чалавека, сыпалася збоку ў сявеньку мука. Надя й не сьпяшалася. У сенцах было змрочна, усё выглядала ціхім і марудным. Каля жарон напылена мукою, і мох у сьцяне над імі ўвесь пабялеў. Патыхае гарачым расьцёртым каменем; а далоні, яшчэ ўсё адвыклыя ад гэтага тоўстага млёну, гараць. Неўзабаве ўжо ўсё патроху зьмелецца, але ўсёроўна—няхай сабе цягнецца. Іншая работа—дык яна значна, а гэта—колькі ты ні стой каля жарон, вялікіх сьлядоў ад гэтае работы ня ўбачыш...

З столі зьвешваецца запыленае павуціньне, над лескамі з гары тырчыць, зьвязанае чырвонаю істужкаю высахлае зельле. „Яшчэ мама зьбірала ды сушыла, мусіць на лякарства якое. Можа гэтым самым лячылася, пакуль не залячылася на той сьвет“.

Ужо мала зусім застаецца малоць. Непадсеяны, высушаны на печы, авёс у дне пасудіны трохі з пяском. Жарства чуецца пад каменем, камень з аднаго боку падняўся, скрабе берагам. Паўпрыца гатова з шпенька саскочыць Няхай саскочыць. Няхай раскідаецца. Нашто, калі ветракі стаяць без работы. Калі на хутарох з-пад лёду б'ецца вада й падае на калясо. А ў сенцах—гэтых змрочных і халодных—гэтак нудна каля жарон. Хоць-бы ціха гэтак ня было. У пазох сьцяны мох пачарнеў і запылеў, высах увесь, выпетраў і вышмаргаўся пад лескамі. І сьцяна абгладілася. Ці ня матчыным гэта аденьнем, калі нязьлічоныя разы за свой век лазіла яна на гару, де яшчэ засталіся пучкі зельля, бутэлькі, паколаныя гаршкі—дабро, на якое вельмі часта мераецца жыцьцё? І лескі гэтыя скасабочыліся. Яны ўсе тут стаялі і тады, калі не малола Надя ў жорнах, а гуляла ў лялькі каля гэтых самых жарон. І на іх-жа прысела была матка паплакаць, выправіўшы яе ў чужыя людi служыць. Ці даўно ўсё гэта было? Нядаўна гэта было! І нічога на сьвеце няма, што-б даўно было. Мала чалавеку жыцьця яго на зямлі! Парыць целам зямлю—ці гэта-ж лёс? І тады, калі сын дiцячымі рукамі скурату пад лапці яшчэ ня можа падшыць! Калі на яго нагляdецца ўволю нельга было, уміраючы!.. Нічога, ён будзе ўлетку з цямна да цямна пасьвіць чараду кароў, а да лета можа і набярэцца сілы сам сабе падшываць лапці. Але ўлетку і лапцей ня трэба, улетку і босаму цёпла. Нават і тагды льга без лапцей абыйсьціся, калі прабітая на палявы стырчак ці на лясны корч нага пачне нарываць. Тады нагу можна перавязаць анучаю—чаго-чаго, а ануч павінна хапіць, быць ня можа. Нават і лепш з анучаю буdе, бо лапці трэба кожны вечар нанач скідаць, а анучу не канешне. Можна й ня турбаваць хворае нагі, асабліва, калі ануча прыкарэла да цела жоўтым нарыўным гноем, перамяшаным з чорным крывяным сокам ад растаптанага ў часе бегатні за каровамі нарыву. Але гэта буdе яму навука—стане ён асьцярожным і спрытней пачне бегаць на пальчыках, а не наступаць на ўсю падэшву нагі. А пад'еўшы цыбулі з квасам—цяжкім лішне ня буdеш, так што лёгка можна скакаць і на пальчыках.

Чаго-ж маўчыць Няᴤя, пакінуўшы круціць жорны і прыціснуўшыся галавою да скасабочаных лесак?

---

Ᵹьверы былі прычынены - абы ня было цёмна і каб не нясло вельмі холадам. Але чалавеку прасунуцца ў гэтую шчыліну было нельга. І Чаркас махам левай рукі шырока адчыніў дзьверы. Наᴤя стаяла каля лесак.

Мусіць шмат ужо было перагаворана між імі, калі гэтак вольна падышоў Чаркас да Наᴤі.

— Дабрыᴤень.

Яна кіўнула яму галавою і нічога не казала. Нейкі час ён стаяў каля яе, спакойна і ціха—вядома, ᴤе гэта ёсьць, каб ᴤяўчына была вясёлаю, пахаваўшы маці? Чаркас і ня думаў суцяшаць яе—што-ж гэта было-б за ᴤіця, якога сьмерць мацеры не давяла-б да жалю? Пасьля Чаркас сказаў ціхавата:

— Нічога, усё пройᴤе.

Наᴤя адразу ўздрыганулася:

— Прайшло-ж усё.

— Ну, то што ты зробіш... Бацька ў хаце?

— Неᴤе выйшаў.

— Вядома цяжка прывыкаць, калі ўсё разам на шыю лягло.

— Мне не ад гэтага горна.

— Можа яшчэ рана пакуль што гаварыць, але бацьку трэба гаспадыні якое ў хату прыстарацца.

— Ажаніцца?

— Але.

— Як сабе ён хоча.

— Не, не... Хоць ён і не малады, але ў гэта ніхто вельмі заўзята умешвацца не павінен.

— Мне не ад гэтага ўсяго горна, што здарылася...

Чаркас падступіў бліжэй і маўчаў.

— Мне горна ад таго, як яно ўсё рабілася Як ішлося да гэтага. Як яна ўмірала, глеᴤячы на малых, што ў хаце цэлую зіму сяᴤяць, бо абуцца ня маюць у што. Як яе сэрца балела, ведае-ж яна, што ўмірае. А мне што—ўсё лягло на мае плечы, дык я ж прывыкла да ўсяго. І іх выгадую, я іх усіх даглеᴤу. Няхай сабе і гэтак, хоць прасьветлае гаᴤіны ніколі мець ня буду, мне самой нічога ня трэба. Ёсьць люᴤі, што й горш яшчэ жывуць...

— Нельга так, каб было.

— А як?

Яна не магла стрымаць сваіх сьлёз.

— Ці трэба вам гэтую вобмешку тут у жорнах душыцца-малоць? І вы кажаце, што і павінна гэтак з вамі быць. .

— Я не кажу, што павінна!

— Ня можна гэтак...

— А як? Ну гаварэце як, калі ў хаце няма вопраткі на плечы ўскінуць, калі меншаму вучыцца трэба, а ён босы на печы сядзіць! Калі ёй хворай трэба было есьці лепш, а дрыжалі, каб яна лішняга кавалку цукру не спажыла, бо за што яго купіш? Усё, што я заслужыла, пашло.

Чаркас стаяў перад ёю, высокі насупроць яе, вышэйшы за яе на цэлую галаву. Заўсёды гаваркі з людзьмі—маўчаў цяпер перад ёю. Засунуў кулакі ў кішэні свае вопраткі. Вопратка—кароткая браварка, не даўжэйшая за непадперазаную сарочку, вышмарганая—з белымі, аблезлымі рубцамі—калісьці сукно было шэрае, пасьля пафарбавалі яго начорна, а гэта фарба сьціраецца пачала. У цёмных сенцах адны вочы яго гарэлі вострым сьвятлом. Надзя супакойвалася патроху. Адставіла ад жарон сявеньку з мукою, запрасіла Чаркаса ў хату.

— Не, я можа зайходзіць ня буду. Каб бацька быў у хаце, а то калі хто зойдзе—і так меньцяць языкамі.

— Я й сама ня ведаю,—глыбока ўздыхнула Надзя.—Што гэта робіцца і што будзе—у мяне галава кругом пайшла... Нашто вы ўсё гэта выдумалі. Няўжо вы ня бачыце самі... мала што дзяўчына якая ў каго ў вачу калі стане; вы-ж жанаты, у вас-жа дзеці...

— Я ўсё гэта лепш за вас ведаю сам. І нічога зрабіць не магу Колькі пападумаў над гэтым.

— Да чаго гэта ўсё давядзе!

— Ня мог нічога на гэта прыдумаць.

— Няўжо-ж, ня думаўшы, гэтак і будзе цягнуцца?

— Ня думаўшы ня можна.

— Можа зусім вам не пападацца мне на вочы, ці мне вам?

— Каб-жа гэта спакой мне дало.

— І я спакайнейшаю была-б.

— Заўсёды жыў, думаючы, а гэта думаць не магу. Што я павінен рабіць тут?

— Няўжо вы гэтакі слабы чалавек?

— Не магу бяз вас.

Яна апусьціла на зямлю вочы. Рукі яе няёмка віселі. Відаць, адчувала сябе ніякава.

— Надзя!

— Ну?

— Я-ж вам ня раз гаварыў.

— Што вы мне гаварылі?

— Я не магу бяз вас.

—Хіба-ж гэта паможа ўсяму гэтаму. У вас-жа двое дзяцей і жонка.

Мусіць, здорава ўзяло Чаркаса за сэрца, што аж застагнаў ён, моцны гэтакі чалавек. Адразу-ж падышоў ён шчыльна да Надзі, прыціснуў яе галаву да сваіх грудзей. Надзя, ціхая і пакорлівая, стаяла ў яго абдымках, расчуленая, устрывожаная плакала:

— Які неспакой мяне душыць.

— Але-ж і цябе да мяне цягне?

— Хіба-ж я не прагнала-б вас даўно ад сябе, каб не цягнула?

— Памятаеш, як першы раз каля студні ўночы я спаткаў цябе быў і праводзіў да двара?

Яна сама цяпер ціснулася да яго, такая ціхая ад усяго, што здарылася з ёю ў гэтыя апошнія часы.

— Надзя...

— Вы-ж зусім не гаворыце ніколі гэтак ласкава. Як у гурце мужчын—дык які непадобны да цяперашняга.

— Хто?—ня слухаючы і ня думаючы сказаў.

— Ты.

Як-бы нейкае вялікае разбурэньне зрабіла гэтае нечаканае для яе самое „ты“. Усім тварам сваім прыціснулася яна да яго грудзей. Ён гладзіў і цалаваў яе галаву, яшчэ ўсё адчуваючы нешта і як-бы бацькаўскае да яе. Раптам яна адапхнула яго ад сябе і сама адступіла.

— Мы-ж ня дзеці малыя, гэта-ж ня цацкі. Што-ж з гэтага можа быць? Нашто-ж нам толькі мучыць адно аднаго, самім самахоць ісьці на пакуту? Бо чаго іншага можна нам чакаць ад гэтага? Ня прыходзь ты ніколі. Ня трэба нам бачыцца, дык мы забудзем.

— Усёроўна я спакою мець ня буду.

— Ідзі, ідзі.

Чаркас стаў як малое дзіцянё. Дзіка кінуў навакол сябе вачыма, падаўся паслухмяна да дзьвярэй і назад падступіў да дзяўчыны.

— Ідзі. Вы-ж самі ведаеце, што гэта будзе лепш.

Тады ён падагнуў плечы і паволі выйшаў з сянец. Надзя чула, як паволі скрыпяць на панадворку яго крокі, чула, як калацілася ў яе сэрца. Увайшла ў хату, глянула ў незамерзлую месьціну ў вакне. Чаркас стаяў у варотах на вуліцы. „Усе бачаць, больш яшчэ гаварыць будуць“, падумала. З смуткам адышлася ад вакна, ня ведала, за што ўзяцца. Пайшла зноў у сенцы і як выграбала з жарон вобмешку, чула, як дрыжаць рукі.

---

У той дзень, пад вечар, Міхал Макарэвіч з апошніх слоў вылаяў на вуліцы кавалíху. Чаркас тагды доўга не стаяў у Макарэвічавых варотах, але ўсе заўважылі яго. Як зьнік ён з вачэй, на вуліцы сышліся тры жанчыны. Адна была кавалíха. Міхал Макарэвіч шкрэбаў па вуліцы дадому. Кавалíха моцна гаварыла:

— Бачылі, як Антосяў прымак у варотах стаяў?

— Які прымак?

— Вышла гэта я на вуліцу, аж бачу—стаіць ён у Макарэвічавых варотах.

— Хто?

— Чаркас.

Міхал пачуў гаворку і гукнуў:

— А каб цябе ўжо нечага прыняло з гэтага, значыцца, сьвету, як ты, ліха тваёй матары, прымака нейкага ўбачыла, каб ты сьвету ня бачыла.

— А табе чаго ўкалола?!

— А каб цябе колка калола, сьцерва языкастая. Як ты ўсякага косьці апалошчаш, каб цябе няжывую апаласкалі.

— Чаго ты ўзьеўся, дэраш кульгавы!

— Чаго-ж ты пляцеш, халера цябе ведае што. Што ў цябе работы іншае няма, ці што? Што ты маеш да гэтае дзяўчіны. Яна богу душэю нявінна.

Міхал цьвёрда стаяў пасярод вуліцы, мусіць зьбіраючыся доўга і не на жарты прабіраць каваліху. Але жанчыны, да чаго ўжо скваппныя да гэтакіх здарэньняў, а й то разышліся—вельмі-ж сіберна лаяўся і крычаў Міхал. Каваліха, аскірзаючыся, таксама зьнікла, і Міхал пашкрэбаў далей, не пакідаючы бубніць сабе пад нос. Дома на яго адразу навалілася нявестка:

— Няхай-бы ты, бацька, шуфель прынёс быў раней, а то як пашоў зранку, дык ні самога, ні шуфля. Шуфель у гумне патрэбен быў.

Міхал пачухаўся:

— Я яго, каб ён скіс, забыўся ў Антося.. Чорт яго ня возьме, заўтра прынясецца.

— Сам не прынясецца.

— Пайду й прынясу.

— Ідзі есьці.

— Чаго ты бурчыш, ведзьма? Ня можа яна ласкавей сказаць.

— Чорт яго ўсім наласкавіцца... Кожнаму асобна есьці з печы цягні. Ня мог ён у пару прыйсьці.

Але аднак паласкавела:

— Я пашлю малога, дык і прынясе шуфель.

— Пашлі сабе малога. Я яго там у дварэ за вуглом паставіў.

І ён пачаў расказваць, як кагадзе вылаяў на вуліцы каваліху. Нявестка села прасьці. Міхал скончыў есьці і гаварыць, накрыў настольнікам хлеб на стале, скінуў боты і палез на печ. Пахла ў хаце кудзеляю і на печы яшчэ сушаным аўсом. Авёс сушыўся, рассыпаны на чаране. Міхал падгроб авёс к коміну.

— Чаму вы аўса не зьберацё?

— Яшчэ ня высах.

— Як то яшчэ, гаспадары! Гэты сабраць, ды сырога насыпаць.

— Ну то зьбяры ды насып.

— Чаго ты, баба, аскірзаешся?

— Бо камандуе, ногі на печы выцягнуўшы.

Міхал змоўчаў, пачухаў плечы. Паспрабаваў аўсянае зерня на зуб, разаслаў на авёс старую капоціну і палажыў на яе галаву. Падрамаў, падрамаў і заснуў. Калі прачнуўся, адвячорак рабіўся ясным, на

сьценах клаўся сарамяжы водблеск захаду. Міхал паволі зьлез з печы, абуўся. На дварэ чуваць было—упраўляліся нанач з кароўмі і коньмі. Міхал усьцягнуў на плечы кажух і паклыбаў у гумно. Сьнег трашчаў пад нагамі. „Мароз большае, бачыў ты"—сказаў сам сабе. У гумне памог завіхацца каля ўпраўкі. Ператрос аўсянае саломы з сенам каровам нанач, пастаяў трохі, прыпёршыся задам да заперы. У адчыненых дьвярах гусьціцца пачынаў сіняваты змрок. Белае сьвятло ішло зьверху, з шчылін і ваконца ў шчыце. Так стаяў у гумне і адчуваў здаровую сьвежасьць блізкага вечару. Лёгка яму было і добра. Пачаў сам з сабою разважаць. „Чорт яго ведае, каб гэта ўзяў ды ажаніўся, што я буду так марнець на сьвеце". Памаўчаў, пасьля зноў: „яно, значыцца, гэтак, каб узяў ды ажаніўся. Я нікому ня здрастую. Такі ажанюся, на чорта мне так гібець: ні справа, ні работа. Іншы кажа тое ды гэтае, а я... От вазьму ды ажанюся, і тое самае, калі бог дасьць, здароўе будзе".

Шырока заграбаючы нагамі, пайшоў з гумна. Пагаварыў з сынам аб гірсе ў жыце і спакойна, здаволена, бубнячы сам пад нос пра ўсё-ўсялякае, што брыло на памяць і тут жа уцякала з яе, пайшоў у вулічныя вароты пастаяць і пагля́дзець, што робіцца на пустой вуліцы. Злубянелы кажушок тырчаў на ім ува ўсе бакі, як бляха.

Уладімер Хадыка

## Табе я сёньня не скажу...

Табе я сёньня не скажу
Пра злучнасьці, што ў марах тояць...
Прайшлі ўсялякую мяжу
Мае пачуцьці і настроі.

Патух у поплаве касьцёр,
Пад сьнегам выветраны попел.
Мінулай горкасьці асьцё
Нікога болей не захопіць.

На белым фоне камяніц
Стаю адін, як чорны статуй.
Малюся шчыра, паўшы ніц,
Ў адплыў на шэранькую хату.

Ўва мгненьнях прыкрасьці няма
І злосьці ў сэрцы—ні на кога.
У санях срэбраных зіма
З званкамі едзе на дарогу.

Іду за ёю я на шлях
І ў целе скача кожны атом.
Мне стала любаю зямля
І маладік старэйшым братам.

Як гмахі, ў зорную асець
Растуць-дымяць заводаў трубы...
Ніколі нельга пастарэць,
Калі жыцьцё мы моцна любім.

Стаяць, апетыя трыкраць,
Былыя постаці і лікі.
Мы імі будем абвінаць
Жывых бярозак чаравікі.

І вось, каб сьледам валадець,
Каб сьцежку бачыць—без намеру,
Крычу: надуманай хадзе
Ніколі ў сьвеце не паверу!

На нашым ўскружаным вяку
Бывала шмат славутых фактаў...

Я смутак ў сэрцы пасяку,
А бацька сядзе мой на трактар.

Я кіну сьпеўную іржу,
А бацька мой—рызьзё старое..
Прыходзь тады... я раскажу
Пра злучнасьці, што ў марах тояць.

## Пароша

Прыкрасьці. і сэрца болю
Распасьцёрты чорны мошаст...
Першы раз на наша поле
Сьнегу выпала пароша.

Першы раз на нашы гоні
Паглядзеў халодны вечар.
Вушы просяцца ў далоні,
Каб ня чуць зімовых спрэчак...

На гары атрускі сквапы
Ашчаперылі бярозу.
Каля млыну коняй храпы
Пасівелі ад марозу.

Ім бы кожнаму па торбе,
Каб забавай елі сечку...
На ўзьбярэжжы вербы горбяць
Сьпіны шэрыя на рэчку.

Ледзяныя зглухлі хвалі—
Надарвіся хоць ад крыку!
З сьлёз—астуданых крышталяў—
Бранзалетку можна выкуць.

Можна зваблівай дзяўчыне
Падарыць яе ад стрэчы...
Вока радасьці ня кіне
І тугу хвароб залечыць.

Не хачу нікому верыць!
Сэрца цудаў не чакае...
Звоніць раніца у дзьверы
Рыжакосая такая.

Верабей, як сноў пялёсткі,
Атрасае з яблынь іней.

І яго, напэўна, жорстка
Падманулі на мякіне.

Ён цяпер, як сумны доказ,
Чуе хітры шчэбет самкі...
Хто там, выгнаны з далёку,
Ходіць злодеем ля клямкі?

Хто там голасам люгашак
Ганіць болю чорны мошаст?..
Першы раз на поле наша
Сьнегу выпала пароша.

**Лукаш Калюга**

# Ільлюк дасьледчык

*(Якой ён бяды сваім досьледам аднаго разу нарабіў)*

I

Блага цяпер жыць Ільлюку прымаку, як сваю Альжу пахаваў. Ды й за яе бытнасьцю не вялікая роскаш была. Благая была жонка—сварлівая. Да чужых людей ня кідалася Альжа рап'ём у вочы, як гэта робяць другія ўпраўныя жонкі. Ну, не бяз таго—бывае наробіць зводаў. (На гэта кабет здало). Перш наробіць, а потым буде клясьціся, бажыцца, што ўсё гэта няпраўда—не яна казала, а благія абрэхлівыя люді здумалі, каб ачарніць яе. Альжа гатова на прысягу стаць, што й моды такой ня мае, каб на людей за вочы напасьць накладаць.

— Я,—кажа,—калі што на каго маю, у вочы звайцяю. Перад людьмі скажу, калі каму выгаварыць трэба,—ці ты цётка, ці ты Юста, ці ты чорт, ці ты д'ябал, ці як начай цябе завуць: тое й тое ты брыдка робіш.

Ды ня так на зводы довяг Альжын язык, як да сваркі ён спрыцен. Яна слова не перапусьціць свайму мужыку, што-б ён ні казаў. У вадно слова дзябе:

— Ілжэш! Де ты быў? што ты бачыў?

— Да я сьвет схадзіў, мір народу знаю.

— Там ты, мусіць, і лгаць навучыўся.

— От ты папробуй—салжы.

— Што мне лгаць?! На мой век і праўды стане. Толькі слухаць ня люблю, што многа лагоніш і, што ні слова, дык салжэш.

І праўда: Ільлюк, каб было з кім, любіў-бы многа пагаварыць. Гэту прывычку ён яшчэ дома, да таго як у прымы ў Баркаўцы не аставаўся, папаў быў. Тады сталярку рабіў дома ў сваёй хаце ў доўгія зімовыя вечары. Хто папросіць вокны парабіць у новую хату, таму вокны майструе. У каго стары стол збуцьвеў, той у Ільлюка рабіў сабе новы. Калі каторай дзяўчыне добрыя сваты пасватаюцца, а куфра шчэ яна ня справіла сабе, дык і тады Ільлюк з бяды выкупіць—змайструе што трэба.

Ня было таго вечара, каб Ільлюк згуляў. Кожан раз над дошкамі з гэблікам крукам стаіць. З шурпатай на гладкую кожную перарабіць. Ён сабе габлюе, а мужчынскі гурт, да іх сабраўшыся, так сабе якую гаворку распачне. Адзін гладка салгаць умее, што й сок не пацячэ. Другі цікавую праўду раскажа, Ільлюк-жа ўсё гоніць істружку ды слухае.

Дадене яму гэблік цягаючы. Выкалупае з жалязка ўсякае балота, што туды набілася, выдзьме драбязу. Тады адпачыць сядзе на вярстаце, Папросіць у каго закурыць. Скруціць папяросу з чужога тытуну. Пусьціць дымок поверх галоў ды сваё ўмелае слова ў гаворку прыкіне. Тады нікога яму наперакор ня было.

Астаўся ў прымы, дык Альжа стала—ад'ядае сэрца. За кожным разам звайцяе:

— Шалахвост ты! Як табе язык не забаліць?

Не такая-б злосьць Ільлюку, каб яна гэта ў сваёй хаце сам-на-сам калі сказала, ато й пры людзях ані не сьцеражэцца.

Альжа—баркаўчанская жанчына: тут яна радзілася, тут і гадавалася, гэтакая самая ўдалася, як і ўсе. Болей загадаць ды камандаваць любіць, як работу рабіць.

Ільлюк-жа па сьвеце цягаўся. Многа чаго бачыў, шмат чаго ад людзей чуў. От яму й цікнула аднаго разу: чаму гэта ў іх хаце сваркі многа, а злагады нямя. Ці ня мае сабе Альжа палюбоўніка? Можа з тым лашчыцца, а з Ільлюка адзін зьдзек. Гэта-ж ходзіць па людзях такая пошасьць.

Як запала Ільлюку благая думка ў галаву, дык і есьці таго дня ня ўзяў і работу рабіць залянаваўся. Людзі косы клеплюць—стуку паўнюсенька вёска. Назаўтрае ўсе зьбіраюцца йсьці канюшыны касіць—пара падышла на іх, тым часам: сама што цьвілі. Ільлюк з раніцы меўся ў каапэратыў схадзіць—мянташку купіць трэ' было. Потым як пачаў думаць, дык дадумаўся, што не патрэбна яна яму, што ня сам сабе працуе, а на чорта лысага.

Як напалі на Ільлюка жаласныя мысьлі, узяў рэзгіні і па неўшта пашоў у ток. Ужо даўно стала чыста ў гэтай будыніне: каб жменька сена, каб пласток саломы. У каровы ўжо другі тыдзень як загарадка не падсьцілана, а конь дык ад самай вясны на голым гнаі качаецца. Абое яны жніва ды першага ўмалоту чакаюць. Запалі ток—нічога ня трэсьне там: так чыста. Гэта—ня помнячыся пашоў туды Ільлюк з рэзгінямі. Ідзе і дарогі ня бачыць. Унурыўся, згорбіўся. У твары цёмны, як хмара.

Адчыніў ток. Распасьцёр рэзгіні ля застаронка. Толькі тады агледзеўся, што класьці на іх няма чаго.

Сеў на застаронку. Угледзеўся на рэзгіні. А ў ваччу яго ні двоіцца, ні троіцца—ані нічога ня відаць.

Так ад паўдня 'маль не да вечара, як пасядзеў, дык і надумаўся, якім манерам Альжу дасьледзіць, з кім яна займаецца. Надумаўся і павесялеў.

З застаронку ён устаў. Выцягнуў з току на двор драбінку. Знашоў збанок з мазьзю. Падмазаў колы не шкадуючы. Трэба каб ціхенька пад'ехаць, каб колы ціхенька плюхцелі, а не тарахкалі, як будзе ехаць. Схадзіў 'шчэ раз у ток. Узяў вупраж. Пашоў у хату па вобраць, а адтуль проста на балота.

Альжы дзіва з усіх гэтых выбораў. Шчэ пастух кароў ня прыгнаў, а ўжо Ільлюк каня прывёў дадому.

Альжа загнала авечкі ў хлеў, зачыніла загароду, вышла на двор ды й пытаецца.

— Куды гэта ты проці ночы?

— Да Хлюпску.

— Ці пры сваём ты розуме, чалавек? Гэта-ж заўтра субота: торгу ня будзе.

— Ат, многа ты ведаеш! У мяне знойдзецца торг. От убачыш!

Так Ільлюк і не даслухаў разумнай Альжынай рады. Да самага цямна выбіраўся. А тады, як пашарэла на дварэ, ды людзі пашлі ў хаты, за сталы вячэраць паселі, ён з прызбы набраў у крысо дробненькага, мякенькага жоўтага чвыру. На ганку і ў варотах ім пацярушыў. Сам, пасьля гэтага, сеў на калёсы.

— Но-о-о!—моцна, каб аж у хаце чуваць было, гукнуў на каня. Сьвіснуў пугаю і трухкам патрухаўся з гумна ў той бок, куды ад нас едуць, як трэба ў Хлюпск. Да гэтага мястэчка ад нас рукою падаць. Ніхто туды на нач ня едзе. Каторага дня кірмаш, таго дня ўстаў крыху вораней, аглядзеўся, пасьнедаў—і заедзеш яшчэ ў самую пару і там набудзешся. Але-ж Ільлюку па людзях малы клопат. Ён робіць сваім адумам.

Усё-б добра было, каб ня нашы падшывальцы былі на той час на вуліцы. А то ўсе Ільлюковы штукі бачылі яны. Што гэта азначае добра ня спаздрылі—думалі: варажба. Пасаймікаваліся адзін з адным ды пабеглі да мужчын, што таго вечара на вуліцы сабраўшыся былі. Кажуць:

— Вядзьмак наш Ільлюк.

Усё, што бачылі, як што было, адзін перад адным пахваліліся.

— Далібог!—божацца,—на свае вочы бачылі.

Сталейшыя людзі, не малымі быўшы,—разумнейшыя. Адразачку здагадаліся, што тут да чаго ўходзіць.

— Такі паехаў?—пытаюцца ў малых.

— Паехаў.

— Ну, вядома,—даў адвод.

Жыватоў той вечар траха не пападрывалі. З рогату аж заходзіліся. А малых навучылі як што зрабіць, каб Ільлюка ў бэту ўвесьці:

— Схадзі каторы ды сьлед зрабі на тым пясочку. З хаты і ў хату, каб відаць было, што нехта йшоў.

Малыя—паслушныя: усім гуртам пабеглі. А на Ільлюковай вуліцы сталі й баяцца на двор паткнуцца, каб адтуль хто не пажарыў якою ашчажынаю.

Міхалкаў Кастусь за ўсіх сьмялейшы абабраўся. Ды ногі ў яго не на тандэт, а на заказ выштукаваныя—не ва ўсякага й сталага

гэтакія дабярэш: па добраму лапцю велічыні й пляскатыя, шырокія, як апранікі—ані ўсходу няма на іх. Панскім спацырам прайшоў Кастусь з вуліцы на ганак і назад з ганка на вуліцу. Шчэ й на самым парозе сьлед палажыў.

Толькі малыя вярнуліся пад мужчынскі гурт ды пахваліліся, што ўжо схадзілі сьлядоў нарабілі, дык і Ільлюка ўбачылі як цераз вуліцу пераходзіў. А месячна было, відно.

Прыгнуўся Ільлюк у варотах. Пагледзеў—знаць сьляды. І на ганку гэта самае запамеціў.

Грукае ў дзьверы. Рыміць.

— Адчыняй!—такая—гэтакая.

Альжа спрасонку ў хаце яго слоў не дачула. Моцны стук яе пабудзіў. Бяжыць у сенцы й бэсьціць Ільлюка за непаслушэнства.

— А што—от і схадзіў назад па розум: вярнуўся! Я табе не казала? Мая праўда: заўтра субота.

— Я-ж табе пакажу суботу!

Толькі ў сенцы ўскочыў, дык адразачку за тое месца, адкуль каса пачынаецца, схапіў. Пакуль тая разгледзелася, разоў колькі поўху і ў плечы ўправіўся загрэць. Гэтым толькі й спагнаўся. Дзе яму, мізэрнаму такому з Альжаю сілаю саўладаць. Калі хітрасьці ня ўжыў дык і прытаўчэ да паўсьмерці. Яна кабета, як ляпеш. Глянуць ёсьць на што. На адзін хвартух Альжы мэтры мала. Ды й Ільлюк некалі быў нечага варт, але праз сваю дурную адвагу сарваўся.

Гэта-ж быў п'яны залажыўся на гарнец гарэлкі, што воз бярвеньня, як каню павезьці, пад узгорак ганей двое правязе. І праўда: хоць вочы на лоб лезьлі, але воз прыцягнуў куды трэ' было. Прыцягнуў ды й з ног зваліўся. Перш быў зьбялеў, а потым сьсінеў. Ледзьве-ні-ледзьве адратавалі. Ужо на валасочку вісеў перад сьмерцю. І гарнец яму быў не на ўме. Тры месяцы хварэў пасьля гэтага. Потым, як крыху ачачураў, ды й цяпер ня можа сам сабе пуда збожжа з зямлі за плечы закінуць. От праз гэты свой сарваны жывот Ільлюк і цясьлярства кінуў ды стаў з сталяркаю цацкацца. Цяпер праз гэту самую прычыну і не давялося з Альжаю саўладаць. Зьбіла яна яго на горкі яблык. Самадурня папаўся чалавек у спрытныя рукі Сам сабе на тыдзень хваробы—ламаніны касьцей выстараўся.

Аж да поўначы субасіліся яны папацёмку. Забыліся й пра сорам і пра нашых зьвяглівых людзей. Хто што зарваў пушчалі адно ў аднаго. Калі-ж на кулачкі зграбуцца, дык Ільлюк усё Альжы цаляў каб пад вокам папасьці, сінякоў насаваць. Хацелася яму, дурному, каб людзі, як убачаць, ведалі што яна за цаца. Але-ж калі гэтага толькі ён хацеў, дык ня трэ' было надта й турбавацца: і так усе баркаўчане—малыя й старыя—зьбегліся былі таго прыстаўленьня глядзець. Аж да белай раніцы ніхто спаць ня клаўся—гэтакія даходныя.

У Альжы-ж ня так спрыцен кулак, як кабдюры. Доўгія яны ў яе й вострыя ды 'шчэ і ўпраўныя к таму. Абшальмавала Альжа імі твар мужыку, што проша бачыць: і нос і шчокі. і ўсё чысьценька, што пры іх ёсьць, паганяла на чырвоныя пасачкі.

Як біцца ды біцца, дык так яны ўдваіх пастараліся, што ніводнага акна ў хаце не асталося, каб шыбы былі цэлыя. Таму-ж акну, што проці печы. папала горай- як усім: з рамкамі на двор выкінулася. Зрабілі сабе на лета халадок.

Баркаўчан з гэтага толькі ўцеха бярэ. Хоць, як шыбы зьвінелі, й баязно было, каб каму праз акно галавы не рашчапілі, але-ж затое стала лепш пачуць, што ў хаце крычалася ці гаварылася. А што больш баркаўчаням трэба, калі не паслухаць? Паглядзець ня было як. Хоць на дварэ й відно, месячна, але-ж у хаце, дзе бой ідзе. нічога ня ўбачыш здалёк. Знашліся-б такія даходныя, што ў пабітую шыбу галаву высунулі-б, каб паглядзець, што робіцца ў сярэдзіне —толькі боязна, каб там хто зьнячэўку носа ня зьбіў.

Сышлося сюды баркаўчаняў як на сход, дзе маюць нешта дзяліць ці так што дарма даваць. Дома насьцяж дзьверы пакідалі. Так сьпяшаліся сюды бегчы, што зачыніць ня мелі часу. Ото-б тады злодзей пажывіўся, каб з другой якой вёскі падскочыў у Баркаўцы на такі гарачы час.

Гэта пачуўшы, можа каму падумаецца, што ў Баркаўцох зладзейскі завод даўно зьвёўся—і нараду такіх людзей у нас няма. Дзе там зьвёўся! Хто гэта казаў, што няма!? Стане з нас гэтага дабра на сваю патрэбу.

У нас такія парадкі: кінь толькі дзе ля сьцежкі сякеру ці сахор, дык самы лепшы, паўяроны чалавек прыбярэ, абы ўгледзеў. Дома такі прытон узяў знай рэчы дасьць, што спалі таго добрага чалавека, дык і на папялішчы свайго жалезца ня знойдзеш, як ні капайся. А што каб усё ўцалку назад вярнуць. дык і думаць ня трэба—хацецца ня будзе. Але тае ночы і зладзеі і так сабе людзі усе ля Ільлюковай хаты сабраўшыся былі.

Толькі Ільлюк з Альжаю на нашых цікавых людзей ані ўвагі не бяруць. Ані свайго прыстаўленьня яны за брыдка ня маюць. Яшчэ лепш папраўляюцца, каб мудрэй адно на аднаго наляскаць. От—

„Хай-жа людзі ведаюць, што ты за цаца“.

Як біцца ўтаміліся, сварыцца селі. Аж белая раніца іх агарнула за брэхнямі.

Тады Альжы й сварыцца дадзела. Яна ўпраўнейшая, дык дагэтуль як мае быць наплакалася, накрычалася. З таго жалю як пала на ложак, дык і дала храпунца.

Да Ільлюка-ж думкі прысукаліся. Узялі яго жаласныя мысьлі. Куды ні кіне—накшага ратунку не знаходзіць, як толькі кінуць Баркаўцы ды пайсьці ў сьвет шчасьця-долі й добрых заработкаў шукаць. Калі ўжо накшага ратунку няма, як шукаць сабе кавалка хлеба на

старане, дык Ільюк і не прападзе. Ён мае талент у руках. Ён умее сталярку рабіць. З сякераю па зрубох лазіць ужо няма даўнейшай сілы, а сталярка ня цяжка.

Апошні раз Ільлюк у гэтай хаце начуе. Толькі трэба людзям паказаць, як ён тут жыў, як мучыўся. Хай пагляцзяць. Хай скажуць, ці льга было трываць чалавеку ці не (не жалезны-ж ён!). А тады ўжо Ільлюк возьме кій у рукі. Тады ў дарогу. Абы толькі людзі паглядзелі, а больш нічога яму ня трэба.

Больш думаў Ільлюк—лепш надумаўся. Хоць і будзе ён маўчаць, слова ні да кога не прагаворыць, а ўсякі, хто гляне, убачыць які ён загнаны чалавек.

Палез сабе Ільлюк на печ. Знашоў свае лыкавыя лапці, што там ад зімы валяліся (іх ён меўся з сабою забраць). Палажыў пад лаваю лапаць на лапці, як падушку. А пры іх разаслаў сваю шарачковую капоту. Падлез і сам туды. На капоце лёг, а на лапці галаву палажыў. Пакутуе чалавек, як падарожнік у заежджым доме, калі там лішняе людзей зьбярэцца. Ляжыць і думае, што спасьцігнуў такі.

— От хай-жа людзі бачаць, што мне за гора. Хай знаюць, дзе яна мне на адыходзе пасьцель дала.

Хацеў бы Ільлюк заплакаць ды цяжка ня ўмеючы. Век зжыў і ўсё плач за сорам меў. А цяпер у горы і згадзіўся-б ён, але сьлёзы ня прывыклі капаць з ачэй. Цісьне Ільлюк скронямі вочы і мысьлі яго жаласныя, але нічога не выціскаецца. Прышло Ільлюку ў памяць, што як чхаецца калі, дык і сьлёзы на вачох знаходзяцца. Хацеў Ільлюк знарок гэта зрабіць, ці добра выйдзе паспытаць, ды ў пору апомніўся, што куды гэта прыстала чхаць гаротнаму чалавеку.

Але дармо, што не бягуць крыніцы з Ільлюковых ачэй. І так усякі скажа, глянуўшы на яго, што з гора, а ня з роскашы ў гэтакім цесным месцы сабе пасьцель паслаў.

Адна надзея ў Ільлюка, што людзі яго ўбачаць. Больш Ільлюку нічога й ня трэба.

Так аж датуль, пакуль сонца добра ў вокны не засьвяціла, пралежыў пад лаваю Ільлюк. І сон яго вачэй ні разу не паквапіўся сплюшчыць. Зараз і Альжа ўстала. Праспала яна быдлячага пастуха, а гарлаты авечы як загукаў:

— Выганя-а-ай!—прачнулася. Ускінула кажух на плечы і вышла выгнаць авечкі.

Ільлюк дармо што чуў быдлячага пастуха, але й з месца не паварушыўся. Нашто яму гэтыя клапаты: ён чужы ўжо чалавек у гэтай хаце. Хай жывуць тут як хочуць і хто хоча. Ільлюк нікому тут не замінае. Ён здаўся на боскую волю.

Прышла Альжа ў хату, выгнаўшы авечкі. Запаліла ў печы. Пашла за сваёю гаспадыньскаю воглядкаю. Хоць і запамяціла, куды мужык дзеўся, але змоўчыла і ў той бок ні разу ня глянула.

Ды й Ільлюку лепш на сто здохлых сабак глядзець, як на адну сваю жонку. Ён к сьцяне вачыма, на хату плячыма лёг. Калі нікалі спадцішка пацікуе, ці запамеціла яго Альжа, ці не, а так сьцішыўсяляжыць і не варушыцца і не сапе моцна. Але Альжы й ненапамкі. Усё роўна як ёй і ня трэба Ільлюка.

У таго сэрца ня каменнае. Цярпеў, цярпеў ды й ня вытрываў. Давай стагнаць прабаваць. Перш памаленьку, а потым што раз мацней-мацней.

Агідна Ільлюку жончына мова. Лепш бы, наўкола яго пастаўшы. гайня ваўкоў выла, а яна адна маўчала. Але-ж як у горы чалавек, у вялікай пакуце, дык і ад ворага добра ласкавае, спагаднае слова пачуць. Такі бывае дурань-чалавек. Гэтакі самы цяпер Ільлюк.

Хоць ня ўмеючы, але гатоў быў ужо заплакаць—так ужаліўся. Ды якраз на тую часіну нагадзіўся Трахім з Пагулянкі. Яму Ільлюковы енкі—самая лепшая прычапка зайці ў хату паглядзець, як ім здаровіцца пасьля ўчарашняга. Трахім учора пад акном аж лішняе прастоіў, усяго дасьледзіў. Ужо даўно баркаўчане паразыходзіліся, даўно ў хаце ўсё ціха стала, а ён на вуліцы стаяў, чакаў ці не пачнецца ўсё ізноў. Толькі як заружавеў вішэньнік у тым баку, дзе ў нас улетку сонца ўсходзіць, тады Трахім на сваю Пагулянку падаўся. Хоць не даспаў, але-ж даслухаў затое. А цяпер ізноў на самы пачатак да Ільлюка засьпяшыўся. Карціць яму ведаць, як сёньня ў іх жывецца. Трахіму ня тое, што нам. Яму многа чаго ведаць трэба, каб, па хатах пашоўшы, людзям гаворкі паддаць. Многія баркаўчане, як самы гарт праслухалі, учора вораней дадому пашлі, не дасьледзілі, чым тады скончылася—спаць ім трэ' было, каб сёньня ў пару ўстаць. Сёньня ня сьвята і ня прысьвятак, а будны дзень—субота. Людзям трэба канюшыны ганей са двое з расою аблажыць, бо як раса спадзе—цяжэй каса ў руках ходзіць.

От ім і добра: Трахіма меўшы—усё будуць ведаць. Ён ім усім сёньня за адным заходам і ўчарашняе раскажа і сёньняшняе даложыць. А Трахіма паслухаўшы, лепш у памяці ўсё, як было, астанецца.

Заходзіць сабе Трахім у хату. Кажа:

— Дзяндобры!

— Дзяндобры!—адказваюць яму ўдваіх: Ільлюк з-пад лавы крыху раней і Альжа трохі пазьней.

Трахім—кемны чалавек: адразачку здагадаўся, дзе дзеўся сусед. Ён падыходзіць да лавы бліжай. Нагінаецца й пытае:

— Ты нездароў, суседзе?

— Ой цяжка, Трахімка!

Цяпер і Альжа ўшчухарылася.

— Ах ты!—такі-сякі.—Я-ж табе пакажу! Я-ж цябе пастагну! Я цябе навучу, як хварэць ня ўмеючы.

Ды за чапялу ды к Ільлюку.

Трахім бачыць—непярэліўкі, гатова й яму папасьці, што надта сяброўскую мову быў пачаў. Каб не зарабіць чапялы, кулём шмыгнуў за дзьверы. Усьлед за ім і Ільлюк пагаў за парог.

Дармо што Ільлюк у шапцы клаўся на сваю пасьцель, а як чапялы па галёнцы папаў, дык і шапкі ў хаце адрокся. З голаю галавою выскачыў ён на двор. Ня толькі аднэй шапкі, але няма пры ім і тых лапцяў, што былі пад галавою і шарачковай капоты, што слаў пад бок. Усё ў жонкі-ліхадейкі ў хаце асталося. Няма з чым Ільлюку і ў дарогу выбірацца. Як-жа йсьці так, як стаіць, на людкі сьмех?

Ільлюк як уцякаў, дзьвярэй не зачыніў за сабою. Мусіла Альжа ўсьлед выходзіць зачыняць, каб у хату мух з двара не налятавала. І нашто была гадаўка—моцазна завалкаю ў сенцах бразнула: замкнула за сабою. Усё Альжа робіць Ільлюку на злосьць, каб больш жалю паддаць старому, каб ведаў, што ня сышча цяпер ад яе сваіх строяў.

Ціхенька, спусьціўшы галаву, адышоўся ён ад хаты. Сеў пад хлявом, што сяголета перасыпаў, на новым дубовым запасным шуле. Цяпер яму, адзінокаму, і Трахіма нідзе поблізу няма. Збаяўся той—уцёк. Адрокся й ён беднага прымака. Ніхто Ільлюковаму гору ня хоча спагадаць. Няма такога чалавека. Адзін адным сядзіць Ільлюк на дубовай абчэсанай калодзе. Сядзіць і нешта думае жаласнае-жаласнае. Карова за сьцяною чалавека пачула, рыкае. Есьці просіць. Не загнала Альжа каровы ў пастух—ня было ёй часу.

А Трахіма цяпер як чорт імчаў цераз вёску. Ды патом дамоў на Пагулянку дзьве гадзіны йшоў. Хат можа ў шэсьць па дарозе навіну занёс. Мужчын ні ў воднай не застаў. І бяды па іх мала. Жанком, як ад чапялы ўцякаў і дзе Ільлюка бачыў, Трахім пахваліўся.

Так тады ў суботу й ня выбраўся Ільлюк у прочкі сыйці. Але ад тых дат і аж да самай Альжынай сьмерці ня меў ён на яе добрага вока. 'Шчэ як цьвярозы, дык бывае што й забудзецца, якую яна яму крыўду зрабіла, а хай толькі вып'е крыху, дык і давай скардзіцца.

Сьмешны Ільлюк робіцца, калі яго ўпаіць. Тады нахінецца да таго чалавека, з кім за адным сталом сядзіць, ды й шэпча:

— Я-б табе, братка, ласку ўчыніў—за свае грошы кварту паставіў, у госьці к сабе пазваў—аднак маё усё сваяўство за мяжою асталося, аднак ка мне няма каму езьдзіць. Толькі от, братка, бяда! От маё гора!—Такая-сякая—мая. Яна мне сьвет завязала. Праз яе з добрымі людзьмі я ня знаюся.

Баркаўчане—ужо на што ашчодныя (калі ня сквапныя) людзі: ніколі свайго не перапусьцяць, нічога сабе на ўтрату ня зробяць,—а Ільлюка любяць падпаіць.

Ім пасьмяяцца лепш, як рубля знайсьці.

## II

Таго самага году пазьней крыху 'шчэ адно здарэньне было ў Ільлюковай хаце.

Надта-ж таго году ў жніво дажды йшлі. Хто з сенажацьцю прыпазьніўся, не засьпяўшыся разам з усімі скасіць, а папаў пад благую пагоду, дык пагнаілі сена ў копах. Таго лета дожд хоць борзда пройдзе,

але ўжо калі секане—рубца сухога на чалавеку не пакіне, каго ў дарозе залові́ць. Азёры пастануць у лагчынах за адну гадзіну—такія спорныя былі тады дажджы.

От таго самага году ў гэну благую пару, аўсянае жніво, аднаго разу ўвечары ехалі з Хлюпску балаголы ў наш гарадок па тавары. Едуць і бачаць, што хмурыцца ды хмурыцца не на сьмех—не на дождж, а на патоп паказвае. А вазы ў балаголаў былі ня цяжкія. Дык яны па конях—давай пугаю ім ахвоты да бягі паддаваць. Сьпяшаліся—хацяб жывымі куды ў вёску заскочыць.

Нашы-ж Баркаўцы з падарожнікам падражнівацца ўмеюць. Самі ў лагчыцы стаяць, а белая царква з сіняю вежаю на ўзгорку вымуравана. Ідзеш ці едзеш—з узгорку ў лагчынку куляешся, а царква ўсё на аднэй меры стаіць, рукой да яе падаць, здэцца, льга—гэтак блізка. Ідзеш-ідзеш ці едзеш-едзеш, аж сіне ў ваччу зробіцца углядаючыся. Царква-ж, як на злосьць, выцягнула галаву поверх і высокіх і малых узгоркаў нашых ды і сцаглела так—і бліжай не пасоўвуецца і далей нікуды не ўцякае. Аж злосьць бярэ, калі скора трэба куды.

А балаголам і вунь як скора трэ' было. Падашукала іх царква. Не дапусьціў дождж сухімі ў Баркаўцы прыскочыць. Усяго паўвярсты недаяжджаючы застаў ён іх у дарозе. Змачыў як мае быць. А нанач захаладала. Здубець можна было ім, мокрым, як жабам.

Закіравалі балаголы свае коні ў Баркаўцы. Заўнялі іх сярод вуліцы, а самі пад страху ад дажджу схаваліся. Потым, як перасьціхла навальніца ды падрабнеў дождж, пашлі па хатах прасіцца, каб у каго пераначаваць.

Ільлюк у нас амаль не ля самай карчмы жыве. Зайшоў да яго адзін. Просіцца.

— Пусьці, чалавеча, перасушыцца дарожнага чалавека. А ўжо што трэба—заплаціцца.

Ільлюк чалавек добры.

— Начуй сабе,—кажа.—А платы мне твае не патрэбна. Усё адно не забагацееш. От сьцяліся ды лажыся. Толькі што каня ў мяне няма дзе паставіць. А сам начуй сабе—хата вялікая.

За гэта, што падарожніка пусьціць у сваю хату не адказен, Ільлюк лепшы над усіх баркаўчаняў. У нас старац бывае просіцца, нанач каб пусьцілі, дык усе хаты пяройдзе і, калі Ільлюка дома не застане, мусіць проці ночы ў дарогу ісьці, клянучы Баркаўцы й баркаўчаняў. Чаго ўжо ён ім ня зычыць: каб і згарэлі, і спапялелі, каб ніякага знаку на тым месцы не асталося, дзе мы цяпер жывём. Але ці пажар старца паслухае?—Ніколі. Баркаўцоў і чорт не бярэ.

Ільлюк у нас—прымак. Альжа—баркаўская кабета. Гадаўка яна за гэтым, як і ўсе ў нас. Калі Ільлюка дома няма, усёроўна старца адправіць:

— Што ў мяне карчма ці што?—такі ў яе адказ.—Хат многа ў Баркаўцох—хай хто другі пусьціць.

І праўда: капы дьве ў нас хат буде, але карысьці з іх чужому чалавеку й на гарэлы шэлег няма. Усе іх з канца ў канец старац абыде і далей пойде бунуючы:

„Каб за гэту ноч адны вугольчыкі на іх месцы асталіся. Можа-б тады ніхто падарожнага чалавека ад таго жару не адагнаў. Льга-б было хоць рукі пагрэць“.

Толькі што Баркаўцы вёска ўпартая: ёй пажар зычаць, а яна ішчэ больш садамі ды вішэньнікам урастае—і ня знайся.

Балаголы ў нас ані ня лепшыя за старца. Удвух абышлі ўсю вёску і назад да свайго хаўрусьніка к Ільлюку прышлі скардіцца.

Ільлюк усім добры—і на гэтых кажа:

— Начуйце!

Заехалі ўсе тры хурманкі на яго двор. На гумне свае вазы паставілі. Спуталі коні жалезнымі путамі, за вазы папрывязвалі. Дожа перш быў суняўся крыху, а потым ізноў лінуў. Няма на яго перасьціханку. З капяжа, як хто з вядра ваду лье.

Унесьлі ў хату балаголы, што ў іх лепшае было на вазох, а рэшту на дажды пакінулі. Ільлюк ім прынёс два снапы акалоту на трох. Разаслаў на падлозе.

— Лажэцеся,—кажа.—Адпачывайце.

Балаголы яго й паслухалі. Павешалі свае мокрыя лахманы на сьцяне, каб сьцякалі, а самі спаць ляглі. Трохі пакачаліся, пачухаліся ды й паснулі.

Толькі аднаго маладейшага сон ня браў. Даўгавата яны ўдвух з Ільлюком гаварылі. Потым Ільлюк такі першы здаўся—сьцішыўся ды й захроп. Адін той балагол астаўся перакочвацца з аднаго боку на другі. Усё нешта марматаў пасвойму сам сабе пад нос. Вялікая яму ноч зрабілася. Чуў, калі дожа сьціх, зьлічыў колькі раз у вёсцы сабакі пачыналі і перасьціхалі брахаць. Потым надта-ж коні сталі путамі званіць. Балагола клапаты ўзялі. Ці ўсё там з вазоў пазьбіралі? Хаця-б там чаго хто ня сьцібіў, або каб колаў не пазьдіраў.

От ён і ўстаў. Мокрую бурку на плечы ўскінуў і хацеў-быў на двор выйсьці, што там робіцца пагледець.

Ноч цёмная тады была. Ня толькі дьвярэй ня відаць было, але й шыбі ані ня блішчалі. Выставіўшы наперад рукі, пашоў балагол памаленьку, вобмацкам у той бок, де думаў, што павінны былі быць дьверы. Але зблудіў - замест дьвярэй, ложак абмацаў. Ды йзноў яму не пашанцавала: не да чаго добрага дамацаўся, а папаліся ў рукі пальцы на Альжыных нагах, а яму трэ‘ было клямкі.

Альжа сьпіць, як заяц: абы дакрануўся—прачнецца. Гэта самае было й цяпер. Ды ішчэ як на тое ліха сама за ноч разбрыкалася, а цяпер агледілася, што коўдра на ёй раскрыта. Здалося жанчыне, што балагол тут вінен. Нямаведама што падумалася: пусьціў на яе перад касьбою Ільлюк благую славу, дык ужо, сабе думае, аж у Хлюпску ведаюць і от далазяцца. Калі закрычыць Альжа на балагола:

— Чаго тут, —такі-сякі,—мацаешся?! Ты думаеш і праўда, што такая пamoўка пашла. Я-ж табе пакажу, як да брэхняў усякіх прыслухоўвацца! Я-ж цябе перамацаю!

Балагол спалохаўся:

— Што вы? Што вы? Я нічога! Што вы?

Хто яе ведае, дзе Альжа папала качалку. Калі ўзялася мясіць. З усяго пляча, як па сьцяне якой, пляжыць Б'е і прыказвае:

— А ня лезь! А ня лезь!

Такі ціхі балагол нарваўся, што й не адбіваецца. З страху апруцеў і ўцячы не здагадаецца. Енчыць з болю ды ратунку просіць. Альжы ад гэтага 'шчэ горшая злосьць.

„Калі не працівіцца, дык мусіць, гэтага варт“—яна здагадваецца ды 'шчэ лепш папраўляецца

Крык, енк у хаце пабудзіў Ільлюка. Прахапіліся й балаголы. Усе пытаюцца:

— Што? За што?

Альжа так шчыра ўзялася ў чалавека здароўе адбіраць, што ні на кога і глядзець ня хоча. Усё таго балагола, што нібыта правініўся, з рук ня пушчае. Мусіць ухэйдаць яго была наважыла.

Хаўрусьнікі таго вінаватага па голасах разабралі, што ў хаце робіцца. Просяць яны енчаць, каб Ільлюк за іх хлапца заступіўся ды жывога з жончыных рук адабраў.

Ільлюк гатоў паслухаць. Ён—добры. Памкнуўся абараняць. Ужо быў і нейкае слова Альжы напроціў рэкнуў. Тая-ж і закіпела. Балагола пусьціла ды на свайго мужыка з качалкаю рынулася.

— Гэта я праз цябе ад бога грэх і ад людзей сьмех зношу. Праз цябе мне выйсьці няма куды. Пусьціў пагалоску, дык пальцамі цяпер на мяне паказваюць. Праз цябе мяне ўжо і ў мястэчку ўсе ведаюць.

І каб ня ўцёк Ільлюк на тую часіну, каб хоць з хвіліну 'шчэ пачакаў, абы даў Альжы за што на ём урэпіцца—да паўсьмерці-б прытаўкла й яго, як таго беднага маладога балагола. Мудрэй ваўчыцы зрабілася Альжа. Сапе—не ссапецца. На перапалоханых балаголаў як гукне:

— Вон! Каб і шныру вашага тут ня было.

Тых толькі яна й бачыла. І сваіх мокрых лахманоў у хаце пазабываліся. Добра, што Альжа, больш памятушчая за іх, усьлед за балаголамі мокрыя іх браваркі на ганак вышпарыла.

Тыя пазьбіралі, што чыё было. Запрэглі коні ды наўцёкі з Баркаўцоў. Даліся ім яны ў знакі. У памяці будуць. І перасушыцца—не перасушыліся і пуду набраліся. Але-ж лепш мокрымі быць, як душою ў жаночых руках загавець.

Было гэта здарэньне ў ночы з поўначы. Хоць і крык быў у Ільлюковай хаце, але як агню не палілі, дык баркаўчанцы і праспалі ўсё. Нічога не даслухалі, не дасьледзілі. А што ўвесь дзень назаўтрае Ільлюк у сваю хату не заходзіў—і ў галаву ня прышло нікому на той час.

Так от ціха было аж да сяголетняга году. Трэйці год пашоў ад тых дат, і ніхто нічога ня ведаў. Але-ж на тым тыдні ўсё вышла наверх. Тады аднаго дня ехалі гасьцінцам тыя самыя балаголы з бочкамі. Хлюпскі капэратыў выправіў іх газы прывезьці з гораду.

Нешта-ж прышло ім у галаву коні ў Баркаўцох напаіць. Заўняліся яны за гэтаю патрэбаю проці нашага коопэратыву. Паслалі аднаго па вядро, каб ȥе яго на вёсцы расстараўся. Ды ȥе там!—у баркаўчанцаў не папаȥеш вядра. У якую хату ні зойȥе пасланец—усюды:

— Няма,—кажуць.

Да каго ні паткнецца—усюды аȥін адказ:

— Няма. Пазайманы з намыямі.

Добра што ў нейчай хаце аȥін малы папаўся, а сталейшых ніводнага чалавека. Шчэ ȥяціны розум ня зносіць, што ȥе ступіў, то й салгаць трэба. Бацькі ці то за работаю, ці то за гулямі не навучылі малога, як адказацца, гладка салгаць чужому чалавеку, калі просіць чаго, дык малы й даў вядра.

А тым часам, пакуль пасланец хаȥіў, вядра шукаў, ‘ля балаголскіх хурманак гурт люȥей сабраўся. Вышаў Лук‘ян з коопэратыву, ды другія ‘шчэ мужчыны падышлі.

Разгаварыліся і неяк дагаварыліся да таго трацяголетняга здарэньня. Балаголы ўсё, як тады было, расказалі: што чулі, бачылі і да чаго дадумаліся. Расказалі ды пытаюцца ў нашых люȥей:

— А як-жа яна цяпер жыве?

— Ȝе, чорта, жыве! Летась памёрла,—ім кажуць.

— Ну, а наш-жа хлопец таго самага году памёр.

Так ён быў невялікі здаравяк—ўсё па дактарох езьȥіў ды хваёвыя шышкі парыў—піў, а як адбіла яму нешта ў сярэȥіне, дык яшчэ пагоршала. Паўтары гады пасьля таго кроўю харкаў. Кажуць яшчэ пярэпалахі падскочылі. Яно так: як цягаецца чалавек, дык нічога да яго не прыстае, а як занядужаў крыху, дык тады ўсякае балота наровіць успасьці. Ну й шанавалі-ж таго хлопца бацькі. Ужо ȥе ні вазілі, як ні лячылі—ні ад чаго помачы ня было. Высах у шчэпку ды памёр бедны. А такі ціхі быў. Да сваіх ȥяўчат баяўся прыступіцца пагаварыць, а ня то каб палез няма ведама, да каго і чаго.

Так расказвалі балаголы. І хоць ня чуваць было, каб ȥе праз благую жанчыну хто ў дамавіну пашоў, каб так улаȥілася жаўткі адбіць, каб ня то што да паўсьмерці прыбіты, але як мае быць ў магілу прырыхтованы вышаў з яе рук; хоць ніȥе гэтага ня чуваць было, але баркаўчане адразачку далі веры балаголам, што й гэтага можна было ад Альжы спаȥявацца. Ды ня так ім ȥіва, што ня выхаȥіўся балагол, як тое, што вельмі-ж позна дачуліся пра такое цікавае здарэньне. Пад носам люȥі ночы ня спалі, заваруха была, і ніхто з баркаўчаняў таго разу не дачуўся. Як сьвет паўстаў, ніколі гэтага ў Баркаўцох ня чуваць было.

Ды 'шчэ па баркаўчанях бяда малая. Сама-ж горай Трахіму не пашанцавала. Яму не давялося нават і балаголаў паслухаць, што яны казалі. Аж падсмакаваў ён потым, што прапусьціў такую важнецкую гаворку, што давялося ў людей распытвацца, а не самому на свае вушы чуць. Але як усё да малой макулінкі дазнаўся, ён і рукою матнуў і галавою сьцеляпнуў:

— Я даўно гэта казаў,—пахваліўся Трахім.

Толькі ніколі ад яго ня чулі, што ён гэтакае казаў. Але-ж усе ведалі, якая благая жонка была за Ільлюком. Заганяла яго, нікчэмнага, сарванага, і сваёю сілаю і языком. Але ацерпіўся чалавек і жыў ціхенька. Летась-жа, як памерла, дык некаторыя хваліліся, што на свае вочы бачылі, што заплакаў быў, як у дол спушчалі.

**Сяргей Дарожны**

# Вясновае

Бязьмежна рады я сягоньня,
Здаюся ў песенны палон...
Кудысьці коні, мчацца коні
Вясеньніх і ружовых дён.

Мінулі золкія завеі,
І клён, забыты ля вакна,
Ў лятунках раньніх ружавее:
Там за фіранкаю вясна.

Там, у вясновым шуме саду,
Зімовыя забыты сны,
Там кожны клён бязьмерна рады
Адчуўшы подыхі вясны.

Такая слаўная пагода,
Лятункаў мітусіцца рой...
Я паланён душы разводзьдзем,
Палескай роднаю вясной.

Яна прышла, на ўзгорку стала
У зялёных песьнях ручаёў,
Дзе ранкаў сьвежыя фіялы
Сьмяюцца радасьці маёй.

З такога цеснага пакою
Душа ірвецца ў далячынь,
Туды, дзе ў бэзавым спакоі
Бярозы ходзяць па начы.

І я схіляюся ў зьнямозе,
Бо гэта-ж толькі сьніцца мне:
Зіму апошнія марозы
Дарысавалі на вакне.

Менск, 1929 г.

**А. Мрый**

# Запіскі Самсона Самасуя

Я скажу ўсім, хто гэтага пачаў бы дамагаца, што я—сучасны чалавек. Маё імя Самсон Самасуй.

Я з мужыкоў.

Мой бацька, дзед, прадзед, прапрадзед, прапрапра... і т. д. усе былі мужыкамі. Я надзвычайна гарды тым, што маю мужыцкі твар і асабліва нос у форме бульбы. У залежнасьці ад гэтага і розум мой ёсьць розум выразна мужыцкі. Мне могуць сказаць, што няма такой катэгорыі, як мужыцкі розум, а я скажу, што ў мяне толькі такі і ёсьць.

Далей сьмела ўсім заяўляю, што бацька мой ня кулак. Даю фактычную даведку.

Дзьве каровы, конь, жаробка, сьвіньня, здаецца, 4 ці 7 прадстаўніц курынага роду, хата з трыма вакешкамі, ды яшчэ рознае не стандарцізаванае хаўбосьце. Такім чынам, па эканомічнай адзнацы майго бацьку ніяк нельга залічыць да ганебнага стану кулакоў. А з пункту глеђаньня ідэолёгіі, дык ня ведаю, як зарэгістраваць яго. Хто можа аб гэтым упэўнена сказаць, калі, як кажа мой прыяцель, філёзоф Торба, заблытана чалавечае жыцьцё, і няма ў ім строга акрэсьленай номэнклятуры.

Другі мой прыяцель, настаўнік Цыба, сказаў мне, што мой бацька, магчыма, і ёсьць кулак, бо пытаньне аб прыналежнасьці да гэтага зоолёгічнага тыпу вырашаецца часта ня лікам кароў ці коняй, а настроем і эксплёатарскай чыннасьцю.

Вось гэта як у сук улеплена.

Пра сябе скажу, што іншы раз я вельмі абураны ангельскімі імпэрыялістымі, здаецца, горла ім перарэзаў бы, а ў другі раз салодка мару аб прынадах буржуазнага жыцьця. Так салодка мару, што пасьля і самому сорамна робіцца. Нават чырванею.

Мой лепшы сябра, настаўнік Мамон, жартуючы кажа:

— У цябе ўсё мужыцкае, а пуза панскае! І праўда! думаю я і хачу высьветліць прычыны гэтага. Знаходжу толькі адно тлумачэньне для гэтай дыспропорцыі: прырода вядзе гандаль з маім целам — яна дае мне сыр, масла, хлеб, розныя іншыя карысныя і некарысныя фэрмэнты (ня ведаю, ці можна так гаварыць: у мяне нейкі пал да чужаземшчыны). У замену за гэта прырода адбірае ад мяне зусім няважныя для мяне рэчы, за якія ніхто і шэлега гарэлага ня дасьць. І вось гэты гандаль з прыродай выклікае ў мяне такую пярэстую разнастайнасьць маіх настрояў, эмоцыяў, хаценьняў, жаданьняў, перажываньняў.

Адна ня вельмі разумная жанчына, якую я аднойчы ў вочы назваў індыйскім просам дурро, атэставала мяне, як дэклясаванага мешчаніна. Зразумела, гэта зусім ня так. Гэта назва выклікана помстай за маю досыць удалую атэстацыю. Праўда, памянёны філёзоф Торба адзначыў мяне, як клясава нявытрыманага байца, сказаў мне, што я неўраўнаважаны (а ён ураўнаважаны?!) чалавек. Няхай сабе так. Скажу толькі, што я сам лічу сябе сучасным і здавальняючаразумным чалавекам, хоць павінен з вялікай неахвотай памянуць пра шапялёўскіх яўрэяў, якія пад нос завуць мяне „мішугэнэ“. І гэта ня гледзячы на тое, што я ў райвыканкоме ў сваіх руках трымаю важныя спрунжыны культуры і ведаю, што раблю!

Пра мінулае маўчу.

Скажу толькі: я бывалы чалавек.

Мяне матка часта ўпікае:

Трынку, валынку, сьвету палавінку аб'езьдзіў, сьвет абкалаціў, ды сюды вараціў!

Некалькі разоў сядзеў я пад арыштам і карміў сваёй чырвонай кроўю блох ды іншых шасьцікрылых і шасьціногіх херувімаў і сарахвімаў. Ды і не магло быць інакш з маім тэмпэрамэнтам.

Спамяну пра адзін выпадак.

У 20 годзе я быў прадагэнтам. Прыяжджаю ў Гомель, і на кожным кроку мне анкеты запаўняць даюць. Хто мой бацька, хто мая матка, што яны рабілі да рэволюцыі і пасьля яе, ці была ў мяне маёмасьць, і калі была, дык куды яна дзелася? Да 300 запытаньняў было ў той анкеце, якую падсунулі мне ў заежджым доме № 3. На мяне ўсьсеў д'ябал нейкі. Думаю: дай-жа я пажартую з імі, пагляджу, што з іх будзе.

Пішу: да рэволюцыі быў буйным земляўласьнікам, меў 300000 акраў чарназёму, быў сэкратаром пасольства ў Лёндане. І шмат яшчэ чаго нахлусіў.

Яны, галубчыкі, і сцапалі мяне. Пасадзілі ў блыхарню і трымалі там, пакуль добра высьветлілі, што я ніякім буйным земляўласьнікам ня быў.

Выпусьцілі мяне, але кар'ера мая была сапсавана, і я доўга ня мог знайсьці сабе месца, якое адпавядала-б маім здольнасьцям. Праз год я знайшоў сабе пасаду, і пра гэта будуць гаварыць мае запіскі.

Цяпер-жа скажу, чаму я сеў за стол і пачаў пісаць.

Яшчэ тры гады назад я неяк напісаў у газэту корэсподэнцыю аб выбрыках старшыні коопэратыву і прачытаў яе асобе, якая для мяне даражэй за ўсё на сьвеце. І яна сказала мне:

— Пішы, пішы! З цябе можа і выпішацца што! Гэтыя словы, як маланкай, спалілі мяне. Як вар'ят, хадзіў я па пакою і мармытаў сабе гэтыя словы:

— Пішы, пішы! Можа што і выпішацца!

Цяпер я і пішу.

Але я не папэрапсуй, пішу зусім не для таго, каб бачылі ўсе напісанае мною. Розум мой даўно прайшоў эмбрыёнальную стадыю разьвіцьця, і я добра ведаю, якое вялікае значэньне маюць дробязі ў жыцьці. У маім цяперашнім пакоі я павесіў на сьцяне плякат са словамі аднаго вучонага, які сказаў:

— Каб мы ведалі ўсе дробязі жыцьця якой-небудзь казюлькі, мы шмат якіх памылак маглі-б не зрабіць!

Вось я і пішу свае запіскі. У іх буду гаварыць аб дробязях свайго жыцьця: як я з бацькам пасварыўся, як паехаў я шукаць свайго шчасьця, як хацеў там пашырыць сваё фізычнае я і як з гэтага нічога ня вышла.

Сам я не надаю ўсяму гэтаму вялікага значэньня. У сусьветныя маштабы ня веру.

Але мой сябра, настаўнік Мамон, каторы ўвесь час штурхае мяне на шлях славы, кажа мне, як Мэфістофэль:

— Тваё мэмуары будуць перакладзены на нямецкую, ангельскую, францускую і нават готэнтоцкую мову! Каб я меў час і здольнасьць, я зараз пачаў-бы перакладаць на гэтыя 4 мовы.

Заўважце, што ў настаўніка Мамона ёсьць вельмі складаныя абавязкі мужа, бацькі, сына, загадчыка, рэвізора 7 устаноў і прамоўцы на ўсіх пасяджэньнях і нарадах. Калі ён гаворыць так, значыцца мае запіскі маюць значэньне, якое выходзіць за межы маёй асобы.

Гэта мне паддае жару, і ў поўнай сьвядомасьці і цьвёрдай памяці я пачынаю свае запіскі.

## I. Ад роднай хаты

— Ты-ж глядзі, глядзі, мой сынок!—гаварыла мне маці, калі я пасьля доўгага беспрацоўя атрымаў пасаду ў Шапялёўскім выканкоме.

— Ты ўжо не хлапчук. Час надумаць на сябе ды аб нас старых... Жаніцца-б табе, ды супакойна гадаваць дзетак. І я з радасьцю пачукала-б тваіх дзетак! Глядзі-ж, сынок, хоць цяперака трымайся, каб зноў не ўкарацілі!

На гэтае матчына выступленьне я самаўпэўнена адказаў:

— Я ведаю, маці, як сябе трымаць! Ці я людзей ня бачыў? Ці мне гэта ў першы раз?

Маці сумна памахала галавою:

— Заўсёды, сынок, так кажаш, а як дадуць справу, дык фортэль і выкінеш! Ой, баюся я за цябе! Па бацькавай вудылі пашоў.

Мой бацька, роўнадушна зірнуўшы на матку, пыхкаючы люлькай, у нос прамармытаў:

— Па маёй вудылі? Каб па маёй, дык сядзеў бы на зямлі. А то сьвет аб'езьдзіў, усе гарады абнюхаў, ды нідзе прыстану не знайшоў. Казаў і кажу: лепш кінуў-бы вандраваць ды ўзяўся-б за зямлю.

Я вышаў на сярэдзіну хаты, растапырыў ногі, як крынсалы, задраў нос уверх і, прыплюснуўшы правае вока, тэатральна запытаў у бацькі:

— Як-жа? Буду калупацца ў пясочку вашым? Няхай троху пачакае! Якое тут жыцьцё? Бачыўшы цывілізацыю, які разумны чалавек пачне рабіць гэта калупайства ваша? Краты вы, а ня людзі! Які сэнс у вашай крацінай працы?

Не адзін раз бацька слухаў мае разважаньні аб адсутнасьці матар'яльнай базы ў яго вытворчасьці і, трэба сказаць, слухаў іх з вужацкім спакоем, а цяпер раптам закрычаў на мяне высокім голасам:

— Ах каб ты выпруціўся, чортаў сын, вучоная раскірэка! Дык я крот? І матка краціха? Рыемся ў зямлі і сьвету ня бачым?

— Ты —ня крот, а праца твая крацiная!

— Калі так, чаго-ж ты; Хадора сьвятая, як дадуць табе перцу, зноў хвост падтуліўшы сюды ляціш ды на бацькавай шыі сядзіш? І працаваць ня хочаш, хочаш дурыкамі жыць! Над бацькавымі мазалямі сьмяешся... Вучыў цябе, ночай не дасыпаў, хацеў, каб сын вучоным быў, а ты цяпер і сьмяешся з бацькі, з маткі...

Бацька не на жарты ўсхадзіўся. Гэта параўнаньне з кратом фарсіравала яго кроў.

— Калі-ж так,—кінуў ён ужо нізкім тонам, ня дам табе кабылы! Едзь на сваіх, на двaix! Цягні, як хочаш, свае прычындалы! Досыць з мяне! Наслухаўся твайго мудрагельства!

Бацька грукнуў дзьвярыма і вышаў на двор. Там ужо стаяла ў поўнай баявой гатоўнасьці запрэжаная кабыла.

Бацька пачаў нэрвова распраствоць яе, нешта злосна бубніў сабе пад нос, некалькі разоў абазваў ні ў чым нявіннае стварэньне „шэльмай гарбаносай“. Кабыла зусім не хацела разумець бацькавай крыўды і зьдзіўлена пазірала на слаба кoорданаваныя рухі свайго гаспадара і яго палітычна нявытрыманую тактыку.

Распрогшы кабылу, бацька ў пуню яе не загнаў. Адышоў ад кабылы і сеў на калоду. Кабыла пастаяла хвіліну і падышла да бацькі, нюхаючы паветра.

Бацька даў ёй шэраг запытаньняў:

— Чаго прышла? Чаго стала тут? Ідзі ў пуню! Не паедзем мы з табой, кабылка!

Зірнула на яго зьдзіўлена сваімі добрымі вачмі і ціха пасунулася ў адчыненую пуню.

Я злосна пазіраў у вакно на бацьку, кабылу і каламашку, у якой мусіў быў ехаць, каб ня гэты нікчэмны крот. З практыкі ведаў, што цяпер ня хутка наладзіш дыплёматычныя зносіны з бацькам.

Матцы я сказаў, вачмі паказваючы на бацьку:

— Вунь сядзіць, надзьмуўся, як сава! Здаецца, каб быў бацька маладзей, пашоў бы я туды ды адкалатушыў бацьку!

Матка ласкава сказала мне:

— Кінь злавацца! Бацька адходлівы! Пасьля абеду паедеш, а нанач там будеш. А цяпер лепш сабраў-бы ўсё сваё да кучы. Я табе памагу.

Я паслухаў маткі і пачаў упакоўваць свой гардэроб. За 15 гадоў баяньня па свеце шмат чаго сабралася ў мяне.

Дзьве хутры, адна лісіная, другая ваўчыная, дзьве бэкэшы, шынелька вельмі пролетарскага крою, прастрэленая ў некалькіх мясцох; пахаеэньне гэтых дірак я добра ведаў і ўсім гаварыў, што кулі белагвардейскай сволачы прастрэлілі яе на дзянікіным фронце. Было яшчэ паліто даімпэрыялістычнай эпохі, зусім куртатае і цеснае для маёй асобы. Іншы раз я апранаўся ў яго і, як заўважыла мне тэлефоністка адна, паліто сьмешна выпучвала мае заднія формы. Шмат было ў мяне і нагавіц: галіфэ розных колераў і фасонаў, райтузы, клёшы, спрынсыкі (апошні крык амэрыканскай моды), шаравары і нават беларускія споднікі з „сеслам“ для эфэктных выступленьняў у спэктаклях.

Увесь мой гардэроб і апісаць нельга. Бацька называў усе мае рэчы „прычындаламі“ і часта гаварыў маёй матцы:

— Тысячы паўтары можна было-б скалаціць за гэта прычындальле! Але што ты зробіш сыну, калі ён носіцца з цацкамі ды хварэе на пана? А можна было-б паправіць гаспадарку!

Уся вопратка ляжала ў кучы і была перасыпана нафталінам. Матка, парадкуючы яе, увесь час чмыхала, круціла носам і бубніла:

— Каб табе праваліцца, нячыстая сіла! Ня звыкнуся з гэтым смуродам! І выдумаюць-жа людзі!

Я сачыў за кожным рухам маткі і даваў інструкцыі.

Матка адгаварвала:

— На што ты забіраеш усе рэчы?

— Я там асяду. Апошні раз цягнуся з дому. Можа ажанюся там, маці!

— Няхай-жа бог пасылае, сынок!

Матка зірнула на мяне, статнага, бялявага з вельмі пухнатымі вусамі і дужа кірпатым тварам мужчыну, і мімаволі з вачэй яе сыпнулі сьлёзы.

„Прычындалы“ былі ўпакаваны. Я зірнуў у вакно. Бацька усё сядзеў на калодзе.

— Пакладу яшчэ кніжкі і розную дробязь, тады ўсё будзе ў парадку! сказаў я сам сабе і пачаў даставаць з паліцы кніжкі.

Чатыры кніжкі я лічыў настольнымі і ніколі з імі не разлучаўся:

1) падручнік, як гаварыць мала і важка,

2) культура трох камераў цела,

3) як разьмяркоўваць свае функцыі і

4) падручнік па агульнаму кіраваньню.

Апрача гэтых кніжак я ўзяў яшчэ іншыя падручнікі ў розных галінах нашага жыцьця і „політэкономію ў пытаньнях і адказах“. Узяўшы апошнюю ў рукі, я задаў сабе некалькі пытаньняў і, зачыніўшы вочы, адказаў на іх.

Паверх кніжак я паклаў яшчэ складаны зэдлік і столік і ўсё гэта ўціснуў вяроўкамі. Ад натугі засопся і сеў на лаву.

— Сапрон, ідзі палуднаваць!—клікнула маці бацьку.

Елі моўчкі. Мне хацелася распачаць спрэчкі, але матка, як відаць, сваячасова мірганула бацьку і дала яму дырэктывы маўчаць.

Як падмацаваліся, матка, прыбіраючы стол, запыталася ў бацькі:

— Паедзеш ты ці не? Калі думаеш, дык трэба думаць. Каб ня было позна? Усёроўна трэба-ж ехаць!.

— Каму трэба, няхай едзе! Няхай ідзе ды сам запрагае.

— І пайду! Запрэгчы нядоўга—сказаў я і вышаў на двор.

Але ня ведаў я ўсіх тонкасьцяй бацькавага рамяства і развучыўся вазёкацца. На вучоныя лез! Доўга я марудзіў, шукаючы даўно знойдзеныя амэрыкі. То гужы кароткія, то кляшчы ня сходзяцца, то яшчэ якая хвароба. Нават не з таго боку пачаў дугу ўстаўляць.

Вышаў з хаты бацька і з пагардай глядзеў на мае опэрацыі.

— Куды ты сунеш? Ня гэтак! У другую дірку! Мацней нацягвай! Нагою ўпірайся.

Бацька злосна плюнуў, падышоў да кабылы і перарабіў усё пасвойму.

— Гэта табе не рэзолюцыі выносіць! закончыў ён і пашоў у хату.

На разьвітаньне са мною прышлі з поля мае сёстры. Яны мяне вельмі паважалі, глядзелі на мяне, як на вялікую шышку. Цалуючы старэйшую сястру Ганульку, я сказаў:

— Замуж не сьпяшайся, асабліва за Яўмена. Я табе знайду добрую пару!

Гануля трохху адукаваная, тры зімы хадзіла ў школу. Як прыбярэцца калі, дык вельмі падобна да інтэлігэнткі, хоць бацька і дражніць яе ў гэты час „чыпірадлай“. Я не разумею, які сэнс бацька ўкладае ў гэта слова, але Ганулька вельмі ня любіць гэтага слова.

Матка троху сьлёзак скінула і зноў наказала мне, каб быў асьцярожным і трымаўся за пасаду.

Пад акомпанімэнт матчыных знаёмых мне сьпеваў узьлез я на воз. З правага боку да мяне падсеў бацька, і нашы калёсы выкаціліся з двара.

Праз хвіліну мы ўжо трухам ехалі па шляху на Шапялёўку.

## II. На новым месцы

Кабылка наша, хоць і была задаволена на ўсе 100%, але вельмі слаба пасоўвалася ўперад. І маці мая, такім чынам, памылілася. Мы на нач ня прыехалі ў Шапялёўку. Мала гэтага. Усю ноч ішоў моцны дождж. Мы ехалі вярстоў з 20 лесам, і некуды было схавацца ад залевы. Ніякае дрэва не магло быць хаўрусьнікам у нашым змаганьні з нябесным самагонным апаратам, бо ўвесь лес яшчэ толькі пачынаў абрастаць лісьцем, і яно не ратавала нас.

Прыехалі мы на месца, як пачало разьвідняць. Былі мы мокрыя. Раньне выдалася прыгожае, сьветлае, бліскучае. Усе мае рэчы прамоклі дашчэнту і ад гэтай незадачы настрой мой і тэмпэратура цела значна зьнізіліся.

Усё раньне сушыўся я, скінуўшы з сябе ўсю вопратку і застаўшыся, у чым маці нарадзіла. Я зрабіў прапанову, каб і бацька на гэткі манер прасушыўся, але ён зарагатаў.

— Ня хочу сядзець голым апосталам, як ты! І так падсохне, ды яшчэ хутчэй, як у цябе!

Сон ня йшоў да мяне, і я голы шпацыраваў па пакою. Бацька глядзеў на мяне ды ўсьміхаўся ў сваю сівую бараду. Што да маіх рэчаў, ці „прычындалаў“, як кажа бацька, дык аб іх я падумаў у першую чаргу і зрабіў такія практычныя мерапрыёмствы. Я вынес іх на заежджы двор і пачаў разьвешваць на частаклеце, досыць новым і яшчэ не запэцканым.

А бацька ў гэтым кірунку прытрымліваўся наплявізму і нават угаварваў мяне:

— Не саром сябе прад людзьмі, цэлы гамазын паразьвешаў тут!

— У цябе, бацька, кунктатарская тактыка! Прапусьціш час—і рэчы папсаваны.

Зразумела, што мае рэчы прыцягнулі ўвагу самых шырокіх мас. З самага раньня народ кучкамі прыходзіў каля заежджага дому і ва ўсе вочы глядзеў на „прычындалы“. Мне гэта троху псавала кроў, асабліва, калі я на свае вушы чуў мяшчанскія праклямацыі, што „прыехаў альбо пан, альбо а грэйсэ шышкэ“. О, чэрці перапялёсыя, гнойнікі мяшчанскія! Каб у вас на носе села а грэйсе шышкэ!

У выканкоме праца ўжо йшла, калі я прышоў туды. Я лічыў пытаньнем выключнай важнасьці разьведаць пра сваё начальства ўсё, што можна, і яшчэ ў заежджым доме мяне інформавалі, што старшыня РВК цяпер у разьездах па раёне, што ён з сялян, зусім просты чалавек, жанаты, здаецца, і прыплод ёсьць, здаравяк—махіна і ўпарты, як вол. Яго нядаўна сюды прыслалі, бо ведалі, што толькі ён можа зьнішчыць галавацяпства Шапялёўскіх устаноў. „Як бачу, монолітны чалавек!“ падумаў я.

Некаторыя дадатковыя неабходныя весткі атрымаў я ад кур'ера РВК, якога я сустрэў, ідучы ў РВК, і якому сказаў, што я прыехаў на пасаду загадчыка культаддзелу.

Першае, што я ўзяў на ўвагу, калі ўвайшоў у агульную канцэлярыю выканкому, была машыністка. Яня сядела каля вакна і задумёна татахала на машынцы.

Каля дзяўчыны мітусіліся делаводы, перапісчыкі, падсоўвалі ёй свае паперы і спрачаліся між сабою за чаргу. Кожны з іх пахмыляўся, нахабна глядеў ёй у вочы, блізка дыхаў на яе, часам мармытаў ёй два-тры словы. Яна давала гэтаму мінімум увагі і, мусіць, конкрэтна разумела сваю задачу.

Яе аблічча адразу ўціснулася ў маю памяць. Троху ўдоўжаны твар, з шырока-адчыненымі, чорнымі і троху гульлівымі вачамі, кучаравыя, чарнявыя, абчыкрыжаныя на гарадкі манер валасы, нос з невялікім горбікам і зграбная постаць з прыгожымі курганчыкамі грудей -усё гэта адразу асьвяжыла маю кроў, надало мне бадёрасьці, якую я страціў быў у мінулую мокрую ноч.

А вакол гудеў народ, пчырчэлі пёркі скрыбаў, з шолахам пераварачваліся аркушы паперы, рыпалі дьверы шафаў, са стогнам пераkладваліся з месца на месца вялізныя, тоўстыя кнігі з лічбамі сялянскага жыцьця.

Я спыніўся на хвіліну і моўчкі завастрыў сваю ўвагу на дзяўчыне. Яна павярнула сваю галаву ў мой бок і зірнула на мяне. Хацела зноў узяцца за справу, але я ўпарта глядеў на яе і хацеў накіраваць яе думку на сябе. Я выцягнуўся і стаяў перад дзяўчынай высокі, уважысты, з сьвежым мужным (праўда карпаносым) тварам чалавек. Я наўмысьне разглядаў яе, як цікавую, але непатрэбную ў нашым будаўніцтве рэч.

У першы момант дзяўчына нібы засаромілася, лёгкі налёт чырвані прабег па яе аблічча, але потым яна, відаць, урэгулявала сваю кроў. Дзяўчына сьмела і нават з пагардай пачала глядець на мяне.

Некалькі хвілін цягнулася наша вочнае спаборніцтва. І вядома, перамога была на маім баку. Дзяўчына адвяла ў бок свае прыгожыя вочы, і яе пальчыкі няўпэўнена пачалі скакаць па машынцы, а груді парыўна заварушыліся пад тонкай кофтай.

Мне хацелася пагаварыць з ёю.

Я пашоў да яе.

— Пакажэце мне сэкратара РВК!

— Ён у габінэце старшыні.

— Старшыні яшчэ няма? Ня ведаеце?

— Ня бачыла. Здаецца яшчэ ня прыехаў!

Я прайшоў у габінэт, адчуваючы, што ў сьпіну мне глядели яе вочы. Адзначыўшы гэтыя станоўчыя вынікі маёй кароткай размовы з дзяўчынай, я ішоў у габінэт шырокімі, упэўненымі крокамі і нават сымуляваў некаторую распусную развальцу ў хаде, чаго звычайна ў мяне не прыкмячалася.

Дзяўчына памылілася. Старшыня тав. Сом ужо вярнуўся з раёну і сядзеў у габінэце. Я назваў сябе. Старшыня сустрэў мяне досыць роўнадушна.

У яго нізкі, груглы голас, самы звычайны, з усімі адценьнямі, сялянскі голас. Ні кроплі адукацыі ня бачна. Калі ён гаворыць, ад яго слоў у агульным і цэлым пахне жытам, полем, непарушнай моц'ю лясоў і сенажацяў. І я конкрэтна разумею прычыну ўплыву яго на людзей.

Тав. Сом ня доўга гаварыў са мною. Я пашоў у агульную канцэлярыю прыняць справы. У маім веданьні два сталы, дзьве шафы і тры зэдлі.

Тут адразу вызначыўся шлях маіх дачыненьняў з машыністкай. Мае сталы стаялі побач з яе столікам. Дзякуючы гэтаму, можна было без перашкод наглядаць за ёю.

Я на сябе зазлаваў не на жарты. Як жа? Прышоў у савецкую ўстанову, атрымаў важную пасаду і з першага моманту больш цікаўлюся спадніцай, чымся дзяржаўнымі справамі. Мне трэба адразу разьмежаваць свае функцыі ад функцый дзяржаўных.

Хачу зрабіць гэта, але ў першы дзень мне ня хочацца займацца справамі, і ўсю ўвагу прыцягвае яна.

Даведваюся, што завуць дзяўчыну Крэйна Шуфэр.

„Надзвычайна прыгожая яўрэйка!" падумаў я і пасьля шалёнага змаганьня з сваім тэмпэрамэнтам вынес рэзолюцыю: зрабіць крокі да ажыцьцяўленьня самай шчыльнай сувязі з ёю. Я нават пачаў у галаве намячаць трохгадовы пэрспэктыйны плян майго закаханьня ёю і не заўважыў, як да яе століка падышоў малады белагаловы з блакітнымі вачыма чалавек.

Крэйна яму прыхільна ўсьміхнулася, неяк дзіцяча расчыніла рот і кіўнула галавой, а ён мэлянхольна працягнуў ёй у рукі паперу.

Я запытаў у дзелавода, што гэта за Джэк—вантробшчык дзявочага сэрца. Дзелавод сказаў:—Гэта аграном Агнісьцік.

Аграном прысеў на рог стала і неяк сумна пазіраў на Крэйну.

Прышоў яшчэ настаўнік Юрлік, які, сказаўшы мне пяць слоў у галіне культпрацы, падсеў потым таксама каля Крэйны і пачаў чытаць інструкцыю аб карыстаньні жыцьцём. Ён павольна скруціў вялікую таўшчэзную цыгарку, прыляпіў яе да ніжняе губы, запаліў і, ня вымаючы яе з роту, гаварыў, гаварыў і гаварыў, апраўдваючы сябе ў нейкім злачынстве.

— Я быў п'яны тады, Крэйна!—паўголасам гаварыў ён.—У нелегальнай форме. А ты дурненькая... У цябе палітычная верлавокасьць, калі ты прыймаеш гэта ўсур'ёз.

— У цябе грубы падыход да жанчыны,—сказала Крэйна ціха. Думаеш, што яна жывёла... Вось і наляцеў, цяпер самому сорамна ў вочы глядзець...

— Крэйна, пагодзь мяне з ёю! Я ня буду больш так рабіць! Ведаеш, я ня вінен у гэтым... У школе 3 настаўніцы, а я адзін хлопец, ну і шчыплю іх. А яны склоку між сабой завялі.

Пасьля я даведаўся пра гэту гісторыю. Юрлік незадоўга перад гэтым на нейкай вечарыне наладзіў сыстэматычнае паляваньне на жанчын. Першай ахвярай была настаўніца Зязюлька, якая публічна, у прысутнасьці шырокіх савецкіх мас, абразіла яго, па-першае, абазваўшы яго высокакваліфікаваным хамам, па-другое, змазаўшы яго па твары нечаканай і выразнай па гуку поўхай; па-трэцяе, не пасьпеў Юрлік ачухацца і нейкую абарону ці рэабілітацыю прыдумаць, як Зязюлька новую поўху прыляпіла ўжо левай рукой і хутка зьнікла з вачэй усіх прысутных. Гэты інцыдэнт меў дзіўныя вынікі: настаўнік Юрлік загарэўся нястрыманым імкненьнем да Зязюлькі і шукаў выпадку зноў па-сяброўску гаварыць з ёю.

З габінэту вышаў старшыня тав. Сом, прашоў каля нашых сталоў, спыніў свае вочы на аграноме і настаўніку і роўным голасам заўважыў:

— Сталы ў канцэлярыі зроблены не для сядзеньня. Таксама і курыць нельга: калі кожны будзе курыць, тут немагчыма будзе працаваць. Мне прыйдзецца штрафаваць за парушэньне правілаў.

Сказаўшы гэта, старшыня пашоў далей.

Аграном замітусіўся і адразу страціў усю сваю мэлянхолію.

— Калі ў вас і зэдляў няма,—апраўдваўся ён перад Крэйнай і пачырванеў.

— Чаму ўсе дзелаводы кураць, ім дык можна! сказаў і Юрлік.

— Ім можна, яны ўвесь час працуюць тут, а вы... заўважыла Крэйна.

— А я набрыдзь? усьміхаючыся запытаў настаўнік і пакінуў канцэлярыю.

А мне дык вельмі спадабаўся гэты інцыдэнт. Я падумаў: правільна, трэба з дробязяў пачынаць, трэба ўсё браць на ўвагу. Памойму, у гэтым і ёсьць агульнае кіраваньне, неабходнае ў нашым някультурным жыцьці.

Прышоў яшчэ начміл Какоцька і, пабыўшы хвіліну каля Крэйны, прашоў у габінэт старшыні.

Я таксама пашоў туды. У мяне зьявілася шмат запытаньняў, якія трэба было зараз-жа вырашыць.

Тав. Сом слухаў справаздачу начміла.

— Мною правадзіцца ў жыцьцё такая пастанова,—пачаў гаварыць начміл,—каб да 1 траўня ўсе грамадзяне нашага мястэчка паставілі перад дамамі ліхтары, каб на вуліцах праклалі тратуары. На камунальныя сродкі і часткова за прыватніцкія думаем вясною забрукаваць вуліцу да РВК. Па-другое, неабходна забараніць каровам хадзіць па тратуарах. У мястэчку налічваецца каля 30 штук такіх інтэлігэнтных

кароў, якія лічуць ніжэй свайго гонаруісьці па вуліцы. Мы думаем аслухных штрафаваць і першы раз браць у каровы 1 р., другі раз 2 р. і трэці раз 3 р.

Т. Сом ледзьве ўсьміхнуўся і зьвярнуўся да мяне:

— Якога вы пагляду адносна гэтага?

— У мяне будуць такія дадаткі і зьмены да сказанага т. Какоцькам, — сказаў я.—Неабходна яшчэ зусім пазбавіць сьвіньняў права паказвацца на вуліцы. Бяспрытульных валачобнікаў заганяць на выканкомскі двор і браць па 1 р. за экзэмпляр, калі знойдзецца ўласьнік жывёлы. Апрача гэтага, неабходна зарэгістраваць у 3-дзённы тэрмін усіх сабак і кошак і гэтым даць магчымасьць статорганам ведаць лік сабачага і кацінага насяленьня рэспублікі ў мэтах экспортных магчымасьцяў.

Старшыня зірнуў на мяне і забарабаніў пальцамі.

— Урэшце,—сказаў я,— міліцыі неабходна завастрыць увагу і на такім факце: на вёсцы зьявіліся хлапцы, нават камсамольцы, якія таўкуцца ў народзе ды запісваюць стары быт. У гэтым няма выстарчаючай плянавасьці. Запісваюць усё, што пад руку пападзе—песьні, прыказкі, забабоны і ўсякае непатрэбнае глупства. Неабходна, каб міліцыя мела за гэтым нагляд і дазваляла гэта рабіць толькі тым, у каго будзе ад культаддзелу паперка.

Т. Сом гучна засьмяяўся і сказаў:

— Вашыя дадаткі і зьмены яшчэ рана ўносіць. А наконт вашых, сказаў ён, зьвярнуўшыся да начміла,—пакуль што патурбуйцеся аб тратуарах, ліхтарах ды забрукаваньні вуліцы. Усё іншае кіньце.

Мяне гэта зазьдзівіла.

А каровы, а сьвіньні, сабакі? падумаў я. Ніякай культуры. Нават дарогі ня ўступаюць. Поўнае роўнапраўе з людзьмі!

## III. Сувязь мацнее

Як скончылася праца ў выканкоме, я самую пільную ўвагу зьвярнуў на тое, каб ісьці дадому разам з Крэйнай. У дачыненьнях да яе я меў пэўную мэтавую ўстаноўку. Я трымаў курс бліжэй пазнаёміцца з ёю.

Ідучы па вуліцы, я загаварыў з ёю ў самых вытрыманых тонах. Я жаліўся ёй, што новаму чалавеку вельмі цяжка наладзіць жыцьцё ў мястэчку, і прасіў яе параіць мне што-небудзь добрае ў гэтым кірунку.

Яна ўважліва слухала мяне, а я ў свой голас уліў усю пяшчотнасьць і мужчынскае зладзейства, наколькі мог. Яна спачувальна паставілася да мяне: пачала апавядаць пра мястэчка, пра тутэйшых людзей, іх звычаі, думкі, плёткі, забавы. Мы ня прыкмецілі, як падышлі да яе кватэры.

Я ўжо хацеў разьвітацца з ёю, але яна параіла мне кватэру тутжа, у доме, дзе жыла яна.

Даю фактычную даведку, што такі зварот справы вельмі ўзьвесяліў мяне, бо відавочным зрабілася, што я пачаў весьці на яе правільную атаку і адразу для мяне вызначыўся шэраг дасягненьняў. Вызначыліся і шляхі далейшага разьвіцьця нашых узаемаадносін: кожны дзень, жывучы побач з ёю, я павінен паступова апрацоўваць яе думку наконт правільнасьці і натуральнасьці маей асноўнай вытворчай лініі·

Ідучы ад Крэйны у заежсы дом, я быў у такім узьнятым настроі, што адным махам пераскочыў на рынку шырокую яміну з гразнай вадой. Гэта выклікала нязвычайнае здзіўленьне хлапчукоў, якія бегалі тут. Некаторыя з іх паспрабавалі быць маімі пасьлядоўцамі, але, ня гледзячы на свой юнацкі запал і спрытнасьць, сьвістарэзнуліся ў самае балота пад сьмех сваіх таварышаў. Я пашоў далей, а ўсьлед мне глядзелі з захапленьнем вочы хлапчукоў.

Праз два дні я перавёз на новую кватэру свае „прычындалы“.

Мне вельмі добра спалася ў тую першую ноч, і сьніў я Крэйну.

Быццам сядзеў я з Крэйнай у садзіку, і яна зрабіла мне прапанову пайсьці з ёю на Лютнянскі шлях. Зразумела, я прызнаў гэту прапанову адпавядаючай сучаснаму моманту і прыняў удзел у прыродна-географічнай экскурсіі.

Па дарозе, калі з нашага воку схаваліся местачковыя будынкі, я мякка ўзяў яе пад пашкі і мы пашлі шчыльна прыціснуўшыся адзін да другога.

Потым быў пералесак і на лагчынках шмат кветак, блакітных, белых, ружовых, і мы зрывалі іх. А потым... Ах, які жаль, якая згуба, што гэта было толькі ў сьне!..

Калі я абудзіўся, была ўжо 9-ая гадзіна раніцы. Я салодка пацягнуўся, перажываючы прыемны сон.

У суседнім пакоі чутны былі лёгкія крокі Крэйны. Я падумаў: напэўна яна стаіць перад люстэркам і глядзіць, не нагледзіцца на сябе· Магчыма, думае, што ў гэтым глухім мястэчку яна, канешне, самая прыгожая, маладая і прывабная дзяўчына.

Не! Яна, мабыць, ніколі і ня думае пра гэта, затое я добра ведаю, што ніводная дзяўчына ня мае такога сьвежага, бела-ружовага твару, як у Крэйны, такіх глыбокіх, не стандартызаваных, таемных вачэй, такога спрунжыністага, як у п‘яўкі, роту. Уся яе постаць, зграбная, умеркавана мясёная, запальвае мяне, напаўняе кроў ліхаманачным агнём, абяцае вар‘ятна-гарачыя пяшчоты, саракаградуснае шалёнства.

Што мне рабіць? Уся мая фізычная структура адчувае, што першачарговым заданьнем будзе заваяваць яе сымпатыі і спагаднасьць і потым ужо дабівацца практычных вынікаў у гэтым кірунку.

Я ляжу на ложку, ня хочацца паварушыцца. Прыслухоўваюся да сваіх палкіх мараў, якія сваім зьместам маюць выключна яе, непараўнальную Крэйну. О, што-б сказала мая маці, каб даведалася, як Крэйначка закруціла галаву яе сыну? Што скажа маці, калі сын ажэніцца з Крэйнай? А бацька?..

Думаючы над гэтым, чую, што ў суседні пакой увайшла перапішчыца выканкому Зоя Люсарэнка. Я пазнаю яе па голасе, мэлёдычным, як у жалейкі. Яна таварышка з Крэйнай.

Зоя квола, паветрана, як птушачка, лётае і пяе. Здаецца, падзьме вецярок - і дзяўчыны няма.

Учора я гаварыў з судзьдзёю пра мясцовых дзяўчат. Судзьдзя — той самы філёзоф Торба, аб якім я пісаў раней. Дык ён сказаў мне наконт Зоі:

— Аднаднёўка, міраж. Няма мяса, няма фізыолёгічнай базы. Дакранешся, сарвеш кветку і нічога больш няма!

Сьмешны судзьдзя чалавек!

Зоя гаворыць, а мне чутна кожнае яе слова:

— Я за табою. Ужо 9-я гадзіна, а ты і ня думаеш.

— Пачакай! Куды ляціш, як на пажар?.. Лепш скажы, дзе ты ўчора была, чаму на сход не зьявілася?—пытаецца Крэйна.

— Шкулік прычапіўся, і мы разам пашлі ў рабочы клюб на лекцыю.

— Лекцыю? Якую?

— Ат! Нічога цікавага! Зьбілі лектара з панталыку... Я добра і ня чула, што гаварылі... Падсеў да мяне гэты чорт тэлефоніст Сьвердзялюк, ды глупства рабіў... Ой, Крэйначка, чаго толькі ня вёрз ён! Вось яшчэ чапяла чортава! Да душы кажу, у другі раз не сьцярплю!.. А ўчора неяк нялоўка было цыкнуць на яго, ды вархал узьняць... У другі раз пры людзях абсаромлю. Знайшоў цацку дурыла!

— Але-ж, скажы, пра што гаварылі хоць?

— А добра і ня ведаю. Нешта гаварыў пра наша мястэчка, як жылося тут даўно, даўно, тады, калі людзі рыбінымі іголкамі шылі ды ў скурах зьвярыных хадзілі... Пасьля быў тут нейкі князь Баболя, які катаваў людзей за бульбу, бо не хацелі сеяць яе... Дык ведаеш: Шкулік узяў блёкнот ды пачаў даваць пытаньні лектару: якая цана была тады на бульбу, які быў процант няпісьменных, колькі было беспрацоўных? А лектар ні бэ, ні мэ на гэта. А мы...

Апошнія словы я ледзьве пачуў. Крэйна, мабыць, мірганула, што я тут і зьяўляюся перашкодай для вядзеньня інтымных размоў.

Добра! падумаў я. Цяпер я троху ведаю, што вы за птушачкі. У справу ўнесена грунтоўная яснасьць. Ці не распачаць мне змаганьне на два фронты?

Ад гэтай думкі ў мяне зрабіўся вельмі вясёлы настрой і адпаведная тэмпэратура ва ўсім целе. О! як добра жыць, быць здаровым, поўным энэргіі і мужнай сілы!

У гэты момант я нават і ня ведаў добра, што я буду рабіць, але для мяне адно было вельмі зразумелым: неабходна ўзмацніць агонь па гэтым сэктары, неабходна зрабіць вылазку ў гэтым кірунку...

Я хутчэй пачаў апранацца, пырснуў вадой на свой твар і шпаркімі крокамі вышаў на двор.

Двор быў чысьценькі, абгарожаны частаклетам. Быў добры садзік, і з яго плыў лёгкі пах чарэмхі. Прыемнае хваляваньне ў крыві выклікаў гэты пах.

Я сеў на лавачцы каля саду і зрабіў належны выраз на маім абліччы.

Супроць лавачкі было вакно Крэйны, і мне хацелася, каб яна зірнула на мяне. Я галаву накіраваў троху ў бок, сьціснуў губы, прымружыў вочы, надаўшы ім выраз нейкага лёгкага суму. Аднэй рукой я абапёрся на калена, а другую, як быццам зьнясілены, спусьціў дадолу.

Праз хвіліну мая тактыка мела бліскучыя вынікі. Ваконца Крэйны ціха, бяз шолаху, адчынілася, і з боку яго высунуліся дзьве дзявочыя постаці, якія разглядвалі моўчкі мяне.

Няхай жыве мая асоба! радасна думаў я. Першы крок зроблены. Цяпер толькі трэба дэталізаваць праграму чыннасьці і вызначыць, так сказаць, арганізацыйныя формы нямінучага працэсу. Сягоньні-ж трэба падумаць аб гэтым, як прыду з канцэлярыі.

Я ўстаў з месца, цяжка уздыхнуў, нібы ў мяне вялікае, глыбокае і шырокае гора. На хвіліну нібы аслупянеў. Я глядзеў у далячыню, дзе за садам сінела неба і зелянелі лугі, а за імі зялёнаю, нібы пуховаю, мумкаю прыгажэў вясновы лес.

Прызнаюся, я троху захапіўся малюнкам вясны і на хвіліну забыўся аб Крэйне.

З дрымотна-салодкага аняменьня мяне вывеў ціхі мэлёдычны дзявочы сьмех.

Я зірнуў на вакно і прывітаў:

— Добры дзень, Крэйна! Гэта вы сьмяецеся так рана?

— А можа нельга так рана сьмяяцца? — высунулася яна з вакна, за ёю і Зоя. Абедзьве прыветна кіўнулі мне.

Крэйна запытала:

— Ну, як падабаецца вам кватэра, сад?

Я адказаў:

— Ах, мілыя чалавечыцы, мне нячувана добра ў гэтым глухім і прыгожым куточку Беларусі, і я ўжыву ўсе захады, каб затрымацца тут на доўгі час, калі не навек!

## IV. Жаўтароты птушанок

Пасьля гарбаты я з Крэйнай і Зояй накіраваліся ў выканком.

Было напярэдадні 1 траўня. Вуліцы падмяталі, вокны мылі, ганкі шаравалі. Міліцыя наглядала, каб мястэчка выглядала сьветлым і прыбраным. Была разьвешана аб'ява, каб перад сьвятам тры разы ў дзень падмялі вуліцы: а 9-й гадзіне, а 15-ай і 21-й. Усе грамадзяне шчыра выконвалі гэты зусім сваячасовы загад.

Мы асьцярожна праходзілі паміж узброеных доўгімі мятламі падлёткаў і дарослых. Прыходзілася пільна сачыць, каб не папасьці ў самы пыл. А пыл быў узьняты такі моцны, што нельга было нічога разгледзець.

Каля вэтэрынарнай амбуляторыі мы спаткалі нейкага жвавага піпканосага маладога чалавека ў вышыванай сарочцы. Правільней кажучы, ён наляцеў на нас і ледзьве ня зьбіў нас з ног. Ён некуды сьпяшаўся.

Крэйна схапіла хлапца за рукаў:

— Ці не на дожа ты разьбегаўся?

Малады чалавек радасна ўсьміхнуўся дзяўчатам і, схапіўшы лоўкім манерам пад пашкі абедзьвюх дзяўчын, адразу зьмяніў кірунак свае хадзьбы разам з намі.

Крэйна пазнаёміла:

— Гэта т. Шкулік Зізь, касір рабкопа і кіраўнік драмгуртка.

Я зірнуў на Зізя. Хударлявы, чарнамазы хлапец, з вельмі кучаравымі згуртаванымі валасамі, але такімі вялікімі, што на галаве нібы сядела сароччае гняздо. У яго былі бегаючыя бліскучыя вочы, чырвоныя бэконныя губы і крыклівы, тлумна-вясёлы голас.

Шкулік засыпаў:

— У мяне да вас прапанова і нават загад. Вы ведаеце, што заўтра будзе?

— Што будзе? Сьвята будзе.

— Гэта ўсе ведаюць, нават эмбрыёны. А ці ведаеце, мы заўтра наладжваем грандыёзную маёўку ў лесе..

— Аб гэтым мы ня чулі!—зацікаўлена ў адзін голас прызналіся дзяўчаты.

— Дык вось, я прапаную вам запісацца ў мяне. Ганеце адзін рубель з вашага чароўнага рыла.

Мяне гэта як сярпом разанула. Паколькі ў маіх руках цяпер асноўныя спружыны культуры ў раёне, дык павінен-жа я наглядаць, каб людзі былі ветлівы, абыходлівы і ня выходзілі з межаў прыстойнасьці.

Я зрабіў нездаволены выгляд і зьнішчаюча зірнуў на Зізя.

Крэйна зразумела:

— Яго сумазброддзе даўно з глуздоў зьехала! Усё Шкуліку дазволена, ўсё з рук сходзіць.

Як здалося мне, Крэйна нават мяккімі вачыма, як маці, зірнула на Шкуліка, і мне было зайздросна.

— Не, мае глузды ўсе дома!—агрызнуўся Шкулік і, нядоўга думаючы, ушчыкнуў Крэйну. Гэты выбрык ён правёў пад акомпанімэнт уласнага голасу:

Як мой мілы ушчыкнуў,
Маё сэрца здрыгануў.

Крэйна мякка шляпанула яго па патыліцы. На дапамогу зьявілася і Зоя, якая, відаць, яшчэ раней атрымала ад Крэйны адпаведныя дырэктывы і працавала па мэтаду індывідуальных заданьняў. Не саромячыся мяне, дзяўчаты ўзялі Шкуліка на рэмус, ірвалі яго за вушы,

з нябывалай актыўнасьцю чапляліся ў яго валосьсе, з нячуваным зьдекам адносіліся да яго ружовага твару. У гэтую юнацкую булку яны ўпіваліся, як у памідор.

Але і Шкулік лоўка калатушыў супраціўніц, хапаючы іх за рукі, бязьлітасна шчыплючы, дзе прыдзецца.

Такім чынам, штурхаючыся, рагочучы, ойкаючы і вясёла стогнучы, дайшлі мы да выканкому.

Мая пазіцыя была досыць нявытрыманая. Мне хацелася схапіць гэтага кудлатага хлапчука і расьцягнуць як мыш якую, але прысутнасьць Крэйны стрымлівала мяне. Яна мне была міла, ня глезячы на тое, што прыймала ўдзел у бясчынствах на вуліцы і дыскрэдытавала савецкага працаўніка.

Добра яшчэ, што на вуліцах пыл вялікі быў, і ніхто ня бачыў нашых учынкаў.

На ганку РВК Шкулік спыніўся. Крэйна запытала:

— А хто яшчэ запісаўся?

— Будзе невялікая кампанія, але цёплая. Самыя цікавыя для цябе, Крэйна, людзі...

— Хто-ж гэта?

— У першую чаргу я. .

— Ты? Ты заўсёды прылепішся. Без цябе ніяк нельга.

Шкулік прычыніў адно вока, другім зірнуў на Крэйну, потым на Зою і, як чалавек барахольнага маштабу, шальмоўна падміргнуў. Яны абедзьве засьмяяліся.

Я хацеў пайсьці ў канцэлярыю—гэты шылахвост Шкулік выклікаў у мяне паступова ўзрастаючае абурэньне.

Крэйна спыніла мяне:

— А вы будзеце на маёўцы?

— Калі вы будзеце, дык і я.

— Мы з Зояй будзем.

— Добра! Можаце і мяне кооптаваць у склад цёплай кампаніі! сказаў я Шкуліку. Ён запісаў мяне, узяў грошы і потым пералічыў удзельнікаў:

— Будуць: Торба, Мамон, Гарачы, Юзька Гыля, Сьмятана-Бурчайла з жонкай. Сьвердзялюк, Хвэя бяз жонкі, Самчык, настаўніца Крутарожкава, настаўніца Зязюлька, тэлефаністка Горбік...

— Жанчын можна не пералічаць. Нас гэта зусім ня цікавіць! заўважыла Крэйна.

— Зразумела, будуць яшчэ Зычок, Дулянок, Кудлянок і ўся сям'я Галавасьцікаў.

— А багародзіца з сынамі будзе? запыталася Зоя. Усе пераглянуліся і аж сагнуліся ад сьмеху. Я нічога не разумеў. Крэйна дала тлумачэньне:

— У нас ёсьць такая грандама, якую нехта назваў яшчэ грандотэльдама, а мы завем багародзіцай. У яе тры надта вучоныя сыны:

дзін спэцыялісты па сельскай гаспадарцы, другі юрыст, трэці нейкі дыплёмат быў, адным словам, ня людзі, а багі. Яны, сыны, у Маскве і прыехалі сюды, каб усё сваё кодла забраць туды. Нават бабу стагоднюю забіраюць. Досыць жыць тут.

— А як прозьвішча іх? —запытаўся я.

— Багародзіца была два разы замужам. Першы раз была замужам за Курыцай, а другі раз за Курапатай. І сыны яе два ад Курыцы, а адзін ад Курапаты. Як Курыца, так і Курапата былі арандатарамі ў пані Більдзюкевічыхі і толькі за арэнду ў год плацілі 15.000 руб.

— Ого-го!

## V. Вуж закаханы

Вечарам у той дзень быў урачысты сход усіх прафсаюзаў. Я няўхільна працягваў палытіку заваёвы сэрца Крэйны.

Сход быў у клюбе пры нардоме. Клюб быў цесны, на другім наверсе, і ад залі нардому быў аддзелены тонкімі шалёвамі, праз якія добра было чуваць усё, што рабілася ў нардоме. А там у гэты час адбывалася рэпэтыцыя да першамайскага спэктаклю, і людзі, якія прыймалі ўдзел, вывaрачвалі ўсе свае вантробы ад наплыву трагічных пачуцьцёў.

— Я заб'ю вас, як сабаку, генэрал!—крычаў нехта на сцэне.

— А-а-а!—задыхаўся другі ад злабы—гэта вы-той самы анёл сьмерці, што зьдекваўся над людзьмі!

На ўзвышшы ў клюбе стаяў засланы чырваньню стол і вакол яго вельмі нізкія лавы.

У прэзыдыум вызначілі 7 асоб. Крэйна высунула і маю кандыдатуру. Я зрабіў ёй пагрозу пальцам, але з прыемнасьцю пашоў і сеў. У прэзыдыум абралі яшчэ жанчыну доктара, але яна адгаварвалася.

— У мяне на мястэчку цяжкія нарадзіны, і кожную хвіліну мяне могуць паклікаць.

— Тады і пойдзеце! не згаваўся сэкратар райкому.

— Не, не і не! змагалася дохтарша. Я лепш тут каля дзьвярэй сяду!

А сама акушэрцы ціха гаварыла, і я чуў гэта:

— Нялоўка мне, немаладой ужо,ісьці туды, ды сядзець куклай, глядзець на ўсіх.

Якая несьвядомасьць! падумаў я. Калі мы ўсе селі за стол, дык не адразу змаглі вызначыць сэкратара. Пры гэтым лавы не адпавядалі сваёй мэце: над сталом было добра відаць толькі нашы ілбы, а рот, нос і ўсё іншае было схавана ад вока прысутных.

Хацелі мяне вызначыць за сэкратара, але я прасіў устрымацца.

Калі ўсё больш-менш супакоілася, і слова далі дакладчыку, я сеў збоку стала і пачаў асьцярожна глядзець на Крэйну. Побач з ёю сядзеў бухгальтар РВК т. Лін. Яго я прыкмеціў у райвыканкоме. У гэты дзень ён вельмі часта прыбягаў да Крэйны, нешта ціха гаварыў ёй, паказваў нейкія паперы, чытаў нейкія рэзолюцыі, тэзісы, мітусіўся, як уліцкаваны растратчык.

Лін быў досыць уважысты чалавек, у маіх гадох, бялявы, з доўгімі, пухнатымі, як вафлі, вусамі, блакітна-шэрымі мяккімі, з масьлянай вільгацьцю вачыма і ружовым, як у сьвіньнёнка, тварам. Зірнуўшы на яго, адразу можна было констатаваць, што гэты індывід мае значныя дасягненьні ў галіне сыстэматычнага паляваньня за ідэйна трухлявымі, але чароўнымі мяшчаначкамі.

Мяне моцна разанула па сэрцы, калі я пераканаўся, што Лін (і прозьвішча як у сук улеплена!) зусім ня слухае дакладу, а шчыльна, як вуж, абкруціўся каля Крэйны і мілосна нешта напявае ёй. О! кваліфікаваная падла! Як я хацеў-бы ў той час ціхенька падабрацца да яго шапкай нявідкай і вострай іголкай калянуць яму язык ці стабілізаваны зад.

Пасьля дакладу былі запытаньні. У прэзыдыум было пададзена 7 пісулек, у якіх прасілі растлумачыць, што азначаюць словы: пэрыфэрыя, квінтэсэнцыя, прызма, рацыяналізацыя, стабілізацыя, уцілізацыя і г. д.

Пасьля афіцыйнай часткі абвесьцілі перапынак. Чакалі концэрту.

Крэйна выйшла з нардому. Я пасьпяшыў за ёю, бо хацелася хутчэй намацаць глебу для больш інтымных спраў. Але дзяўчына, вышаўшы з нардому, як вадою разьлілася.

Сумны, з пачуцьцём нейкай смолі на сэрцы, я накіраваўся за глухую сьцяну нардому. Тамака было цямрава, і толькі троху далей высоўваўся змрочны сілуэт сынагогі, за ёю сілуэт другой сынагогі і трэцяй. Будынак нардому да рэволюцыі таксама быў сынагогай і самай пекнай з усіх 5 местачковых сынагог. Але ў 19 годзе, дзякуючы няўтомнай энэргіі і маньяцтву двох людзей—настаўніка Калабухі і старшыні рэўкому Беларыбкі—сынагога перавярнулася ў добра абсталяваны з дэкорацыямі і мэбляй нардом. Мне гаварылі яшчэ, як будавалі гэты нардом. Калі выканком зачыніў сынагогу і пачаў шукаць людзей, каб пераробіць яе на нардом, дык ніхто з цесьляроў не пашоў на працу, ні яўрэі, ні хрысьцьяне. І будавалі ўсё настаўнік Калабуха і старшыня Беларыбка. З імі яшчэ працаваў адзін чалавек, ды ён быў зусім глухі. І вось адзін раз, настаўнік Калабуха ўбіваў цьвік у самы кумпал сынагогі. Прыладзіў драбіны і пачаў моцна бахаць па цьвіку, але... драбіны пахіснуліся... Настаўнік затрымаўся на ўбітым цьвіку і павіснуў на сьцяне, а драбіны ўніз паляцелі. Ён закрычаў, але ніхто ня чуў... З ім працаваў і той глухі дзед, якому ўсё роўна было, ёсьць бог ці няма. І ён ня чуў крыку „ратуйце“. А з вуліцы ніхто ня прышоў, хоць, кажуць, і чулі ўсё гэта. Толькі выпадкова дзед узьняў вочы ўверх і ўбачыў, што трэба ратаваць. Цяпер часта апавядаюць гэту гісторыю.

Я стаяў у змроку каля сьцяны нардому і разьбіраўся ў сваіх думках. Было ціха. Ніхто сюды ня заглядаў. Там, з другога боку нардому, чуўся тупат бязьлікай колькасьці ног.

Раптам мае вушы схапілі стрыманы дзявочы сьмех і нізкі гудлівы працяжны голас мужчыны. О, як затахала маё сэрца, як заварушыўся мой мазгавы апарат!

Яна! Яна! А з ёю Лін!

Яшчэ больш прыціснуўся я да сьцяны, урос у яе. Два чорных цені прайшлі за нардом і спыніліся.

Лін, як жаба пяшчотная, вёў сваю лінію:

— Крэйна, каб ты ведала маю горкую долю, ты ніколі не сьмялася-б з мяне... Як убачыў я цябе, на ўсё забыўся! Ты прыгажэй за сонца (сабачае мяса! сказаў я сам сабе), мацней за магнэс! Калі гляджу я ў твае вочы, я забываюся на профсаюз (Сьвіньнячае вуха! Сёньня ж гаварыў: мы, шапялёўскі пролетарыят, павінны паказаць профдысцыпліну!), на абавязкі і бачу толькі цябе, Крэйна. Ты стаіш днём і ноччу перад вачыма...

Крэйна яшчэ раз дзынкнула сьмехам.

— Глупства! сказала яна яму, а ў мяне на сэрцы лёгка-лёгка зрабілася. — Гэта вар'яцтва! Ці ня сорамна табе дзяўчыну спакушаць? У цябе-ж, паважаны таварыш, жонка, трое з паловай дзяцей!

— Ты сьмяешся, а я не магу жыць без цябе!.. Хочаш, Крэйна, кіну жонку, буду жыць з табой!

— Я зусім ня думаю аб гэтым. Ніколі гэтага ня будзе! ціха сказала яна.

— А памятаеш Лютнянскае поле? Памятаеш, сосны ў лесе шумелі, і мы з табой... Няўжо ня зьвернецца той час? скажы, Крэйна.

— Мала што было! — са сьмехам адказала яна і зрабіла некалькі крокаў да нардому.

Лін схапіў яе за рукі, прыціснуў да грудзей і з запалам, якога не чакаў я, узмацніў свае наступленьне:

— Крэйна, пашкадуй мяне! Ты мне патрэбна, як паветра, як жыцьцё. Я звар'яцею, калі ты ня будзеш кахаць мяне... Слухай! Ня хочаш запісацца, будзем жыць так...

— О! гэта вельмі проста... Ты думаеш, я гэтага баюся?

— Слухай, Крэйна! Цяпер маёй жонкі няма. Паехала да маткі. Кінем усё тут, пойдзем да мяне—пагаворым. Ніхто ня ўбача... Я адзін на ўвесь дом...

Лін задыхаўся.

— Дзе ты цяпер жывеш? — запыталася роўнадушна Крэйна, а ў мяне, як полымем, грудзі абсмаліла. Гэта было нечаканае гора, ад якога паваліцца трэба было. Але я стаяў на месцы, як прыкалочаны да сьцяны.

— Жыву я цяпер у 5-м мундоме, ведаеш там, каля барака! — сказаў Лін, і ў яго голасе мне пачулася перамога.

— Што ж, пойдам! Пагляджу, дзе ты жывеш! — проста сказала яна. Лін радасна і ціха засьмяяўся, і сьмех яго быў, як у акулы імпэрыялізму.

У мяне як абарвалася што ў сяродку. Дзяўчына вулічнага маштабу! — падумаў я, каб суцешыць троху сябе. Што-ж? Другім можна — даб'юся і я гэтае асалоды!

Я бачыў, як Лін крывацмокам прыліп да Крэйны, і яны ціха прайшлі каля мяне, не заўважыўшы маёй прысутнасьці. На самым рагу нардому Крэйна раптам вырвалася з цапаў Ліна і сур'ёзным голасам зьмяніла сітуацыю.

— Тут ёсьць невялікая перашкода! Ня быць таму, аб чым просіш ты! Хоць і не праціўны ты, хоць і прыгожы і прышоўся да спадобы іншым дзяўчатам, але я пашукаю лепшага!

І шпаркімі крокамі, дынкаючы сваім голасам, як балабончыкам, Крэйна пашла ў дзьверы нардому і кінула застыглага, як слуп, Ліна ў поўнай расхлябанасьці.

— Ляцеў, як анёл, а ўдарыўся, як чорт!—ледзьве ня ў голас сказаў я, пераканаўшыся, што Лінаўскія прапановы не знайшлі практычнай рэалізацыі.

## VI. У шэрагах мяшчан

Яшчэ з раніцы, як толькі сонца выступіла на арэну дзейнасьці, Крэйна і Зоя пачалі рыхтавацца да гэтай маёўкі. Яны не пайшлі на маніфэстацыю, бо ад Шкуліка атрымалі дырэктывы пячы ўсялякія неадпавядаючыя сур'ёзнаму моманту канфітуры, смажыць цялячыя зады і набываць для такой плоймы неабходныя прылады для зьнішчэньня ежы і пітва.

А я ў профсаюзных шэрагах пашоў на Пляц Волі. Па загаду начміла ўсе профсаюзы, організаваныя грамадзяне і школы выраўніліся ў карэ.

Парад прыймаў старшыня выканкому т. Сом. У яго было радаснае аблічча, ён гогалем абыходзіў нашы шэрагі, якія перад гэтым доўга выроўніваў у нітачку начміл. Я прышоў яму на дапамогу ў гэтым кірунку, і справа ў нас вельмі хутка пасунулася наперад. Тав. Сом кожны колектыў вітаў з пролетарскім сьвятам.

Потым адбыўся мітынг. Я выступіў з прывітальнай прамовай. Для свайго першага дэбюту ў Шапялёўцы я апрануў белую шаўковую з шырокімі адваротамі кашулю і, замест гальштуху, завязаў шырокім бантам чырвоную шаўковую істужку. Я ўпэўнены, што ўсе заглядаліся на гэты нячувана-вялізны, крывава-прыгожы, бліскучы бант! Мяне гэта ўзнасіла на няведамую вышыню, і я з захапленьнем вітаў усіх. Грудзі шырока ўздымаліся, думкі шпарка варушыліся ў галаве, цэлы вадаспад слоў моцных, запальных ліўся сам сабою. На вялікі жаль, мне далі толькі 5 хвілін! Ці-ж можна было ўкласца ў гэты нікчэмны тэрмін? І я, забыўшыся на ўсё, разышоўся ва ўсю моц! Я страціў успрыйманьне часу, і мяне прымушаны былі спыніць, паслаўшы піонэра з папярэджаньнем...

Дзень на 100 проц. адпавядаў нашым жаданьням, быў на дзіва цёплы, сонечны, па вясноваму пахучы.

Удзельнікі маёўкі сабраліся а 3-й гадзіне ў мясцовай школе. Згодна раней намечанаму пляну прышлі з рознымі клункамі, пакункамі,

кайстрачкамі, бавульчыкамі. Жанчыны прымусілі мужчын выконваць ролю двохгорбых вярблюдаў, іх бязьлітасна нагрузілі і сьпераду і ззаду. Толькі мне неяк пашанціла. Крэйна ўсунула ў мае рукі нейкую мяшчанскую торбачку з пяском, вагою ня больш 2 кілё. Я баўтаў ёю направа і налева.

Сабраліся ўсе, апрача т. Сома, які прыслаў пісульку, што выяжджае на вёску.

Нашым правадыром зьявіўся начміл, які пад'ехаў на добрым вараным коніку. Да яго на каня па ўласнай ініцыятыве падсела жонка віннага кантралёра Сьмятаны-Бурчайлы, і наша профсаюзнае войска пад камандаю гэтых верхавых сугуба дысцыплінавана рушылася ў дарогу.

За верхавымі ішла пара: сам Сьмятана-Бурчайла і жонка начміла Анэля з сынком-піонэрам Тэрорчыкам.

Бурчайла злосна паглядаў на жонку. Я разумею чалавека! На яго месцы я не дараваў бы жонцы такога стопроцантнага глупства: сесьці вярхом на каня, ды яшчэ шчыльна прыхіліцца да статнай фігуры начміла! А муж няхай нясе рознае барахло: прымус, імбрычак і нават завівальную машыну! За гэта па галоўцы не пагладзіш!

Анэля-ж таксама была не здаволена, крытыкавала кожны крок верхавых, перакідвалася з мужам вострымі словамі.

Яе сынок Тэрорчык, відаць, хацеў праехацца з бацькам і пытаў у маткі:

— Чаго гэта халер'я прычапілася?

Пабачыўшы, што „халер'я" з канём не разлучыцца, хлопчык у канцы мястэчка пакідае нашу кампанію.

Уперадзе мяне ідуць настаўнікі Гыля і Юрлік і ўсю дарогу спрачаюцца аб шахматах. У Гылі невялікая лысінка, чорныя кучаравыя валасы на віскох, шальмаватыя і ў той жа час сумныя вочы, пузаценькая фігура і ўпэўненая хада. У Юрліка жывыя, шэрыя, з нейкім вясёлкавым бляскам вочы, карпаты, у форме піпачкі, нос, цапкія, нібы што ўсё мацаюць, рукі і лёгкая, як у танцы, што падгопвае, хада. Ён да кожнага сказу і нават слова дадае нейкі своеасаблівы атрыбут:

— Гэта, тое, як яго!

Я ніяк не разумею Юрліка. Для яго толькі два замілаваньні ў жыцьці: прыгожыя дзяўчыны і шахматы. У першым кірунку я зусім разумею яго і ўхваляю яго чыннасьць, затое адносна другога нават не разумею, як можа чалавек хвалявацца гэтай мёртвай хадульнай справай?.. Усьлед за намі ідзе настаўніца Зязюлька з комсомольцам Дусікам, а Юрлік і вокам ня зірне—так завёўся з Гыляй у спрэчках.

— Як ты, разява, хадзіў?!—крычыць на Юрліка Гыля.—Ня ўмееш ты хадзіць! Я табе адразу мат прыляпіў бы, каб ты, шэльма, ня скруціў!

— Калі я, гэта тое як яго, скруціў? Нечым ваўку, гэта тое, як яго, дык лыкамі! сьмяецца Юрлік, і яго сьмех выводзіць Гылю з роўнавагі.

— Ну, пабачым, пабачым! Вось прыдем у лес, раскладземся там, халера ты будзеш, калі ня возьмеш ад мяне мату.

Я запытаў:

— Няўжо вы захапілі?

Жанчыны з жахам паўторваюць маё запытаньне.

— А як жа? Што ж мы, гэта тое як яго, будзем рабіць у лесе? пытае Юрлік.

О, няшчасны сьляпец! Ня ведае, што рабіць у лесе вясною!

Я не адступаўся ад Крэйны і з неаслабнай энэргіяй вёў сваю амурную лінію. Як прайшлі мы мястэчка, перашкодай на маім шляху зьявіўся Ягор Гарачы, загадчык нардому. Яго лічылі мясцовым поэтам і часта называлі Пушкінзонам. Ён меў калматую, альховага колеру, галаву, падсьлёпватыя мышыныя вочы, жарабячы голас і нізкі, ліліпуцкі крываногі рост. Ён дагнаў нас і пачаў вінталём круціцца каля Крэйны. Ён хацеў усю ўвагу Крэйны ад мяне перацягнуць на сваю кургузую асобу. Доўга дэклямаваў верш, які пачынаўся словамі:

— Сэрца ня хоча стрымаць
Радасьці кіслай і сіняй!

За намі ішоў яшчэ тэлефоністы Сьвердзялюк з тэлефоністкай Горбік. У яе я заўважыў выдатныя грудзі, павеўны стан, гітарны голас, у яго—доўгі і тоўсты нос, моцныя лыткі, нізкі, троху хрыпаты, бас. Маёвачнікаў было шмат, усіх не пералічыш. Мяне вельмі здзівіла тая акалічнасьць, што судзьдзя Торба ўсю сваю ўвагу накіраваў на Зою, тую самую, якую ён абазваў аднаднёўкай. Цяпер-жа ён добрымі вачмі аглядаў яе і ціха ўсміхаўся.

Т. Торба мае два абліччы. На судзе перад усімі выступае яго організацыйна добра аформленая фігура: высокі рост, непамерна-вялікія рукі, шырокія, магутныя грудзі, роўныя белыя, як часнок, зубы, зусім голенае добрадушна-сур'ёзнае абліччa. Гэта выклікае нейкую апрыорную спагаднасьць да яго. Калі я першы раз пабачыў яго ў судзе, я ў думках падкрэсьліў тэзіс: чалавек з такімі прыроднымі перавагамі ня можа быць несправядлівым.

У той-жа час, як бліжэй пазнаёміўся я з ім, судзьдзя—вясёлы чалавек, пракуда, філёзоф, які заўсёды здольны выкінуць фортэль, зрабіць дзівацтва, кінуць на агульнае карыстаньне моцнае слова, зачапіць за жывое, дацца ў знакі жанчынам, якіх ён заве „баядэркамі“, закруціць якой-небудзь з іх галаву і потым „накрыцца хвастом“. Адным словам, нявытрыманы індывід.

Адзіноцтва ён не пераносіць, як хваробы якой, і свой вольны час, якога вельмі мала, праводзіць сярод двохногіх стварэньняў, галоўным чынам „баядэрак“. Ні сям'і, ні маёмасьці ён ніколі ня меў.

Ідучы на маёўку, я пазнаёміўся таксама з маскоўцамі—Курыцай і Курапатай. Яны вельмі ганарова ішлі ў ар'ергардзе і вялі гучную незразумела-навуковую размову. Багародзіцы з імі ня было. У Курыцы

было ўмеркавана выдатнае пуза, пульхлыя зашчочыны, што наступалі на вочы, чорныя, як зьмейкі, бровы і вялікія рагавыя акуляры. Курапата быў высокі, шкілетны чалавек, з безнадзейна выцягнутым мэханізаваным абліччам. Калі нас знаёмілі, першы назваў сябе Курыца, з націскам на ы.

Месца маёўкі—глухі, прыгожы лес каля рэчкі. Там шмат курганаў, на якіх растуць магутныя дубы, бярозы і дрыготныя асіны. Лес на ўзвышшы, а ў даліне рэчка. Над рэчкай хмызьняк, у ім у пераважнай большасьці расьце калакалуша-чарэмха.

У гэты час чарэмха ў поўным росквіце, і пах яе, калі прышлі мы, вельмі прыемна казытаў пэрыфэрычныя нэрвы насавога апарату.

Бясспрэчна, шпацыроўка выклікала ў нашым організьме бурнае разьвіцьцё апэтыту. Вочы ўсіх аўтоматычна накіраваліся на клункі з ежай. Агульнае жаданьне напоўніць сябе матэрыяй выказаў страхагэнт.

— Што ж?—сказаў ён, вызваляючыся ад прыгнечаньня вялікіх пакункаў,—мне здаецца, самае лепшае, што можам мы зрабіць—гэта прыступіць да зьнішчэньня прынесенай матэрыі і пітва!

— І прыступіць зараз-жа!—адклікнуўся я. Без валакіты і бюрократычных скрыўленьняў.

— Матэрыю нельга зьнішчыць!—паправіў Торба.

— Давай, цябе зьнішчу, і сьлядоў ня будзе!

— Сьляды, браце, будуць! 8 год атрымаеш!

Жанчыны разаслалі вялікія белыя посьцілкі і ў адно імгненьне вока маляўніча экспонавалі ўсю матэрыю. Толькі хлеб і булкі ня былі нарэзаны. Гэту працу даручылі Сьмятане і Торбе. Рэжучы здобныя, запаленыя булкі, Торба невядома з якой прычыны сказаў:

— Жыта ўсіх корміць, а пшаніца па выбару!

— Што з гэтага?—запытаўся страхагэнт.

— Нічога! Маўчы ды слухай, што людзі гавораць!..

Нават не чакаючы, калі ўсё будзе падрыхтавана, мы з імпэтам навaліліся на прадукцыю. Торба даў неабходныя комэнтарыі да гэтай нястрыманасьці:

— Такія галадамірныя ўсе, што сабаку шалёнага і таго, здаецца, зьелі б!

— Пытаньне счэрпана, дэбаты павінны быць скончаны, ня дуры мае галавы!—працуючы зубамі нібы жорнамі, прагудзеў страхагэнт.

— Маўчы і еж, пакуль не запяеш!—адказаў яму Торба, скрыльком вянгліны ляпнуўшы агэнта па твару.

Мужчыны шмат пілі гарэлкі і моцнай густой, як сурол цягучай, настойкі, замацаванай гарэлкай. Дзьве-тры шклянкі апошняй дзіўны настрой выклікалі ў мяне. У сваіх мускулах я заўважыў нейкую тэхнічную адсталасьць: зьявілася нястрыманае жаданьне прыхіліцца да пляча Крэйны, захацелася, як жывёліна, глядзець у яе бяздонныя вочы, узяць яе мікроскопныя рукі ў свае і гладзіць дзяўчыну, як курачку-натапурачку; хацелася сьпяваць ёй гымны, упрыгожыць яе чало ружамі,

ускінуць ёй на плечы шаўковыя тканіны і замацаваць уладу над ёю моцнымі пякучымі пацалункамі. Бачачы мае электрыфікаваныя вочы, Крэйна адхілялася ў бок і частавала мяне:

— Ежце, ежце, а то нічога ня будзе!

А Торба адразу зьвярнуў увагу на маё захапленьне Крэйнай. Між намі ён прасунуў нечакана сваю кэнтаўраву руку і напалохаў нас.

— Не, не!—сказаў ён,—усё роўна нічога з гэтага ня будзе! Дабіцца, брат, ад яе чаго-небудзь—справа доўгая, як макарон!

Крэйна хацела відэльцамі калянуць яго пад бок, але Торба своечасова ўхіліўся ад гэтай кары. Ён падсеў да Зоі і пачаў частаваць яе, трымаючы за стан. Дзяўчына перапалохалася праяў гігантызму і пераскочыла на другі фронт. Торба сказаў:

— Казінае племя—дзеўкі! Нуль увагі і тры кілё пагарды!

Да мяне, як да начальства, з другога боку прысела настаўніца Кругарожка і пачала захапляцца сёньняшнім сонечным днём, лесам, пахам чарэмхі, курганамі, блакітнымі кветкамі, мятлушкамі і іншымі сараканожкамі.

Праўда, вельмі добра было ў гэтым лесе. Цьвіў сон, яго сінія балабоны калыхаліся ад лёгкага ветрыка на вялікай прасторы. Кругарожка нарвала пук кветак і дала іх мне.

Торба сказаў:

— Кіньце гаварыць аб мятлушках ды кветках! Вам гэта не да твару. У вас гэта штучна, суха! Прыгожа могуць гаварыць толькі няпрыгожыя жанчыны...

— Усімі задрыпаныя ідэі!—сказаў я, а страхагэнт дадаў:

— Яго іншы раз мутарна слухаць. Трэпле, як лапатай пустой!

— Правільна! Правільна!—засьмяяўся Торба, і смех яго быў, як выбухі пяруна.—Рэж праўду-матку, покуль не зарэжаш, халеру! Але-ж усё такі ты сурагат, не чалавек!

Людзі ўсе ўжо троху падмацаваліся і пачалі парамі ці групамі зьнікаць у гушчарах лесу. На месцы засталіся тыя, якім ляна была скрануцца з месца ад пералітага ў сябе пітва. Гыля і Юрлік расклалі шахматы: надзвычайна заўзята вялі змаганьне. Жанчыны доўга з агідай глядзелі на іх спаборніцтва, потым нечакана, моўчкі прышоўшы да згоды, раптам навалілiся на „шахі“ і перамяшалі ўсё. Ваякі, як азьвярэлыя, кінуліся на жанчын. Узьняўся такі вархал, што ніякіх каштоўных прапаноў ужо ніхто ня слухаў. Віно бушавала.

Крэйна супакоіла ўсіх. Яна ўнесла прапанову рыхтаваць гарбату.

— Добра! Добра!—суцішаючы ўсіх, гаварыў Торба,—гарбата—добрае зельле: і вантроба поўна і розум цэлы!

А я запрасіў Крэйну праветрыцца па лесе. Яна, троху падумаўшы, дала мне руку, і мы адышлі. Торба крыкнуў:

— Трымай, брат, калі спаймаў!

Мы селі на курган недалёка ад усіх. Я моўчкі любаваўся Крэйнай. Ёсьць абліччы прыгожыя, як гэтыя сінія кветкі—сон. На іх хочацца нясупынна глядзець і пакутваць непераможнымі жаданьнямі.

Гледзячы на Крэйну, я сьмяяўся шчасьлівым жарабяччым сьмехам. Яна зьдзіўлена пашырыла свае вочы і чакала, што з гэтага далей будзе. Тады я набраўся моцы і сказаў:

— Крэйна, Крэйначка! Будзем з табой на ты? Добра?... Далей слухай, што я скажу. Закахаўся ў цябе я—праўду кажу. Ты павінна зьвярнуць на маё захапленьне максымум увагі. У маім каляндарным пляне на сёньняшні дзень вызначана два бязьвінных пацалункі ад цябе. Гэтага я павінен дамагацца ад цябе, чаго-б мне гэта ні каштавала!

І сказаўшы гэта ня доўга думаючы, я прыцмактаўся да чырвоных Крэйніных губ і запальна піў агністую кроў дзявоцтва!

Прыйшоўшы ў сябе ад неспадзяванасьці, Крэйна адштурхнула мяне і так моцна, што ледзьве не загурчэў далоў з кургана. Тон у тон мне Крэйна сказала:

— Не цалуй мяне, ты прыцягваеш увагу шырокіх мас!

Я зноў шчыльна прыхіліўся да яе, абхапіў яе калены рукамі і, гледзячы ў вочы ёй, задаў пытаньне:

— У які тэрмін ты, Крэйна, выканаеш маю запальную просьбу аб адзнаках тваёй прыхільнасьці і захапленьня?

Крэйна страціла прытомнасьць ад сьмеху, потым схапіла мяне за рукаў і штурхнула далоў. Я ляцеў з гары, як бульба, і сьпелесаваў сабе нос. Калі я ўзьняўся ад зямлі, Крэйны каля мяне ня было.

Я зноў пашоў да купы. Там разгарэліся спрэчкі між настаўнікам Мамонам і маскоўцамі. Спрачаліся аб нейкім мандызьме. Ніхто нічога не разумеў, але з уздымам спрачаліся. Я таксама выказаўся супроць Курыцы і Курапаты. Мая лінія была вельмі выразная. Я заўсёды спрачаюся толькі тады, калі чаго-небудзь не разумею. А таму я сказаў:

— Усе гэтыя ідэі нам непатрэбны. Усё гэта—атрута капіталістычнай прадажніцкай прэсы!

Мяне падтрымаў Бурчайла:

— Я чытаю толькі кніжкі, на якіх ёсьць лёзунг „Пролетарыі, злучайцеся!“ А старыя кнігі нават брыдка чытаць!

Торба, памахаўшы галавой, сказаў яму:

— Гора ты чубатае!

Мяне гвалтоўна цягнула да Крэйны. Дзе мне адшукаць яе, каб разам не сьпяшаючы брысьці да дому, мякка прытуліўшыся да яе пяшчотна-цёплага пляча?

Ужо цямнела. Зоркі ціхія, няясныя саромліва запальваліся ў небе. Засынаючы, зязюля нейдзе блізка пракукала 5 разоў, салавей зацьвірчэў у чарэмхавых хмызьнякох.

Я плюс яна!!! Вось формула маёй далейшай чыннасьці—дынамічна мысьліў я.

Неабходна хутчэй дайсьці да фініша, неабходна мець пэўныя, конкрэтныя вынікі. Сёньня мая атака дала адмоўныя вынікі, у далейшым неабходна вырАўняць лінію. Неабходна падыйсьці да дзяўчыны ціха, мякка, як зьвер, як тая перапялёсая тыгра, што неспадзявана ловіць сваю ахвяру і накіроўвае яе ў сваю зяпу! У гэты вечар, ці ноч, як будзем мы ісьці да дому, я зраблю ёй даклад аб сваім гэрэсным адзіноцтве. У думках я вызначыў асноўныя тэзісы дакладу і намеціў рэзолюцыю, прыняцьця якой я буду дамагацца ад Крэйны.

Думаючы пра гэта, я нейкім нюхам ішоў па яе сьлядох. Я прайшоў лесам над рэчкай і вышаў на старое гарадзішча. Тут я ледзьве ня страціў прытомнасьці. Крэйна стаяла каля старой сасны, а з ёю быў Лін, Лін! Якім чынам ён прыплыў сюды, калі яго з намі ня было?

Гэта одыёзная рыба ўзбунтавала ўсю кроў маю, сарвала мой плян. Я пакляўся ўжыць усе мэтады, каб Лін сышоў з майго шляху. Я падышоў да пары і штучна супакойна запытаў:

— А! і таварыш Вокунь тут? Здаецца, Вас ня было з намі? Але лепш позна, чымся ніколі! Праўда, т. Вокунь?

Нельга апісаць тое абурэньне, якое абхапіла Ліна, калі я наўмысьня перахрысьціў яго. Ён, крыху адышоўшы ад Крэйны, шчыльна прыступіў да мяне і, глядзячы чырвонымі ад злабы вачмі, зашыпеў на мяне, як вуж:

— Што Вам патрэбна ад мяне? Я Вас ня ведаю і ведаць не хачу.

Плюнуўшы, ён адвярнуўся, схапіў Крэйну за рукі і шпаркімі крокамі пашоў з ёю ў другі бок.

Я застаўся бяз „лініі“. Я доўга сядзеў на гэтым заклятым гарадзішчы, доўга да крыві кусаў свае пазногці і невясёла думаў, што я папаўся ў кіпцюры красуні-авантурніцы.

(Канец будзе)

**Максім Лужанін**

# Случчына

*(Зіма і лета 1928 году)*

## Абстрактныя разважаньні аб вельмі конкрэтных рэчах

Я павінен сказаць вам, што цяпер добрых папярос няма, і мы курылі махорку. Да таго-ж поэтыцкіх традыцый у нас вельмі мала. Пяць выпадкаў рыцарскага каханьня, сэрэнады, альбы і ўсякія другія канцоны спрасьціліся да прыпевак і стрэч на аԁін вечар. Адкуль узяліся словы лаянкі ды прывычка піць гарэлку з вечара да раніцы і наадварот,—ня ведаю. Папытайцеся ў старэйшых.

Я вельмі люблю поэзію і найбольшае здавальненьне атрымліваю тады, калі нічога ня чытаю. Некія бясплотныя духі ў гальштуках і з прапітымі тварамі пяюць аб скураных куртках і ботах, пад якімі адчуваюцца манекены. Ня гледзячы на жаданьне—пакз дрэнны.

Што-ж ты зробіш з поэтамі! Індывідуалісты! Сыплюць цераз плот у гарод. А калі другому чытачу гады не дазваляюць прарабляць гэтакіх сальтомортале. Або ў каго спадніца вузкая!

Ну, таго вось і нудна! Ад таго вось і выбіраюся я штогод хоць на некалькі ԁён павандраваць па Случчыне.

Гаварыць пра гэта можна многа, але... (дазвольце пачухаць патыліцу!), але... страшнавата.

Вельмі проста, можна напрыкрыць чытачу. Другая справа пагаварыць пра гэта па-сяброўску. Можна пісаць мне ў Случчыну, а яшчэ лепш прыехаць туды. Там-жа ўсякі сабака, з хвастом і без „онага“ (гэта ня значыць, што я „оный“ адкруціў), пакажа хату, ԁе я жыву. Калі-ж вас мае крытыкі будуць упэўняць у адваротным, прыглеԁьцеся добра, як у іх саміх справа з „онымі“.

Прыяжджайце ў Случчыну, пагаворым у волю. Вы пасьпееце ў часе, бо цяпер якраз я ў Менску.

Але карміць я вас ня зьбіраюся, і, калі вы самі не аскэт і пасьціць ня думаеце, набірайце ў торбу свайго хлеба і сала, бо да рэчы й жонка мая кабета ня зусім прыветлівая і часта гатова замест слоў прывітаць і мяне й вас, каб нікому крыўды ня было, адмысловым вожагам.

А пакуль што-буду пісаць, бо, пішучы аб падарожжы, можна ўпісаць тое, што было, і тое, чаго ня было, і я ўручаю ўласнымі (вушамі, думаеце?) абцасамі, што вы не адрозьніце праўды ад сырцу. Гэта, так сказаць, абарона ад крытыкаў. Не разьбярэ чалавек ні

вераб'я, значыць і лаяць няма як, хоць, праўда, ёсьць аматары палаяць і ня чытаўшы. Проста хоць ты пра іх у „навіны навукі і тэхнікі" артыкулец ціскані.

Але поруч з добрым заўжды ходзіць благое. Падарожжы маюць адваротны бок. Глупствы розныя здараюцца. І як на ліха пры кожным з іх мне ўспамінаюцца знаёмыя. Выцяўся гэта я аб цьвік у вагоне і на табе!—здаецца цьвік ня цьвік, а даўганогі артыст з другога тэатру. Або стаў, напрыклад, гадзіньнік на менскім вогзале і шкло на ім такое выгнутае, бліскучае. Ну, і што-б тут такога? А мне вось здаецца, што гадзіньнік гэта й не гадзіньнік, шкло гэта й ня шкло, а звычайная лысіна. І лысіна знаёмая ня толькі мне, але й вам. Мне хочацца сказаць больш, але ходзяць чуткі, што гэтая лысіна таксама нядаўна вярнулася з падарожжа і ў сваіх уражаньнях, насьлядуючы, бязумоўна, мне, можа ўбачыць у якім хвойніку падабенства з маёю „вяснавольнаю чупрынаю", як гавораць поэты, і спрабуе скубці з яе валасы.

Ах, каб ня гэта! Не магу. Сяду спакойна.

## 2. Романы з пухлінаю і першы крок у падарожжы

Пішучы аб гэтакіх рэчах, мае ўражаньні гатовы ўпасьці ў пухліну, як той роман, што ўсе пачынаюць чытаць і ніхто ня можа скончыць. Таму і кропка. (Дарагія наборшчыкі, пастаўце там вялікую кропку!). Яно трохі й не таму, але выбачайце, а разам з тым выбачайце, што не сказаў, як адзін малады, а значыць і досыць задзёрысты, пісьменьнік, зьбіраецца пісаць конспэкт вышэйзгаданага роману, з мэтай популярызацыі і набліжэньня да мас, а таксама ў дапамогу студэнцтву і настаўніцтву.

Тыраж забясьпечаны. Магчыма, што мае ўражаньні будуць кульгаць. Тут, напрыклад, ня будзе гэтакага ліку цягнікоў, як на бэрлінскім вагзале, каб пра гэта пасьля можна было зрабіць адмысловы даклад, бо да Слуцку ходзіць адзін цягнік, ды той ад Асіпавіч хоць і стараецца, але паўзе, як п'яны на карачках. Ён ідзе яшчэ павальней за трамвай у Віцебску, у якім пад горку бяруць даражэй на цэлых дзьве капейкі

Але з свайго боку тут будуць і такія рэчы і такія словы, „моцныя ды шчырыя, што аж пах ідзе".

Як і прынята, праводзіць мяне ніхто ня прышоў, а сам я, як і водзіцца, прыехаў за дзьве хвіліны да адыходу цягніка. Пад акомпанімэнт нечыяга сабакі, катораму я наступіў на лапу, ўціснуўся ў вагон І не пасьпеў нічога падумаць, як цягнік крануўся.

Тады мусіць і зьявіліся мае праважатыя, а я з лёгкім сэрцам і цяжкою галавою ўмайстроўваўся легчы на паліцы, як чалавек, каторы дваццаць хвілін перад гэтым страчаў новы год і стрэў яго, як і паводзіцца ўва ўсіх чэсных людзей.

Кажуць, што, як павядецца ў навогоднюю ноч, так і пройдзе цэлы год. Таму мае бацькі заўсёды елі раніцаю пад лучнікам кілбасу раней за ўсіх людзей, каб цэлы год мець гэтакі дастатак. Нельга сказаць, што я дужа ўсьцешан быў-бы, каб прыгоды гэтай начы працягнуліся на ўвесь год. Па-першае, калі я выспаўся, дык пачуў, што галава ў мяне няйначай як пазычоная, ды не абы ў каго, а ў самага горкага п'яніцы, а з гэтай прычыны важыць ня менш дзесяці хунтаў. Тое самае было й з нагамі, каторыя адмовілі ў паслухмянасьці і хацелі канечне абуцца навыварот, чамусьці правай назе нязвычайна ўпадабаўся чаравік з левае. Наогул кажучы, усе часьціны майго цела галасавалі, як на добра арганізаваных перавыбарах, аднагалосна за кандыдатуру бутэлькі „нарзану". Паколькі цягнік стаяў, гэта можна было лёгка выканаць. І вось, калі праўда тое, у што так упарта верыць мая маці, дык я цэлы год буду з балючаю галавою езьдзіць у Асіпавічы піць „нарзан", а гэта ўсё-ж такі не асабліва прыемна.

Па-другое, мне было мулка спаць, і таму сьнілася розная дрэнь. Праўда, нікога з пісьменьнікаў я ня сьніў, але за тое ўвесь час лезьлі ў вочы капялюшы, акуляры і розныя другія пролетарскія акалічнасьці. Няхай-бы ўжо сьніліся іхныя ўласьнікі! А то спрабуй дамалюй да якіх-колечы акуляраў іхнага ўласьніка, не дадаўшы і не змахляваўшы на корх, як ён ёсьць, па сумленьню! Не нарадзіўся 'шчэ гэтакі мастак! Ды ўрэшце, навошта траціць энэргію на аднаўленьне любага твару, калі яго можна вылупіць з каляндара, а мне пэрсанальна і гэтага рабіць ня трэба—„любы вобраз заўжды са мною"!

## 3, Аб цягнікох і студэнтах

Лепей сказаць усё пазьней крыху, чымся раней часу. На іншы выпадак успамінаюцца слаўныя словы Гэнрыха Гайнэ: „усякая чэсная жанчына павінна радзіць свайго дзіцёнка па сходзе дзевяці месяцаў". Гэта дапасуецца да пісьменьнікаў. Бо скажэце на ласку, якая паступовасьць будзе ў маіх уражаньнях, калі, нічога не сказаўшы аб студэнтах, якія ехалі на вакацыі, буду казаць я аб тым, што ў якасьці госьця я ляжу на бацькавай печы і загадваю падаць умыцца на печ...

Ды я ня маю перад вачыма ўзораў дынамічнае творчасьці ў беларускай літаратуры. Гэта да некаторай ступені апраўдвае мяне і мае ўражаньні. У нас пішуць звычайна так, як быццам мачалку ў сьне жуюць.

Цяпер аб студэнтах. Але ў сілу тае-ж паступовасьці, я вымушан перад моваю аб студэнтах сказаць некалькі слоў аб цягніку, у каторым мы ехалі. Справа ў тым, што ён, каб паказацца маладым і пролетарскім, увесь час пішчэў тонкім голасам:

— Іду-у-у-у!

і прымушаў калёсы суладваць свой перастук у гэтакую мову:

— Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

Гэта й навяло мяне на думку аб тым, што ён (цягнік) русіфікатар і контррэволюцыянер і павінен быць па свайму соцыяльнаму пахаваньню вычышчан з колектыву цягнікоў. Мала што можа хавацца пад чырвонаю вопраткаю! Справа ў тым, што гаварыў ён такім голасам таму, што ў цягніку ехалі пролетарскія студэнты. Зусім іншая мова была ў яго, калі ён вёз мяне аднойчы ў суботу, сярод ціхіх слуцкіх комэрсантаў. Гэтыя комэрсанты ехалі седзячы на бутэльках з вадою — баяліся саграшыць. Тады ён гаварыў:

— Было-о-о-о!

і загадваў калёсам паўтараць:

— сумна нам! сумна нам! што яны й выконвалі з усёю шчырасьцю свайго калёснага сумленьня.

Дык вось я і ўздумаўся, што, напэўна, падыходзячы ў асобныя гадзіны да Царскаго Сяла, гэты цягнік крычаў грамовым голасам:

— Сьмірна-а-а!

— Боже, царя храни!

Дагадка падцьвердзілася. Калі я вышаў на пэрон, дык адразу выявіў, што гэта постаць „бывшего“. Вельмі-ж няпрыемны быў яму вугаль нашага Донбасу, а мо' пад час і смольны каржак слуцкае хвоі, што душыўся ён сам чорным пылам і аж сіпеў ад удушша.

Ды яшчэ вельмі злосна касурыўся ён на беларускія надпісы на станцыях, асабліва на адно кароткае слова „прыборня“, за якім стаялі яшчэ тры кароткіх словы на іншых мовах, якіх я па свайму няўмельству не расчытаў.

І мусіць таму поўз яшчэ павальней, чым загадвала яго нясьпешнае чыгуначнае начальства. А з качагаркі дыхала такім прыемным пахам, які сьведчыў аб тым, што ў машыністага ўзьнята тэмпэратура ня менш як на сорак градусаў. Сапраўдныя-ж савецкія паравозы такія жвавыя, заклапочаныя, у скураных куртках, а за пролетарскасьць іх сьведчыць тое, што вымазаны яны сажаю з самых пят і да твару. У гэтага-ж рукі белыя і пешчаныя, як вушкі ў сьвятошнага парасяці.

Наш савецкі паравоз—заклапочаны актывіст.

— Таварыш! Няма калі!

Гукне і пабяжыць, а падыходзячы да станцыі, аказваецца:

-- Спешу!

бо гаварыць чыста па-беларуску лічыць для сябе не абавязковым.

Ён яшчэ мае адну здольнасьць—псавацца. Малады, гарачы! Але пастаіць гадзінку другую на станцыі, пакуль яму накруцяць гайкі па профсаюзнай лініі, ды пойдзе. А гэты наш, нават ні разу не сапсаваўся.

І цяжка ўздыхаў ён.

А цяпер лёгічны пераход ад цягніка да студэнтаў.

Іх было шмат. Нават бяз Сяргея Дарожнага, які з Асіпавіч перасеў на валы, каб хутчэй пабачыць свае мазырскія палясьціны.

Тут былі студэнты й з БДзУ і з усіх тэхнікумаў Беларусі.

Але я ня зьбіраюся гаварыць пра Менскі Белпэдтэхнікум. Я хочу расказаць пра другі тэхнікум. І вось нанёс чорт ліха дырэктару таго тэхнікуму. (Гэта пішу не ад сябе, гэта мне ў дарозе расказалі).

І сапраўды! Куды гэта варт? Толькі-б жыць здаецца і радавацца—дык на табе! Рамонт зроблен. Штат выкладчыкаў ціхі. Як трэба якую пастанову правесьці, падымуць рукі ўсе, не папытаюцца нават, што й нашто. На слова, так сказаць! нераўнуючы, як той чалавек порткі „на чэснае слова“ без папружкі насіў. А яны ўзялі ды ўпалі. Я ня хочу гэта дапасаваць да тэхнікуму, аб якім ідзе мова. Там звычайна порткі надзяюцца на галаву, так што небясьпекі не адчуваецца.

Падвялі такі!

Што вы думаеце? Пачалі раджаць сыноў. Вучыцца, вучыцца як добрая, а пасьля глядзіш—сын!

Пачалося з леташняга году. Прывяла дзяўчына дзіця. Рахманы хлапчук удаўся. Нават займацца не перашкаджаў. Крычыць бывала на ўвесь пакой, а дзяўчаты пішуць сабе канспэкты. Перавялі яе ў ахвіцынку. А там, глядзіш, скончыла і сына з сабою павязла.

А сёлета—цэлая хваля! Пачалі замуж выходзіць. Стыхійна можна сказаць.

А ня так даўно (гэта мне ўсё разказваюць) адна ўмудрылася ды прывяла сына без усялякага намёку на бацьку.

Чый сын?

Дзяржаўны. Агульна-тэхнікумаўскі. А дырэктару клопат. Дай гэтай месца, а там яшчэ адна рыхтуецца.

Трэба новае памяшканьне адчыняць, а ў бюджэце такая графа не прадугледжана.

А што як. Ай-яй-яй! Прыдзе якая-небудзь урачыстасьць, усе людзі на дэманстрацыю, а дзяўчаты да дырэктара ў габінэт—нясуць дасягненьні будаўніцтва ў пялюшках. Або ідуць людзі на дэманстрацыю супроць фашызму—і тэхнікум не апошні. Нясуць уверчаны протэст — вось, калі ласка, протэстую—змагара нарадзіла.

І калі будуць гэтак на кожную падзею адгукацца—прыйдзецца пры тэхнікуме ясьлі адчыніць. Пасьля сямігодку. Будзе свая зьмена гадавацца. Бацька на апошні курс тэхнікуму, а сын у дзіцячы сад. Разам ідуць, а дзевятай гадзіне, і маці ім у адну паперку бутэрброды з сырам увертае.

Па мойму, няхай гадуюцца. Мо' выдатныя людзі будуць. Адно блага, што з вёскі папаўненьне слаба. Сямейны, так сказаць, тэхнікум будзе.

Але за тое цішыня. Ні табе ўхілу, ні вывіху! З малку належнае выхаваньне атрымліваць будуць—выключаць нікога ня трэ' будзе.

Я ня тое, каб вынікі рабіць. Якія іх зробіш? Ды асабліва ў падарожных уражаньнях.

Я толькі, што—дырэктару клопат. Наогул тэхнікум установа добрая. Нават кажуць на 100 проц. дэрусіфікаваная, а гэтага ня ўсякі й на паперы дапне.

Добрая установа...

Жыве сабе паціху, працуе.

Значыцца, студэнты ехалі... Ім-бы, вядома, ня шкодзіла прытрымліваць языкі і не распаўсюдвацца пра свае установы, а то возьме хто ды выдрукуе. Мітусьня пойдзе. Добра, што я вось да друку, нават і да Сымона Друка, датычэньня ня маю, а то сам-бы надрукаваў.

Кажуць, што слова „удручать“ мае вытокі ад выпадку, калі чалавека „прымаюць у дручкі“. Хто яго ведае!

Але гэта так-жа мала датычыцца студэнтаў Б. П. Т., як і студэнтаў Б. Д. У. А Б. Д. У. можна сказаць . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . перафарбаваныя профэсары . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
выпадкі . . ага шовінізму . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . душна.

Наогул, давайце пакурым.

## 4. На тры капейкі лірыкі

Стогнуць рэйкі пад напорнаю хадою цягніка.

Белае бязьмежнае прывольле. Праз вакно відаць, як паволі цярушыцца сьнег вялікімі вохлапкамі.

І з радасьцю—боязь. Тым болей, што яна застаецца там, а месяц такі даўгі тэрмін, і ў яе такое прасторнае сэрца. Там калісьці зьмяшчаліся—я, вайсковы са шпалаю, два артысты і кілёграм рознай дробязі поэтаў і студэнтаў наогул. Мусіць таму мне бывала халаднавата ў апошні час, што застаўся ў гэтым сэрцы я адзін і меў досыць вялікую пляцоўку для спацыру.

Але мінулуся ўсё: пасьведчаньні, літары, скідка. Скідка па літарах некаторымі ўспрымалася крыху сьмешна. У каго 50 проц. скідкі, тыя праедуць да Асіпавіч, пасьля іх будуць скідаць.

Перад вачыма праходзіць Беларусь. Усё столькі разоў перагледжанае. І ўсё-ж такі некае новае.

Поле, лес, узгорак, балота...

Новая поэзія прынесла ім мэліорацыю і трактар.

Радасьць жыцьця. Невяліччкія шматочкі новага, яшчэ недаступныя воку, але дух волі распасьцёр крыльлі над краінай.

Ён сьвіціцца з дзявочых вачэй, ён гаворыць з вуснаў дзіцёнка, песенькай, у каторай малы яшчэ ня можа вымавіць усіх слоў.

Станцыі... Паўстанкі.

За вакном наступнее ноч.

Нас у купэ чацьвёра. Адзін вязе радыё-прыемнік.

Якая веліч у гэтым! Прыемнік у вёску, куплены на адлікі з капеечнай стыпэндыі!

Сьмяецца моладасьць.

У суседнім купэ—дзяўчаты Адзін за адным ідуць туды хлапцы. Застаюся адзін.

Часамі яны узьбіваюцца пад песьню. Больш жартуюць і крычаць

— Towarzyszu!

— Towarzyszy!

і ўрэшце:

— Кіньце таварыш!

І зноў сьмех.

Потым чуваць, як кагосьці б'юць жартуючы, з нібы-та злою моваю:

— Za wszystko! Za wszystkie krzywdy ludzkie! Macie!

Гэта дзяўчаты з польскага тэхнікуму.

Потым гаворка аб літаратуры...

і...

Сон...

А калі прахопішся—мігнуць вёскі перад Слуцкам. Будзе ўсходзіць сонца.

Селянін каля пераезду.

Беларусь!

Ах, гэтае слова! Яно заўсёды так узрушвае і блытае тэму.

Трэба канчаць, ато яшчэ гатоў верш напісаць...

У нашым вагоне ня зусім сонна. Сон з музыкай. З другога боку купэ плачуць дзеці. Злаваць на іх няма як—можа міліцыянэрамі будуць, а на гэтых звычайна ня злуюць. Адзін крыкса быў з выразнымі рысамі бузацёра ў поэтыцкім стылі..

— Расьці, мой харошы, вялікі! памірыўся я з горкаю доляю.

Пракрычаўшы гадзіны паўтары, ён заціх, даўшы месца новаму оратару. Адным словам—дармовы оркэстр аж да Слуцку.

Некрашчы... Школа сялянскай моладзі. Колішні маёнтак...

Далей, далей...

А-а-а! Вось і ён.

Слуцак!

## 5. Аб каровах на тротуарах і мушынай самакрытыцы

Галоўная асаблівасьць Слуцку ў тым, што жыхары гораду ходзяць па бруку, а іхныя каровы па тротуарах. Спачатку гэта мяне дзівіла, але ад хады па тротуарах адмовіўся й сам. Справа ў тым, што гэтыя тротуары ўкрыты своеасабліваю масьцікаю зялёнага колеру, каторая штогадзінна прыбывае з прыродных печак розных мілых жывёлін.

Ня ў прыклад іншым гарадом Беларусі ў Слуцку няма ніводнага поэта, поэта нават у такім сэнсе, як прывыклі ў нас ужываць гэтае слова, лічачы пісьменьнікамі некаторых нездар з жывёлінными прозьвішчамі.

Гэтая каштоўная адсутнасьць дазваляе рахманаму насельніцтву спаць спакойна, не клапоцячыся за цэласьць шыб у сваім доме і цноту сваіх дачок, з такімі тварамі, што ў самога мужнага чалавека не хапіла-б духу на вызваленьне іх ад пэўнай каштоўнасьці.

Але самі случчакі народ не пераборлівы. А горад і славіцца сваёй цнатлівасьцю пэўне таму, што інструктары райсаюзу па закупцы жывёлы не заўсёды правільна пішуць націскную галосную ў слове „цёлка", што наводзіць прадаўцоў на розныя думкі.

І калі вы чалавек сьвежы і ня маеце сярод мясцовых пляткарак жаднае сваячкі, майце на ўвазе, што вам не паздаровіцца. Па-першае, назаўтра вы дазнаецеся: хто вы такі, што дзе рабілі—з уласнай біографіі такога памеру, як адлегласьць ад Камароўкі да таварнага вагзалу. Па-другое, вы дазнаецеся, што ўчора вы выпілі ўсё піва ў сталоўцы і зьелі ўсе піражныя ў Саламяка, а ўначы з вашай кватэры вышла па чарзе дзесяць жанчын, ня ўлічваючы пяці тых, з катарымі вы прыехалі. І кожны дзень будзе настолькі аплецены чуткамі, што вам нічога не застанецца як толькі забраць свой худы чэмодан і пасьпяшыць з эвакуацыяй. Калі-ж вы выпадкова прашліся з дзяўчынаю ў гарадзкі сад імя Манахава, на пахаваньні якога адзін мясцовы красамоўца сказаў, што ў нас яшчэ будзе шмат гэтакіх манахаў, дык будзьце ўпэўнены, што гэтай дзяўчыне раскажуць, што ў вас ёсьць жонка і пяцёра дзяцей, а вам што з ёю вельмі блізка знаёма ўся вайсковая брыгада гораду.

Абеды ў сталоўцы добрыя, асабліва калі іх, пасаліўшы, выліваць на сабак, каторыя там лічаць сябе паўнамоцнымі і грызуцца на пацеху публікі пад кожным столікам. Яны трымаюць сябе вельмі разьвязна, і няма чаго дзівіцца, калі на вашых каленях апыніцца пяць сабачых морд з галоднымі вачыма і выразнаю тэндэнцыяй разьзяўленых зяп, з каторых на вашыя порткі цячэ багатая сьліна, даць другі кірунак кавалку мяса на вашым відэльцы. Калі-ж вам уздумаецца паварушыцца, ці пералічыць лыжкаю лабаціны гэтых слаўных сяброў чалавека, вам пагражае небясьпека ісьці па вуліцы з чорнымі шматкамі сукна, каторыя выразна нагадваць муць той добры час, калі вымелі порткі. Лепей заўгадзя адкупіцца і пачакаць, пакуль высахнуць пісагі ад сьліны, каб ня выклікаць сумненьняў наконт вашае ахайнасьці ў галіне абыходжаньня з гарнітурам.

У буфэце нельга нічога купіць, акрамя мух, якія не прадаюцца і служаць для праяўленьня самакрытыкі на плякатах і пазалеташніх булках, няўпрыклад самазахапленьню мясцовых служачых.

Аднак людзі мірацца і з булкамі і з абедамі.

Слуцак горад не бяз мінуўшчыны У канцы Іванаўскай вуліцы на сенажаці захаваліся валы (толькі ня тыя, што павезьлі С. Дарожнага, а земляныя)—гэта з даўняга часу. Быў яшчэ нейкі славуты мучанік, але пасьля рэволюцыі перамяніў профэсію. Думаю, што „лёгкая кавалерыя" хутка выведзе яго на чыстую ваду.

Найбольш старая ваколіца Слуцку–Трайчаны. Уся ў садох і чырвонаармейцах. З другога боку—Востраў, за ім штосьці накшталт аэрадрому.

Да цэнтру гораду і наогул да гандлёвага асяродку вядзе Выгода. Уласьне кажучы, мне больш падабаюцца ваколіцы. Там можна ў кожную хвіліну завесьці знаёмства, папрасіўшы, напрыклад, напіцца вады. Таксама там вельмі хутка вас могуць набіць, калі мясцовым кавалерам здасца, што вы пераходзіце межы ў сэнсе дасьлядованьня кветак, вышытых на хвартушках іхных дам сэрца.

Наогул, дзе цэнтр гораду, ўстанавіць цяжка. Ці на рынку, ці каля райвыканкому. Гавораць, што горад зусім бяз цэнтру.

З вышыні 200 мэтраў Слуцак мае выгляд зялёнае жабы, праўда, адтуль я яго ня бачыў.

Ласкавыя акупанты ўзялі ў горадзе ўсё, што можна было ўзяць, цяпер ён крыху ачуняў. На вуліцах зьявіліся дрэўцы, на пажарышчах новыя дамы.

Чырвоная армія гэроічна бараніла Слуцак. Босыя і галодныя сілаю энтузыязму перамаглі апраненых і ўзброеных. Цяпер сьмяюцца—кажуць што Слуцак чырвонаармейцы адстаялі таму, што стралялі францускімі патронамі з японскіх вінтовак. Патрон у рулю заганялі каменчыкам, а гільзу выбівалі цурачкаю. У сярэднім на кожнае паўгадзіны адзін стрэл. Справа ня ў стрэлах, а ў штыкавой атацы.

У кірсе—электростанцыя. Ёсьць нават лазьня.

На базары за залатоўку можна купіць мётку яршоў і поўныя кішэні яблык. Індустрыялізацыя гораду ідзе шпаркім тэмпам, а пятай гадзіне, як у дарослых, даецца гудок.

На гастролі прыяжджае штогод руская драма. „Жгучая“ брунэтка пяе арыі Тацьцяны ў Анегіне. Пра Анегіна можна сказаць—„дурак, песню испортил“. Слова драма—паходзіць ад слова „драць“. Дзяруцца „артысты“ надзвычайна.

Бываюць аплёдысмэнты.

Найбольш мне падабаецца кіно. У ім першыя месцы ад другіх адзелены перагародкаю ў вярблюдавы рост. Праз калітачку ў гэтай перагародцы праходзіць мясцовая інтэлігенцыя, есьць мятныя цукеркі і лушчыць сланечнік. Пасьля калітачка замыкаецца на замок. Каля замка ставяць міліцыянэра. Але калі толькі гасьне святло, кадры інтэлігенцыі пачынаюць папаўняцца. Пролетары пералазяць цераз верх. З гэтага боку кіно адыгрывае вялікую ролю.

Слаўны горад Слуцак. У ім я вучыўся цалавацца, там я хадзіў па пятах аднэй залатавалосай дзяўчынкі. Дарослая яна мяне расчаравала.

Я дарую яму ўсё: і забруджанасьць, і плёткі, і сабак. Як зачараваны ходзіш па завулках, глядзіш, як зацьвітаюць сады, як вылазяць бабулькі на сонейка. А ў вечар... мільгане белая сукня.

Чамусьці ночы там вельмі кароткія. За ўвесь час, калі здаралася быць там, я не заўважаў іх. Спаў у дзень. Але людзі гаварылі—дзе ты цэлую ноч валэндаўся? Хіба-ж я вінен, што там рана прачынаюцца вераб'і і жабы?

Наогул, Слуцку трэба болей дню, як іншым гарадом.

Купацца можна на колёніі.

А лепей за ўсё, даўшы траячку рамізьніку, паехаць дамоў ад дзяўчат з паркалёвымі імёнамі і скуранымі жартамі, ад пошты, дзе можна купіць марку пасьля апросу: адкуль прыехалі і куды, і дзе абавязкова вам паглядзяць у партмонэ—лепш за ўсё.

Я еду.

Едзьма са мною.

## 6. Вёска і шэсьць крокаў цішыні па дарозе

Ад сяла да сяла
жанцы да музыкі.
Куры яйкі прадалі
маюць чаравікі.
*Прыпеўка.*

Прагуркочуць калёсы па бруку, страсане апошні раз, і конь заклыгае ляною ступою па ўбітай пыльнай дарозе.

Не зважайце на пыл. Закруцецеся шчыльней у макінтош і ня высоўвайце галавы з будкі. Хіба што стрэнецца рэчка ці труская грэбля.

Мне не шанцуе прыяжджаць у Случчыну. Зімою звычайна вецер і мароз заправяць на цэлы месяц у хату перачытваць старыя часопісі, а ўлетку духата. Я даўно ўжо ня бачыў вясны—якава яна?

Звычайна бавае многа вады. Яна йдзе па старому рэчышчу недалёка нашае хаты. Падыходзіць да хлявоў. Каровы равуць, як захопленая публіка пасьля выступленьня сьпявачкі. Дзе тут есьці нудную сечку, калі дзесьці пахне вясноваю вільгацьцю поле, плюхае высыхаючы вада на сенажаці. Калі тады падысьці да хлява і не шануючы горла крыкнуць „выганяй“,—яны акажуцца дружнаю сымфоніяю—на ўсе галасы. Няўпрыклад музычнаму тэхнікуму, ня ў гнеў сказаць ім, гэта слаўны концэрт і... зразумелы.

Гэта ўсё, што я памятаю пра вясну.

Вясна—гэта звычайна самая душная пара. Гара кніжак, каторыя трэба прачытаць для адтрыманьня пэўнай годнасьці, засланяе заўжды веснавое абуджэньне. Камяніцы не зацьвітаюць, так шэра пройдзе ўся слаўнота і, калі выпадкам вырвешся за горад, жыта ўжо вышэй чалавека—налівае каласы.

Некалькі палявых кветак і збажыны надоўга аздабляюць пакой і здаецца пахнуць сухія. З гэтым хворым пахам прыходзяць цэлыя малюнкі.

І тады пішуцца гэтакія рэчы:

## Шэсьць крокаў цішыні

...І ў той вечар яна першы раз прышла да мяне.

Прышла як распусная жанчына, з нафарбаванымі вуснамі, з навальніцаю чорных распушчаных кос.

Бо не хацелася ні аб чым думаць, апрача кволае слаўноты рук шэравокае дзяўчыны, якая прышла да мяне, як разьвітальны пацалунак красавіка.

А яна прышла нечаканая, чужая і прыкрая—яна ўсемагутная цішыня! Мае вочы згубіліся ў неагляднай поўначы яе валасоў—гэта быў першы крок цішыні.

І плакалі зоры. І хіжа ўсьміхалася яна, а пасьля працягнула тонкія рукі свае і патанула, уздымаючыся на крылах змроку.

У душы маёй былі вялікія буры. Уздымалася яе халодная люстраная паверхня і застывала, адліваючыся ў новыя формы. І калі пасьля многіх дзён супакою на душы маёй пачыналі блішчаць цьмяныя адлюстроўкі холаду і знаёмаю госьцяю прыходзіла туга—хутка выбягала вострая нечаканасьць, каб разбурыць усё набытае мернай ступою хвілін.

Наплывала цяжкая пакута. Было вельмі многа сьлёз, таму я ня плакаў.

Вельмі адчайна прасіліся з вуснаў словы малітвы—таму я не маліўся.

А людзі шчыра і няшчыра шкадавалі мяне—таму не крануліся сэрца спачуваньні іх.

Аплятал' маю шыю гнуткімі рукамі, палілі вуснамі і безадказнаю гарачасьцю цела—таму я не кахаў іх.

І ніводнай і ніводнага цьвёрдых і нясхільных!

Толькі ў начы, перад тварам бледых зораў, кідаўся я на зямлю, кожны корх якое паліты крывёю маіх дзядоў і прадзедаў, і дзяліў з ёю сваё гора ў вялікай пакуце маўчаньня.

А пасьля кожнае трывогі гучэў крок цішыні. Яна хіжа сьмяялася, яна лёгка цалавала мяне і адыходзіла.

Так крок за крокам.

Любая! Зьлічы іх!

Цяпер ізноў вясна! Нядаўна са мною разьвітаўся красавік і, як разьвітальны пацалунак, вярнуў шэравокую дзяўчынку з белаю слаўнотою рук.

У новых фарбах устае сьвет. Я ніколі нічога ня бачыў, я быў мярцьвяк з гарачым сэрцам, сьляпы—з адчыненымі вачыма. І цяпер вуліцы ловяць мяне на падабенствах і нечаканасьцях.

— Любая! Гэты дом? Ён ня гэтак называўся раней?

— Ён называецца так з тэй пары, калі ты пакінуў кахаць мяне.

Пазаўчора наведалася цішыня. Яна сумавала.

— Ты мне здрадзіў! казала яна.

— Я не абяцаўся табе!

І калі змрок акрыў ;е сумную постаць, на руцэ маёй блішчэлі сьлязіны.

Гэта быў шосты крок цішыні.

Болей яна не вернецца.

Добры вечар, радасьць мая.

Я выходзу на стрэчу?

— Добры вечар!

---

— Ах, чаму я ня лірык!

Вясна, вясна! Як ты мяне захапляеш! Са стрэх цэлыя дні ліюцца струменчыкі вады, крычаць галодныя, задрыпаныя вераб'і, шэрыя, як перапёлы, людзі дзяруць мяцёлкамі брудныя тротуары. Колькі пачуцьця! Дазвольце ў каго-небудзь закахацца!

Але вясною так-жа цяжка закахацца, як знайсьці кватэру! Лепей ня шукаць!

І вось мы едзем у вёску. Па дарозе даём „дабрыдзень" жанцам.

— Ох, і харрашо-ж на селі!—успамінаецца Астап Вішня.

— О тут тобі вишня під вікном, поруч осика, а під оснкою жито, а за житом гарбузи, а за гарбузами картопля, а за картоплею—нужник.

Все вкупі, все росте, все буяе, і все шелестить і все пахне...

Бацька з маткаю маладзеюць кожны год—трэба даглядаць гаспадарку. Цяпер можна папалуднаваць, адпачыць пад капою мурагу ў садзе, а ў вечар... Слаўна п'ецца цёплае малоко ўвечары!

## 7. І гэтак далей..

Мяне маці навучала,
яшчэ гусі пасучы,
каб я добра пагуляла
яшчэ замуж ня йдучы.

*Прыпеўка.*

Дні на маё шчасьце ўдаюцца цёплыя, а ночы зорныя. Яны праходзяць у ціхім мораку спакою і ляноты. Цішыня. Пустэча. „Хоть три года скачи, ни до какого государства не доскачешь!"

У сьвірне асталёўваюся спаць.

Устаю тады, калі сонца абапрэцца на вятрак—па паўдні. Праходзу лугам, нюхаю траву і песьні. Поруч з купальскімі разухабістыя прымітывы.

Віднее цяперака ў дзьве гадзіны. Не аседзішся добра на прызьбе, як дзяўчыне пара йсьці.

Зьявіліся новыя скокі. „Месяц"—вельмі харошая мэлёдыя і танец. У ім заўжды адтоптваюць ногі і страшэнна штурхаюцца. Але тут усё добра.

У вёсцы выразна відаць новае. Нават як я памятаю, было інакш.

— Ну як ты жнеш?—гаворыць маці дачцэ.—Усе пальцы пазрэзвала! Дай я табе зраблю ілюстрацыю.

— У суседа на дварэ крычаць на кабылу:

— Т-рр! Кось, кось! Лэдзі! хадзі распутаю!

Відаць, што тут часта бываюць дакладчыкі з мудрымі слоўцамі.

Перад нядзеляю з раёну прыяжджае кіно. Тады школа бывае паўнюткая дзесяцікапеечнымі білетамі. Яны суправаджаюць карціну своеасаблівымі комэнтарыямі.

— Дурань, і выцяць ня ўмее!

— О, гэта Петраковых Настуля, толькі ногі ня чорныя!

— Не налазь кажу, ліха матары!

— Пускаюць сюды гэтых жэўжыкаў!

Сужэты карцін: дэмобілізаваны чырвонаармеец, самагон, кулак. Публіка здаволена.

Мэры Пікфорд не заўважаецца.

Бацька акуратна наведвае кіно і пастаноўкі. Пасьля многа курыць і плюецца.

Першы тыдзень. Другі.

Ціха.

Хіба што папытаюцца:

— Як ты жывеш там? не жаніўся яшчэ?

— Не, матулька... А хочаш, дзьве прывязу?

На гары стаіць хацінка—
Гэта цешчы мае.
Няхай яе пярун спаліць
і дачушку яе!

Гэта бацька успомніў прыпеўку. Потым пасварыцца на маці:

— Ты ўжо мяне падманула—ажаніўся! Нашто хлопца дражніш. А ты глядзі, не ашуквайся!

І ўсё.

Да рэчы: на хрэсьбінах майго бацькі гарэлку налівалі ў міскі, крышылі хлеб і сёрбалі лыжкамі.

## 8. Чаравік, чаравік...

Чаравік, чаравік,
на ножачку цесен.
Праз цябе я, сукін кот,
ня ведаю песень!

*Прыпеўка.*

Праз два тыдні я пачынаю адчуваць жыцьцё. Я пачынаю хадзіць босы, забывацца, што на сьвеце існуюць каўнерыкі і гальштукі і

тэрорызую насельніцтва трусікамі. Тады я самым сумленным чынам кашу траву ў садзе, адін пракос у дзень, ем вішні і, прызнацца, пачынаю нудзіцца.

Тады звычайна пішу верш, які пачынаецца так:

Цір-лю-лі-ля,
на вёсцы я.

і канчаецца:

Цір-лю-ля-лю
ў горад іду.

і які я абавязкова, калі напішу, зьмяшчу на гэтым месцы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Тады пачынаюць прыбываць лісты. Адны з іх пачынаюцца так:

— Родны мой! Ты й забыўся ўжо...

або:

— Не магу дачакацца тэй хвіліны, калі зноў...

або:

Мой пакой засумаваў без цябе...

Канчаюцца ўсе яны вядомым клішэ:

— Цалую...

або:

— але ўсё-ж такі—цалую.

Другія лісты больш сьціслыя і ляконычныя:

— Гад!

— Ірадава пара!

— І я табе верыла!

— Бывай.

Весела, дальбог? Як вы думаеце! Гэта ўсё Случчына!

Я пачынаю адпісваць. Пішу ўсім, хто мне ня піша

Пасьля за тры вярсты йду на прыпынак кальцавое пошты. Да рэчы: Случчына ад Мазыршчыны адрозьніваецца тым, што пошту ў нас возяць на конях, а там на валох. Хуткасьць аднолькавая. Лісты ад Слуцку ў Мазыр ідуць каля 12 дзён.

На прыпынку пошты сяду па некалькі гадзін. Пасьля даведваюся, што яна была яшчэ нацямку. Часамі прыходзіць пад вечар. Афіцыйна „пошта прывае аб 11 г.“.

Там-жа наслухваюся чутак аб таргох на сенажаці.

— Чаму ты, Цімох, так хутка ўчора ўчастак атрымаў? Мы ўжо пяты раз езьдзіма...

— Я! Я-ж загадчыку таргоў жонку ўкраў і прывёз. А то яшчэ-б хадзіў неакручаны.

Ключ ад паштовае скрынкі хаваецца ў сельсавеце. Усе лісты на імя рэдакцый і наогул цікавыя для старшыні прачытваюцца і па яго жаданьню могуць не зайсьці на месца адпраўленьня.

Кажу на ўсякі выпадак. Можа вам давядзецца адсылаць што праз нашую пошту.

Звычайна, я атрымліваю 50% пасланага.

Да гэтага часу, прыблізна, я пачынаю зьбягаць у Слуцак.

Праз дзён тры варочаюся дамоў пехатою.

Страчае маці.

— А-а-а! Мы ўжо думалі, жывога няма. Сабачая натура, сынок. Зьбегаўся, згаладаў. А нагі не перабілі? Ідзі, я добрых буракоў навярыла.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сёлета мае вакацыі былі перарваны досыць нечакана. Паехаў у Менск. Перарываюцца і ўражаньні.

Праўда, я там быў яшчэ раз. Гэта тады, калі мы з Глебкам, забраўшы па дарозе Паўлюка Труса, ішлі пехатою ў Менск і калі ў Капылі мне Глебка „зрабіў“ з аднаго два ножыкі. Тады яшчэ (ціха каб нічыя жонка не пачула!) мы хадзілі на хутар да дзяўчат...

Але аб гэтым другі раз!

Тады яшчэ аб нашым сельсавеце і раёне!

Будзьце ўпэўнены! Спаткаемся!

Студзень 28—люты 29 г.
Случчына—Менск.

А. Кашталянскі

# Шляхі выяўленчага мастацтва БССР

Трэцяя ўсебеларуская мастацкая выстаўка, дзе былі прадстаўлены ўсе нашыя мастацкія сілы, дала выразны малюнак сягоньняшняга стану выяўленчага мастацтва БССР.

Тым, што гэтая выстаўка адмовілася ад папярэдняй ацэнкі і адбору экспанатаў, даўшы магчымасьць прабрацца на выстаўку і „аматарскім“ элемэнтам,—яна яшчэ больш падкрэсьліла асноўныя тэндэнцыі ў структуры нашага мастацкага жыцьця.

Праўда, на гэтай выстаўцы ня было экспанатаў, зьвязаных з стылізацыяй узораў беларускіх саматужных вырабаў і старых беларускіх кнігадрукаў.

Але, паколькі згаданыя моманты стылізацыі займаюць вялікае месца ў сучасным мастацтве БССР і на папярэдніх усебеларускіх мастацкіх выстаўках былі шырака прадстаўлены, асабліва ў экспанатах Віцебскага мастацкага тэхнікуму, і паколькі патугі да стылізацыі яшчэ й цяпер ёсьць у шмат-якіх нашых мастакоў, мы ў сваім агляде будзем ля іх сунімацца, бо яны дужа характэрны для асьвятленьня крывое разьвіцьця нашага мастацтва.

## I.

Украінскі крытык мастацтва Врона, у сваім артыкуле пра навейшае украінскае мастацтва, зазначае, што калі ў іншых абсягах савецкай Украіне давялося орыентавацца на перадваенную норму, дык гэтага зусім нельга сказаць пра абсяг выяўленчага мастацтва, бо яно пачынаецца на Украіне адно пасьля Кастрычніка.

Але мы ўсё-ткі ведаем, што і перад рэволюцыяй на Украіне было некалькі мастацкіх навучальных устаноў (Кіеў, Одэса, Міргарад), навакол якіх гуртаваўся шэраг мастакоў, ведаем, што на Украіне перад рэволюцыяй штогоду наладжваліся выстаўкі расійскіх мастацкіх таварыстваў, а таксама і выстаўкі заходня-эўропейскага мастацтва, дзе былі прадстаўлены навейшыя францускія мастакі аж да пасьлядоўцаў Пікасо і Матыса (салён Іздэбскага, 1913 г.).

Гэтыя выстаўкі зрабілі, вядома, выяўны ўплыў на формаваньне мастацкага жыцьця Украіны перад рэволюцыяй.

Нарэшце, на Украіне яшчэ перад рэволюцыяй сформаваліся і шчыльна з ёй зьвязаліся такія выдатныя сучасныя майстры, як Мурашка і, пазьней, Грышчэнка, Экстэр і інш.

Што-ж сказаць пра Беларусь, дзе перад рэволюцыяй было ў абсягу выяўленства сапраўды пустое месца, дзе ня было ня толькі аніводнае

выстаўкі тагачаснага мастацтва, але нават аніводнага паасобнага мастака, які стаяў бы на ўзроўні сучасных яму дасягненьняў у мастацтве?

Некаторыя нашыя деячы мастацтва спрабуюць, пры гутарках пра мінуўшчыну беларускага мастацтва, называць іменьні Бялініцкага-Біруля, Багданавага-Бельскага і яшчэ некаторых мастакоў, што нарадзіліся на Беларусі. Але, апрача тато, што адзначаныя мастакі маюць дужа невялікую удельную вагу, яны зусім ня былі зьвязаны з Беларусьсю, як і ня былі зьвязаны з ёю такія выдатныя сучасныя майстры, якія таксама нарадзіліся ў Віцебску, але мастакамі вырасьлі ў Парыжы, як, прыкладам, Мешчанінаў, Цадкін і інш.[1]).

Перад рэволюцыяй мы ведаем у Менску пана-аматара Вайсэнгофа, што практыкаваўся ў пісаньні лавецкіх абразкоў, і Кругера ды Сьляпяна, пра якіх мы будем гаварыць далей, бо яны зьвязалі сябе з пасьлякастрычнікаўскім кругабегам выяўленства БССР. Быў яшчэ ў Менску мастак Альперовіч, дужа таленавіты, але ён не пасьпеў, з прычыны навакольнай абыякавасьці і раньняй сьмерці, разгарнуць свой талент.

У горадзе Віцебску мы, карыстаючыся з слоўніка Віцебскіх деячоў, складенага М. Касьпяровічам („Маладняк", 1927 г., № 6), можам назваць перад рэволюцыяй толькі пару мастакоў. Між іх—Ю. Клевера, што працаваў у Віцебску часова, ад 1900 да 1902 году. Але Клевер, як мастак, фігура нагэтулькі абмяжованая, што ягоны сьлед мог быць хутчэй толькі адмоўным.

З перадрэволюцыйным Віцебскам моцна зьвязаны толькі мастак Ю. М. Пэн, што напісаў яшчэ тады цэлы шэраг абразоў і этудаў—адлюстраваньняў быту перадрэволюцыйнага Віцебскага яўрэйства. Адылі і Пэн апошнімі гадамі перад рэволюцыяй, пад уплывам навакольнага мяшчанства, перайшоў да пісаньня „харошанькіх" галовак.

Апрача названых нялічных мастакоў, што мадзелі ў гарадох былога „Северо-западного края" і пісалі часам абразкі—аздобы буржуазных салёнаў, мы аніякае спадчыны ў абсягу выяўленчага мастацтва ня маем.

Без нацягваньня мы можам сказаць, што выяўленчае мастацтва Беларусі пачынае сваю гісторыю пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі.

## II

Значнае ажыўленьне, якое адбылося ўва ўсіх нашых рэспубліках з першымі-ж днямі рэволюцыі і зьвязанае з гэтым ажыўленьнем пера-групаваньне культурных сіл асабліва адбілася на Віцебску, дзе мы бачым гэтымі гадамі нязвычайна пышны росквіт выяўленчага мастацтва.

---

[1]) Выключэньне становіць адзін з выдатных сучасных эўропейскіх майстроў Марка Шагал, які, аформаваўшыся мастаком у Парыжы, зьвязаны, аднак, са сваім родным горадам Віцебскам, мотывы якога былі яму стымулямі для стварэньня палацён, дужа выразьлівых сваёй яўрэйскай нацыянальнай існасьцю.

У 1919 годе ў Віцебску організуюцца мастацка-тэхнічныя майстроўні, на чале якіх стаіць Марка Шагал, і ў якіх выкладаюць выдатнейшыя сучасныя мастакі, як Фальк, Дабужынскі, Малевіч, Пуні, Юдовін і інш.

Адначасна налаæваецца групавая мастацкая выстаўка і некалькі індывідуальных.

У сваіх, поўных энтузыязму, лістох з Віцебску („Искусство Коммуны", № 3, сьнежань 1918 г.), Марка Шагал піша: „У гэтай няшчаснай шпары з ледзь стотысячным жыхарствам, дзе калісьці мадзеў нейкі Юры Клевер і дажывае дробнае „перасоўніцтва", цяпер, у кастрычнікаўскія дні, размахваецца многасажнёвае рэволюцыйнае мастацтва".

Мы ўважаем за зусім няправільнае сьцьвярдэньне М. Шчакаціхіна („Праводнік" па сучасным беларускім мастацтве ў Белдзяржмузэі"), што „у цягу 1919-1921 г. Віцебск выпадкова на час зрабіўся прыпынкам для пэўнага ліку расійскіх мастакоў, якія часова ўнесьлі ў. яго ажыўленасьць мастацкага жыцьця, аж да „крайніх" левых плыняў малярства, а потым разьехаліся, не пакінуўшы там моцнага сьледу".

Праўда, Шагал цяпер жыве ў Парыжы, а Юдовін і Малевіч у Ленінградзе, аднак, народжаны ў Віцебску Юдовін і цяпер бярэ актыўны ўдзел ува ўсіх нашых выстаўках, а Шагал, у сваім апошнім лісьце, з прычыны Пэнавага юбілею, падкрэсьліў, што ён і цяпер блізкі да Віцебску, дзе ён радзіўся і ўзрос і дзе атрымаў аснову для ўсяе свае творчасьці.

Культурныя ўплывы „левых плыняў" толькі часова выпхнуты провінцыялізмам Воўкавых, Эндэ ды іншых, што, дарэчы і да ведама Шчакаціхіна, бязумоўныя расійцы...

Значнае ажыўленьне на фронце выяўленчых мастацтваў мы бачым з першымі-ж днямі рэволюцыі і ў Менску. Гэтыя гады адзначаюцца тут выстаўкаю, дзе бяруць удзел, аднак, мастакі, што вырасьлі ў перадрэволюцыйным кругабезе, і толькі нязначная частка мастацкае моладзі. На гэты-ж час прыпадае і экспэдыцыя мастакоў у вёскі і мястэчкі БССР для зьбіраньня мастацкага і этнографічнага матар'ялу.

Надыход окупацыі, што перапыніў на некаторы час культурнае будаўніцтва БССР, затрымоўвае і разьвіцьцё ў ёй выяўленчага мастацтва.

Першыя гады пасьля окупацыі характарызуюцца ў абсягу выяўленства намнажэньнем мастацкіх сіл і самавызначэньнем паасобных мастакоў. На гэты-ж час прыпадае організацыя пры Інбелкульце сэкцыі вывучэньня беларускага выяўленчага мастацтва, навокал якое гуртуецца і частка мастакоў.

Насьпелыя патрэбы ў ажыўленьні гэтага фронту мастацтваў знаходзяць сабе выяўленьне ў закліку культурнага дзеяча І. Цвікевіча, які канчаецца словамі: „Мастакі Беларусі! за працу па

організацыі выстаўкі, якая выявіць вашыя здольнасьці і пакажа беларускім масам вашую творчасьць". („Трыбуна мастацтва", № 3, за 1925 год).

Ад 1925 г. пачынаецца сыстэматычная дзейнасьць мастакоў Беларусі ў кірунку організацыі пэрыодычных выставак, заснаваньня мастацкіх аб'яднаньняў і г. д.

У 1928 г. адбыўся першы паказ выяўленства БССР у Маскве, на ўсесаюзнай выстаўцы нацыянальнасьцяй.

III

Каб яскравей уявіць сабе тыя абставіны, у якіх мастаком Беларусі даводзіцца актыўна дзейнічаць, выяўляючы свой твар, трэба адзначыць тыя тэндэнцыі, якія наяўны ў нетрах некаторых беларускіх грамадзкіх кол, бо гэтыя тэндэнцыі часта зьяўляюцца перадумовамі для разьвіцьця выяўленства ў БССР.

Гэтыя тэндэнцыі важна адзначыць і таму, што яны налажылі свой адбітак на ўсю дзейнасьць беларускага мастацкага тэхнікуму, на чале якога стаяць людзі, якія ідуць заўсёды лініяю найменшага супраціву.

Што-ж гэта за тэндэнцыі? Асталасьць БССР у абсягу выяўленчага мастацтва, якая тлумачыцца поўнаю адсутнасьцю культурных уплываў, выклікае ў адзначаных колах варожае дачыненьне да ўсякага новага формальнага выражэньня. Гэта яскравей за ўсё згукнулася ў артыкуле Зьм. Жылуновіча, дзе ён перадае свае парыскія ўражаньні („Савецкая Беларусь" за 1927 г.). Імпрэсыяністычнае мастацтва, якое ўжо дзесяткі год як зрабілася і ўва Францыі і ў РСФСР акадэмічным і становіць у выяўленчым мастацтве пяройдзеную ступень, выклікае ў Жылуновіча глыбокую няпрыязнасьць сваймі яскравымі хварбамі і няроўнай паверхняю. Такія-ж пачуцьці яны выклікалі, як сьведчыць Жылуновіч, і ў некаторых іншых літаратараў—ягоных спадарожнікаў.

У Беларускім Дзяржаўным Музэі, дзе на відавоку красуюцца Нэфы, Штэнбэры і іншыя „антыкварныя" абразкі, няма аніводнае рэчы, што характэрызавала б новыя дасягненьні ў выяўленчым мастацтве. Больш таго: работы Канчалоўскага, Машковага і Бурлюка, што віселі там некаторы час, цяпер чамусьці зьняты са сьценкі.... Можна прывесьці яшчэ шмат выпадкаў, што паказваюць на жахлівае невуцтва ў гэтай галіне.

На жаль, шырокія работніцкія масы Беларусі, у якіх густ, бязумоўна, больш сьвежы і здаровы, яшчэ не далучыліся да гэтага, новага для іх, віду мастацтва[1]).

Другая тэндэнцыя, што прынесла дужа шмат шкоды беларускаму выяўленчаму мастацтву, гэта ўпартае жаданьне некаторых нацыяналі-

[1]) Паводле нашых вестак. мінулыя ўсебеларускія выстаўкі наведвалі галоўным чынам вучні і студэнты, ды, часткова, служачыя.

стычна-настроеных інтэлігентаў вынайсьці нацыянальны стыль у выяўленчым мастацтве пры дапамозе стылізацыі ўзораў саматужных вырабаў і старых кніг.

У 1925 г. беларускі мастацтвазнавец М. Шчакаціхін пісаў: „Як можа зьдейсьніцца праўдівае адраджэньне нашай нацыянальнай мастацкай культуры, калі адмовіцца ад мінулых яе дасягненьняў, калі ня мець пад сабой нейкай пэўнай і цьвёрдай базы—вынікаў шматвяковай народнай, нацыянальна-мастацкай культуры“ („Трыбуна мастацтва“ за 1925 г., № 3). Да чаго, аднак, прывёў гэты заклік да шуканьня ў мінуўшчыне „нацыянальна-мастацкіх традыцый“?

Акадэмік В. Ластоўскі павінен у 1929 г. адзначыць, „што прадстаўленае ў аддзеле (музэю. А. К.) беларускае мастацтва ня ёсьць прадоўжаньне беларускіх гістарычных мастацкіх традыцый“ і далей—„Сучаснае беларускае мастацтва нічога не ўзяло ад мінуўшчыны. Рыцар і бард памёрлі, і цяпер—іх зброя ня больш, як бутафорыя“ („Праводнік па Белар. Дярж. Музэі“).

Адылі, хоць значных сьлядоў пропаганда стылізацыі і не пакінула, сякія-такія плады яна прынесла: мы на іх зазначым пасьля. Пакуль прывядзём усяго адзін факт: у артыкуле пра беларускае мастацтва, зьмешчаным у „Красной Ниве“ да юбілейных дён БССР, зазначана, што беларуская графіка працягвае графічныя традыцыі Францішка Скарыны... Гэтае недарэчнае сьцьвярджэньне, атрыманае, відаць, з тых-жа крыніц, мае некаторую праўдападобнасьць: сапраўды, некалькі з'агітаваных дамарошчаных графікаў зрысоўвалі аздобы са скарынінскай бібліі, выдаючы гэта за беларускі стыль.

Наогул, адзначаныя зьявы: асталасьць грамадзкіх густаў, слабая ўцягненасьць мас і заклік да звужваньня сябе асадкамі псэўдо-нацыянальнага стылю, дужа старноўвалі разьвіцьцё выяўленчага мастацтва БССР, надаючы яму консэрватыўнага і „провінцыянальнага“ характару.

## IV

Падводзячы падрахунак трох усебеларускіх выставак, мы павінны адзначыць, што наш актыў у выяўленчым мастацтве, апрача груп моладзі, пра якія мы будзем казаць ніжэй, невялікі.

У сваім аглядзе мы будзем сунімацца толькі ля тых асобных фігур, якія характэрны для груп, што займаюць пэўную позыцыю у бегу разьвіцьця выяўленчага мастацтва БССР.

Нас, вядома, зусім ня цікавяць аматарскія „кадры“, што занялі, аднак, дзякуючы невуцтву кіраўнікоў, пэўнае месца на нашых выстаўках і нават у музэях, як, прыкладам, усялякія Гальмаджяны, Мрачкоўскія, Пархоменка і інш.

Сунімемся перш за ўсё ля мастакоў, зьвязаных сваёй творчасьцю з перадрэволюцыйнай эпохай і выхаваных на традыцыях старое расійскае акадэміі.

Сюды трэба залічыць Пэна, Кругера, Сьляпяна, Воўкава і некалькі іншых.

Большасьць гэтых мастакоў, выхаваная на натуралістычных прынцыпах, займаецца „сумленным“ коп‘яваньнем натуры[1]). Найболш плодным у гэтай групе зьяўляецца Пэн, што напісаў за сваё доўгае жыцьцё сотні абразоў і этудаў, якія малююць у сваёй большасьці, быт перадрэволюцыйнага яўрэйства.

Асноўнаю рысаю Пэна, як і іншых прадстаўнікоў тае-ж групы, зьяўляецца адсутнасьць актыўнае спагады да таго, што ён малюе. Гэта і робіць ягоную творчасьць, пры некаторым колёрызьме, крышку протокольнай і павярхоўнай. На нашых выстаўках Пэн браў удзел, галоўным чынам, старымі работамі.

Спаміж іх трапляліся, аднак, і новыя этуды, адзін з якіх, прыкладам, паказвае комсамольца за газэтай. Гэтыя этуды ніжэй за старыя, што, відаць, тлумачыцца далёкасьцю мастака ад таго, што ён малюе і, часткова, ягоным старчым узростам.

Кругер выстаўляў шэраг портрэтаў дзеячоў БССР, некалькі абразоў на гістарычныя сюжэты і бытавы абраз—малюнак жыцьця дзіцячае колёніі.

У Кругера протокольнае дачыненьне да мастацтва яшчэ больш выпуклена, чымся ў Пэна. Фактычна ад гэтых мастакоў новаму мастацтву БССР цяжка было чаго-небудзь чакаць, паколькі яны—усе ў мінуўшчыне, пры тым яны зусім абезаблічаны даўгім мадэньнем у перадрэволюцыйнай провінцыі.

Сьвяжэй за іх Сьляпян, які знаходзіцца пад уплывам раньніх расійскіх імпрэсыяністых. Ягоныя Менскія віды маюць некаторую лірычную настроенасьць і прыемны колёрытам.

Самую горшую рознавіднасьць гэтае групы становіць Воўкаў, бо ён сухімі і протокольнымі сродкамі бярэцца за рэволюцыйныя тэмы, зусім не перажываючы іх, а, пераважна, плюгавячы, бо чым, прыкладам, ягоныя партызаны не лясныя зладзеі і г. д.[2]). Адылі, пра шкоднасьць Воўкавага, мы будзем гаварыць пасьля, абмяркоўваючы работы Віцебскага тэхнікуму.

Сунімемся каротка і ля іншых імпрэсыяністых, да якіх можна залічыць Кудрэвіча, Каўроўскага, Русецкага і шэраг іншых.

[1]) Выключэньне становіць Воўкаў, які ў сваім жаданьні „патрапляць“ карыстаецца часта-густа эфэктамі чыста-олеографічнага характару.

[2]) Гэтую зьяву асудзіла нядаўна АПО ЦК УсеКП(б) у рэзолюцыі на даклад „Ахр“. Сам „Ахр“, зусім дыскрэдытаваны ў ваччу шырокай расійскай грамадкасьці, адмаўляецца ад сваіх ранейшых прыёмаў, кажучы пра шуканьне формальных шляхоў адлюстраваньня сучаснасьці. А ў нас, на Беларусі, Воўкаў, які піша горш за самага апошняга з „Ахраўцаў“, мае посьпех і ягоны, ніжэй сярэдняга напісаны, натуршчык, асьветлены электрычнай лямпачкай і названы „Рабочым“, быў „гваздком“ другой усебеларускай выстаўкі. Ці не характарызуе гэта лішні раз нашую адсталасьць у пытаньнях выяўленчага мастацтва?

Кудрэвіч піша выключна пэйзажы, пры чым ён апошнім часам упарта перамагае ў сабе „провінцыялізм“. На другой усебеларускай выстаўцы ён, пад уплывам Монэ і Сыслея, якіх, відаць, вывучаў у маскоўскіх зборах, робіцца больш паветрным, адмаўляючыся ад грубых контураў, якія, пры імпрэсыяністычным мазку, рабілі няпрыемнае ўражаньне.

Каўроўскі, якога мы раней ведалі толькі з пэйзажаў, на апошняй выстаўцы выступае з палотнамі на бытавыя і гэроічныя тэмы. Францускія ўплывы ім, відаць, невыстарчальна ператраўлены, але ў той-жа час у ім адчуваецца вялікая напружанасьць і ўпартыя шуканьні.

Гэтая група, вядома, дасьць шмат патрэбнага і своеасаблівага ў беларускае выяўленчае мастацтва.

Асобнае месца займае Бразэр, які прабуе сябе ўва ўсіх галінах— і ў графіцы, і ў скульптуры, і ў малярстве. Няўменьне суняцца ля якое-небудзь галіны становіць, на наш погляд, адно з слабых месц гэтага мастака.

Паўней за ўсё Бразэр выявіў сябе ў рысунках атрамантам, дзе хуткімі нарысамі тэмпэрамэнтна пададзены характэрныя тыпы і невялічкія композыцыі, разьвязаныя на контрастах сьвятла і ценю. Нам здаецца, што хутчэй за ўсё мастак знайшоў-бы сябе ў літографіі, узятай, вядома, не рэпродукцыйна, а композыцыйна.

Спаміж скульптараў трэба назваць Грубэ, які, вызваляючыся паступова ад стылізатарства, ідзе да монумэнтальнае скульптуры, чаму шмат дапамагае абраны ім матар'ял—дрэва. Трэба яшчэ адзначыць, што Грубэ заўсёды бярэ тэму, блізкую да нашай сучаснасьці, шукаючы, аднак, заўсёды формальных шляхоў для разьвязаньня яе.

З скульптараў можна яшчэ назваць Шульца і Шыфрына, якія выстаўлялі на 3-яй выстаўцы ўпяршыню, і ад якіх можна шмат чакаць для разьвіцьця скульптуры ў БССР.

Спаміж графікаў БССР, самыя выдатныя—Юдовін і Мінін-- унесьлі шмат своеасаблівага ў мастацтва БССР. Нам давядзецца, каб не заграмадзіць артыкулу, суняцца ля іх асобна.

З гэтае-ж прычыны мы ня сунімаемся тут і ля шэрагу мастакоў, што шчыльна зьвязалі сябе з БССР, як Станюта, Галубкіна і інш. Мы можам толькі зазначыць, што шмат якія мастакі, што жывуць на Беларусі, ня выявілі свайго аблічча, і што мы на далейшых выстаўках, бязумоўна, знойдзем шмат цікавага ў нетрах самое Беларусі.

## V

Далейшы лёс выяўленчага мастацтва БССР, бязумоўна, залежыць ад нашае моладзі, і таму мы тут сунімемся больш падрабязна на мастацкім выхаваньні гэтае моладзі ў Віцебску і на групах яе ў Маскве і Ленінградзе.

Што выяўляе з сябе Беларускі Мастацкі Тэхнікум, якое ягонае аблічча і якія задачы ён сабе наважвае?

Мы сунімемся, галоўным чынам, ля шталюговых і дэкарацыйных работ вучняў гэтага тэхнікуму паводле тых матар'ялаў, якія яны былі прадставілі на ўсебеларускіх выстаўках.

Як мы ўжо зазначалі, самае характэрнае ў дейнасьці мастакоў, што кіруюць работу гэтага тэхнікуму,—гэта поўная беспрынцыповасьць і жаданьне „прыстасавацца".

Формальныя шуканьні, паколькі да іх ёсьць варожае дачыненьне ў некаторых колах, уважаюцца ў гэтым тэхнікуме за шкодныя зьявы і вытручваюцца.

Калі быў кінуты лёзунг стылізацыі, вучні тэхнікуму, паводле вымаганьня сваіх выкладчыкаў, са стараннасьцю, вартаю лепшага прыстасаваньня, узяліся за коп'яваньне ўзораў з беларускіх рушнікоў, посьцілак, паяскоў і іншых вырабаў беларускае вёскі.

Народная творчасьць, маючы хараство чагосьці органічнага ў руках сялян і сялянак, што працягваюць традыцыі сваіх бацькоў і дядоў, у руках сухіх пераймальнікаў набыла плюгавае адценьне нечага надуманага, няшчырага.

Атрымаўся той плюгавы псэўдо-нацыянальны стыль, які красаваў у Расіі ў канцы XIX веку і, як кажа гісторык расійскага мастацтва Нікольскі, „зьяўляўся дужа кур'ёзным наборам расійскіх мотываў і, у існасьці, лёгкадумнай гульнёй у расійскі стыль".

Праўда, там гэтыя спробы стылізацыі ў дусе расійскага дэкоратыўнага ўзору былі зьвязаны з трыадзінай формулай: „праваслаўе, самадяржаўе і народнасьць", што рабіла іх больш суцэльнымі і вытрыманымі.

Калі пацягнула некаторым халадком на моманты стылізацыі, вучні гэтага-ж тэхнікуму, паводле заданьняў свайго выкладчыка Воўкавага, узяліся за выраб тэматычных палацён, якія яны пяклі, як блінцы, ня ўкладаючы ў іх аніякага формальнага і ідэялёгічнага зьместу.

Тымі-ж асталымі коламі грамадкасьці гэтыя палотны былі прыняты з захапленьнем, як імкненьне адлюстраваць у малярстве нашу эпоху. У існасьці гэта-ж ні больш, ні менш, як дыскрэдытацыя самой ідэі рэволюцыйнага абраза.

Найбольшыя надеі мы, вядома, павінны мець на моладь, што вучыцца ў Маскве і Ленінградзе.

Ужо таму, што ў нас няма свае вышэйшае мастацкае навучальнае ўстановы, уплывы Масквы і Ленінграду, якія зьяўляюцца цэнтрамі культурнага жыцьця СССР, павінны ўліць струмень сьвежае крыві ў нашае выяўленчае мастацтва і вызваліць яго ад „провінцыялізму" і псэўдо-нацыянальнай абмяжованасьці.

У якім-жа стане знаходзіцца тая група, якая заклікана тварыць нашае новае выяўленчае мастацтва?

Большасьць нашае мастацкае моладзі вучыцца ў Маскоўскім „Вхутэіне" і хварэе на тыя-ж хваробы, на якія хварэе гэты мастацкі інстытут.

На чале маскоўскага „Вхутэіну“ стаіць шэраг мастакоў, выхаваных на францускім мастацтве. Яны і пераносяць прынцыпы гэтага мастацтва на маскоўскі грунт. Францускае мастацтва, вядома, у формальным сэнсе самае дасканальнае ў сьвеце, усё-ж мае патрэбу ў вялікіх корэктывах, прыстасоўна да нашае савецкае рэчаіснасьці. Да гэтых корэктыў належыць, пры захаваньні формальнага выражэньня, шуканьне адпаведных нашаму сёньня тэм.

Слабы бок гэтак званага „маскоўскага сэзанізму“, ягоная этудавасьць, адбіўся і на работах, якія выстаўляла нашая маскоўская моладзь на ўсіх трох выстаўках. Праўда, тут згукнулася і адсутнасьць у нашых маладых мастакоў чыста тэхнічных магчымасьцяй. Прыкладам можа быць Зевін, які на першай усебеларускай выстаўцы выступаў з вялікім абразом „Рабочая сям'я“, а на наступных прадстаўлены ўжо толькі этудамі.

З маскоўскае групы мастакоў асобна стаіць Філіповіч, не таму, што ён мацнейшы за іншых у сэнсе майстроўства, але таму, што ён ад самага пачатку свае мастацкае дейнасьці зьвязаў сябе з сучаснай беларускай тэмай. І калі ягоныя вялікія абразы, што малююць быт беларускае вёскі, тэхнічна і не дасканальны, дык, атрымаўшы „пераквакіфікацыю“ у маскоўскім „Вхутэіне“, ён, бязумоўна, падыде да гэтае тэмы з большым майстроўствам.

З групы маскоўскіх мастакоў трэба яшчэ адзначыць Ахрэмчыка, энэргічнага і сьмелага маляра, і Руцая, які ўпарта вывучае проблемы колеру і малярскае формы.

Асобна стаяць нашыя маскоўскія графікі—Аксэльрод, Горшман, Салавейчык і іншыя.

Графіка СССР значна выперадзіла малярства з прычыны тых магчымасьцяй, якія яна мае. Тымчасам, як нашае малярства дзеля чыста формальных шуканьняў трымалася дагэтуль у рамках портрэту, пэйзажу і натурморту—гравюра—ня зьніжаючы свайго ўзроўню, знаходзіла магчымасьці для вялікіх композыцый.

Аксэльрод, Горшман і іншыя нашыя маладыя графікі, выхаваныя на сучасных формах выяўленчага мастацтва, на традыцыях ашчаднае графічнае выразьлівасьці і композыцыйнае суцэльнасьці, бралі, аднак, вобразы і тэмы заўсёды з навакольнае, у большасьці, беларускае, рэчаіснасьці.

У замаляваньні беларускага мястэчка яны, апрача лірычнасьці унесьлі таксама элемэнты эмоцыянальнае насычанасьці.

Аксэльрод праз лірычна ўспрынятае беларускае мястэчка пераходзіць да экспрэсыўнае сэрыі „Грамадзянская вайна на Беларусі“, дзе ўжо вызначаецца пераход да монумэнтальнае выразьлівасьці.

Горшман праз свой цыкль літографій „Яўрэйскае вясельле“, на 2-й выстаўцы, дзе ёсьць гротэскнасьць замаляваньня яўрэйскага мяшчанства, прыходзіць да апошніх літографій на 3-й выстаўцы, дзе тое-ж самае яўрэйскае мястэчка разьвязана ім у композыцыйным малярскім пляне, што зьяўляецца пэўным зрушшам у сучаснай літографіі.

Зусім новыя тэмы маем у Тайца, які бярэ мотывы з яўрэйскай вёскі, што адрадаецца.

Мы ў сваім агляде больш суняліся ля графікаў БССР у Маскве, чымся ля маляроў, бо яны пайшлі далей у кірунку тэмы і яе афармленьня. Адылі, мы чакаем ад маскоўскае групы маляроў дужа шмат чаго ў далейшым узрастаньні нашага выяўленчага мастацтва.

Ленінградкая група графікаў і маляроў БССР на нашых выстаўках дужа мала сябе выявіла. Булычоваму яшчэ цяжка вызваліцца ад тых налагаў, якія ён дастаў у спадчыну ад Віцебскага тэхнікуму, ня гледячы на тое, што ён ужо некалькі год вучыцца ў Ленінградкай акадэміі.

Ад абмеркаваньня работ Ленінградкае групы мы ўстрымаемся да яе далейшых выступленьняў.

Падводячы падрахунак усяго вышэйсказанага, мы павінны цьвёрда зазначыць, што адно праз высокую мастацкую культуру мы здолеем прыйсьці да красаваньня беларускага выяўленчага мастацтва. Першым чынам мы павінны перамагчы провінцыялізм як нашага мастака, гэтак і нашага гледача.

Фэлікс Купцэвіч

# Супроць эклектызму

*(Пра кнігу Зьм. Жылуновіча „Узгоркі і нізіны“. БДВ. 1928 г.).*

Гаварыць сёньня аб тым, што нам патрэбна марксысцкая крытыка, што толькі крытыка, узброеная дыялектычна-матэрыялістычным мэтодам ёсьць сапраўды правільная, бадай што ня прыходзіцца. Нават болей таго, праглядаючы крытычныя артыкулы, нарысы, досьледы, монографіі і рэцэнзіі на літаратурныя творы і тэмы, зусім не спатыкаеш адмаўленьня марксыцкага мэтоду. Кожны крытык, дасьледчык літаратуры і проста рэцэнзэнт, яшчэ нічога не сказаўшы па сутнасьці свае тэмы, адразу, з першых радкоў імкнецца запэўніць чытача ў сваёй вернасьці марксызму, у непарушнасьці і адзінаправільнасьці дыялектыкі, як зброі ў руках пролетарыяту. Зьява надзвычайна станоўчага парадку, якую трэба толькі вітаць. Гэтым сучасная беларуская крытыка адменна адрозьніваецца хоць-бы ад расійскай, дзе і да гэтага часу досыць шырока распаўсюджаны плыні, што нічога супольнага ня маюць з марксызмам, а часта яму варожыя.

Аднак, гэта вонкавая ортодоксальнасьць беларускай крытыкі зьяўляецца ў некаторай сваёй частцы звычайным манэўрам, дзякуючы якому працягваюцца на балонах друку ідэі і ідэйкі далёка не марксыцкія, якія пры іншых варунках засталіся-б на век пахаванымі ў іх носьбітах. Выкарыстоўваньне дыялектычнага матэрыялізму ў якасьці „абарончага колеру“, падтасоўваньне пад яго, прыкрываньне марксызмам па сваёй шкоднасьці і небясьпецы куды важней, чым няприкрыты опортунізм. Куды лягчэй перамагчы адкрытага ворага, пры сучасным стане і разьвіцьці марксыцкай навукі абяззброіць яго не прадстаўляе вялікае цяжкасьці. Затое куды цяжэй выкрыць захованую ў марксыцкіх шатах дробна-буржуазную сутнасьць, паказаць яе сапраўдную ідэялёгічную вартасьць.

Гэтыя акалічнасьці, а таксама і тое, што беларуская літаратуразнаўчая навука яшчэ толькі пачынае разьвівацца, вымагаюць найпільнейшае да сябе ўвагі. Беларуская літаратура сёньня ўжо вышла з дзіцячага, калі можна дапусьціць такую вольнасьць, узросту; загартаваная ў падзеях клясавага змаганьня і барацьбы, яна ў асноўнай сваёй частцы сапраўды сугучна нашай эпосе. Далейшае яе разьвіцьцё, прымаючы пад увагу агульна-соцыяльныя і палітычныя ўмовы, павінна быць у такой-жа меры забясьпечана. Крытыка ў гэтым дачыненьні павінна заняць дамінуючае палажэньне, аднак, яна павінна быць адпаведным

чынам узброена, павінна бездакорна карыстацца дыялектычным мэтодам, павінна быць сапраўды марксыцкай. Адсутнасьць якіх-небудзь убочных традыцый у беларускай літаратурнай навуцы, якія-б заваявалі сабе пэўнае месца, значна палягчае працу. Значэньне-ж літаратуры, як сродка, які эмоцыянальна організуе грамадзтва, які ўплывае на ягоную псыхіку, зьяўляецца надзвычайна важнай надбудовай у агульным соцыялістычным будаўніцтве.

На вялікі жаль, справа будаваньня ці, правільней кажучы, стварэньня сапраўды марксыцкай навукі і крытыкі ў нас адбываецца ва ўмовах змаганьня з рознымі наіўна-ідэялістычнымі і эклектычнымі плынямі, што „аўторытэтна“ занялі пэўныя літаратурныя позыцыі. Гэта, з аднаго боку, дапамагае маладому марксыцкаму літаратуразнаўству загартавацца (няма лепшага гарту, як змаганьне), дае мажлівасьць солідна ўзброіцца марксыцкімі прынцыпамі—і ў гэтым, можна лічыць, ёсьць нешта добрае. Але, з другога боку, яна адцягвае сілы на непатрэбную часамі працу ў той час, як перад намі стаіць яшчэ фактычна не распачатая працай цаліна літаратурных фактаў, якія чакаюць свайго дасьледчыка, калі перад намі ўзмоцненым тэмпам праходзяць новыя літарацкія сілы, марксыцка-крытычнае вока для якіх надзвычайна патрэбна.

Маючы ў асобе правільна пабудаванай крытыкі, да таго-ж моцна ўгрунтованай на марксыцкіх прынцыпах, аўторытэтны голас грамадзтва, беларуская літаратура, па-першае, на шмат разоў паскорыла-б свой агульны ўзрост і росквіт, а па-другое, заўчасьне ўхілілася-б ад адмоўных плыняў, што так ці іначай былі ўласьцівы асобным яе аддзелам.

Няма патрэбы даводзіць аб патрэбнасьці высока аўторытэтнай крытыкі. Аднак, гэта аўторытэтнасьць можа быць дасягнута толькі аўторытэтнасьцю прынцыпаў, заложаных у яе аснове, аўторытэтнасьцю мэтоду, яго выпрабаванасьцю на іншых галінах жыцьця і навукі і ў зьвязку з гэтым, яго пэўнасьцю. Ні ў якім разе нельга дабіцца аўторытэтнасьці крытыкі асабовай аўторытэтнасьцю таго ці іншага крытыка, яго грамадзкаю вагою. Навука не прызнае нічога штучнага за нормальнае. Волат на гліняных нагах усё-ж застаецца надзвычайна няпэўным волатам, і немажліва пераканаць у яго магутнасьці каго-б там ні было. Сучасная крытыка павінна быць волатам, аўторытэтам, але яна зможа ім быць, калі асновы яе будуць сталёвыя па моцы, калі гул ад яе поступу будзе пераканаўчым і для малавера. Аўторытэтнай крытыкай можа быць толькі сапраўды марксыцкая крытыка, і стварэньне яе—наша бліжэйшая задача.

Падвесьці пад беларускае літаратуразнаўства дыялектычна-матэрыялістычны фундамэнт, узброіць крытыку дыялектыкай ваяўнічага матарыялізму—вось над чым павінны працаваць сучасныя марксыцкія дасьледчыкі-літаратуразнаўцы і крытыкі.

## I

Сярод нялічных колькасьцю беларускіх крытыкаў асаблівую прэтэнзію на бездакорнасьць, на беспамылковасьць выяўляе, адначасова найболей хібны, Зьм. Жылуновіч. Яго артыкулы, нарысы, рэцэнзіі і інш. перасычаныя самаўпэўненасьцю, прымушаюць мала спакушанага чытача схіляцца перад нібы-та марксыцкай стопроцантавасьцю іхнага аўтара, пазбаўляюць яго мажлівасьці крытычнага да іх станаўленьня. Аднак, гэта толькі так здаецца. Пад градам траскучых сказаў, з-пад густа завэлюмаваных сапраўдных існасьцяй, усё-ж ня цяжка выявіць электычны характар яго крытычнай творчасьці. Гэта задача яшчэ тым болей палягчаецца фактам адсутнасьці ў Зьм. Жылуновіча пэўнай сыстэмы ў падыходзе да разгляду поэтычнай творчасьці. А, з другога боку, і сам аўтар не хавае асабістых сымпатый як да літаратурных жанраў, так і стыляў, а тым болей да паасобных пісьменьнікаў. Адным ён „інтуіцыйна“ раздае дыплёмы на таленавітасьць, другіх уводзіць у гэніі, трэцім зусім адмаўляе ў існаваньні і праве на літаратурную дзейнасьць, пры чым чытач ва ўсім прымушан верыць на слова, схіляцца перад аўторытэтам, бо ў большасьці выпадкаў усе разважаньні Зьм. Жылуновіча апрыорны. Там-жа, дзе водзіць а priori рэч рызыкоўная, там прыводзяцца сякія-такія довады, якія павінны паказаць „грунтоўнасьць“ вывадаў.

На разглядзе кніжкі Зьм. Жылуновіча „Узгоркі і нізіны“ мы пастараемся ўскрыць эклектычнасьць яго светапогляду і паказаць антымарксыцкасьць яго мэтодаў. Хоць артыкулы, сабраныя ў дадзеным зборніку, і не прадстаўляюць сабой тэматычнай суцэльнасьці, а хронолёгічна раскіданы на чатыры гады (1924—28), аднак, як сьцьвярджае і сам аўтар у прадмове,яны „у вялікай меры набылі сабе вострасьці менавіта ў наш час“.

Наконт „вострасьці“ мы ламаць сабе галавы ня будзем: гэта тэма няўдзячная і непатрэбная. А вот наконт іх вартасьці пагаварыць можна і трэба. Перш за ўсё пастараемся разгледзець гістарычную частку, якая, зьяўляючыся як-бы ўступам, уводзінамі, паводле думкі аўтара, павінна паказаць шлях, пройдзены беларускай літаратурай, і выявіць сапраўдны яе твар і характар.

Што звычайна вымагаецца ад гістарычна-літаратурнага твору?

Першае, гісторык літаратуры—марксысты павінен быў-бы дасьледваць літаратуру папярэдніх эпох на фоне тых соцыяльна-клясавых умоў, што спадарожнічалі ёй. Другое—паказаць, як тая ці іншая соцыяльная групоўка выгадавала сваю літаратуру, і як гэта літаратура разьвівалася і ў чым зьмяшчалася яе адменнасьць ад папярэдніх літаратур. Трэцяе—паказаць і тэорэтычна ўгрунтаваць зьмену літаратурных плыняў, школ, стыляў. Чацьвертае—высьветліць на фактах літаратурнага жыцьця, праўдзівей на самой літаратуры, тое асноўнае ў соцыяльным быцьці клясы, што стымулявала як разьвіцьцё літаратуры ў пэўных кірунках, так і адпаведны на пэўных этапах яе заняпад.

Гэта толькі самы галоўны, на наш погляд, і бязумоўна няпоўны комплекс запатрабаваньняў, якія мы можам прад'явіць гісторыку, ці літаратурна-гістарычнаму матар'ялу. Што гэта так, досыць пазнаёміцца з працамі такіх марксыстых гісторыкаў літаратуры, як Фрычэ або Коган. Само сабою зразумела, што так пастаўленыя сабе мэтавыя ўстаноўкі гістарычна-літаратурнага твору вымагаюць зусім выразнай мэтодолёгіі. Гісторык-марксысты, падыходзячы да матар'ялу, заўсёды знойдзе элемэнты злучэньняў літаратуры і жыцьця і на дыялектычным іх разглядзе выявіць іхную тожсамасьць і пакажа ўзаемную залежнасьць.

Беларуская гістарычная літаратура пакуль што ўзораў такіх прац ня мае. Працы М. Гарэцкага і, тым болей, М. Піотуховіча па гісторыі беларускай літаратуры з марксызмам ня маюць нічога супольнага. Яны пабудованы на ўзорах, сьветлай памяці, падручнікаў для гімназій і сэмынарый, а, зрэшты, і ня надта прэтэндуюць на марксыцкасьць. Зусім такімі-ж, як і яны, мэтодамі карыстаецца, аднак, і наш аўтар.

Даючы апісальны малюнак Беларусі канца XVIII стагодзьдзя, улічваючы колькасьць жыхарства, пералічаючы колькасьць і характар фабрык і прыводзячы поруч апісаньні формаў нацыянальнага ўціску, што выклікае протэст „у беларускіх працоўных гушчаў", Зьм. Жылуновіч аўтарытэтна зазначае: „Адчуваньне гэтага выразнага нездавальненьня захапіла перш перадавыя колы беларускае дробна-шляхецкае інтэлігенцыі"[1]), якая „у канцы XVIII стагодзьдзя... абярнулася вухам да жыцьця", і праз некалькі радкоў ніжэй у зьвязку з гэтым дадае, што „час ад часу прадстаўнікі дробна-шляхецкай інтэлігенцыі: пісьменьнікі, грамадзкія дзеячы, этнографы і інш., выхаваныя ў польскай культуры, патрошку пачынаюць зварачаць увагу беларускай мове, беларускай песьні, беларускай гісторыі" (9); і, як відаць, паводле меркаваньняў аўтара, гэта іх дзейнасьць „дала моцны штурхач да нарадзэньня новых шырокіх колаў беларускай і спачуваючай беларускаму адраджэньню інтэлігенцыі" (13).

Такая концэпцыя аўтара. Яна нам уяўляецца з большага такім чыным. Прыгнечанае сялянства нездаволена, гэтым нездавольненьнем захапляюцца (!) перадавыя колы інтэлігенцыі, пачынаюць у выніку патрошку (!) *займацца беларускім фольклёрам і гісторыяй і даюць штурхач* (!) нараджэньню новых пластоў той-жа інтэлігенцыі. Такая концэпцыя, можа, і ня вельмі шурпатая, наадварот, яна даволі гладкая, але хто асьмеліцца назваць яе марксыцкаю.

Той факт, што ў канцы XVIII стагодзьдзя некаторыя колы польскай інтэлігенцыі—шляхецтва, пераважна дробнага, заняліся беларускімі справамі, тлумачыцца, бязумоўна, ня іхнымі чулымі натурамі (вушамі?) і наіўным захапленьнем. І зразумела, ня толькі „водгукі падзей францускай рэволюцыі" (9), як, пераказваючы Піотуховіча[2]), тлумачыць

[1]) Тут і ўдалейшым, дзе ня будзе спэцыяльна агаворана, падкрэсьлена намі. *Ф. К.*

[2]) Глядзі *б.* 19 Нарысаў па гісторыі Беларускай літаратуры М. Піотуховіча.

Зьм. Жылуновіч, „падвострылі яе цікавасьць". Канец XIX стагодзьдзя для польскага магнацтва і шляхты быў эпохаю сур'ёзных завадаў: няўдалае паўстаньне, супярэчнасьці з уласнай, ужо досыць моцнай буржуазіяй, конфлікты менавіта з беларускім сялянствам на соцыяльным грунце, рэволюцыянізаваньне сялянства, посьпех К. Каліноўскага з яго рэволюцыйнымі лёзунгамі ды, урэшце, раскол сярод самой шляхты—усё гэта, як-ні-як, а мела ўплыў на зьмену дачыненьняў дробнашляхецкай інтэлігенцыі, „выхаванай на польскай культуры", да мас сялянства. Уласная слабасьць прымусіла іх да ўжываньня новых захадаў у дачыненьні да раней пагарджанага імі-ж селяніна. Забыцца на ўсе гэтыя акалічнасьці дасьледчыку, гісторыку марксыстаму,- недазволеная лёгкадумнасьць, ідэялізаваць-жа дробную шляхту вольна ці нявольна—значыць падупадаць пад уплывы варожай нам ідэялёгіі.

Так грунтоўна схібіўшы ў гэтым кардынальнейшым пытаньні гісторыі беларускай культуры і літаратуры, Зьм. Жылуновіч робіць рад ня меншых памылак у падыходзе як да паасобных пісьменьнікаў, так і літаратурных твораў. Дзіўным здаецца яго неразуменьне літаратуры, як надбудовы. Ён, расцэньваючы яе як базіс, кладучы яе ў аснову, зусім забываецца на соцыяльны эквівалент літаратурнага факту, пакідае без разгляду ягоныя соцыяльныя карані і шляхі разьвіцьця літаратуры выводзіць з самой-жа літаратуры, узятай ім, як самагодны фактар.

Так, разглядаючы поэму „Тарас на Парнасе", Зьм. Жылуновіч кажа, што пад яе ўплывам „фармавалася беларуская літаратурная творчасьць шэрагу беларуска-польскіх пісьменьнікаў, папярэднікаў Вінцуся Марцынкевіча. Разам з іхняю працаю яна паслужыла моцнаю падвалінаю для разьвіцьця адносін гэтага пісьменьніка да беларускага пытаньня" (10-11) і што ўжо з часу творчасьці Дуніна-Марцынкевіча „беларуская літаратура становіцца на цьвёрды грунт (11).

Такім чынам, мы бачым, што момантам, які абумоўлівае творчую чыннасьць Марцынкевіча, была поэма „Тарас на Парнасе", а літаратура тагочаснай Беларусі, пачынаючы ад Марцынкевіча, „становіцца на цьвёрды грунт". Чытач у праве запытацца, што гэта за „цьвёрды грунт", у праве вымагаць ад дасьледчыка меркаваньняў і фактаў, якія ўдаводнілі-б гэта апрыорнае сьцьверджаньне. Аўтар, аднак, лічыць гэта непатрэбнай справай. Сказаўшы (а не давёўшы), што Дуніна-Марцынкевіча „захапляе (зноў захапляе! Ф. К.) жыцьцё беларускага селяніна і што гэтаму жыцьцю ён (г. зн. Дунін-Марцынкевіч) прысьвячае сваю літаратурную працу" (11), Зьм. Жылуновіч палічыў за досыць грунтоўны довад, што да „цьвёрдага грунту".

Мала таго, ідучы далей за аўтарам, у такім-жа кірунку, мы зусім лёгічна, з пункту глеўданьня ідэялізму, прыходзім да вываду, што літаратурныя творы гэтай пары, а менавіта „к канцу 1890-х гадоў, узьнімаюць шырокі беларускі нацыянальна-рэволюцыйны рух сярод

розначыннай інтэлігенцыі і студэнцтва“ (17). Гэткім чынам, у даденай концэпцыі мы бачым, як з поля гледаньня Зьм. Жылуновіча зусім выпала „такая драбніца“, як сялянства, яго соцыяльнае змаганьне, абшарніцтва, з яго дыфэрэнцыяцыяй, затое знаходзім, што чыньнікам: які абумовіў нацыянальна-рэволюцыйны рух, стала пачуцьцё, суб'ектыўнае стаўленьне інтэлігенцыі да ваколічных зьяў. Так вось, паводле аўтара, „робіцца“ гісторыя і так вось, як Афіна з галавы Зэвэса, нараджаюцца і соцыяльна-нацыянальныя рухі, зьяўляецца і расквітае літаратура.

Нам здаецца зусім непатрэбным што-небудзь казаць аб вартасьці такога гатунку прац для нашай пролетарскай сучаснасьці: кожнаму зусім ясна, што да марксызму яно мае далёка і далёка адлеглае дачыненьне. Але пойдзем далей. Робячы з Дуніна-Марцынкевіча „бацьку“ беларускай літаратуры, Зьм. Жылуновіч далей кажа: „Непасрэдна пад уплывам Дуніна-Марцынкевіча пачаў сваю працу і яго пасьлядовец, здольны пісьменьнік-народнік Ф. Багушэвіч“. Тут ужо, грэшачы наогул перад гістарычнай праўдай, Жылуновіч нават зраджвае сам сабе, свайму мэтоду. Яму трэба было толькі пачытаць прадмову Францішка Багушэвіча да зборніку „Смык беларускі“, у якой ён „уласнаручна“ (што для Жылуновіча, з яго мэтодам біографічнага і суб'ектыўна-псыхолёгічнага парадку мае выключнае значэньне) сьцьвярджае: „здаралася і мне чытаць ксёнжачкі хоць ня надта старыя, друкаваныя, нават якогась пана Марцынкевіча, але ўсе як-бы сьмяючыся з нашага брата пісаны“[1]), каб толькі на гэтай падставе зусім інакш акрэсьліць ролю і значэньне Багушэвіча, як пісьменьніка, менавіта, народніка, паказаць ягонае дачыненьне да папярэдняй яму літаратуры.

Аднак, спудлаваўшы ў адным, Жылуновіч хоча выехаць на другім, каб захаваць хоць ілюзорнасьць „навуковай“ суцэльнасьці. З гэтаю мэтаю ён, з яму аднаму вядомых прычын, робіць так, мякка кажучы, падтасовачку і знаходзіць тожсамасьць Багушэвіча і Марцынкевіча. Ён кажа пра Багушэвіча, што „няпрыглядная карціна сялянскага жыцьця захапляе (і зноў захапляе! Ф. К.) пісьменьніка цалкам і надае яму настрою прысьвяціць сваю музу апяваньню гора і нядолі беларускага селяніна“ (14)—гэтым самым, як-бы родніць двух пісьменьнікаў па мотывах творчасьці. Мы-б дарма трацілі час, каб у гэтым выпадку стараліся знайсьці хоць грам праўдзівасьці. Мы толькі лішні раз падкрэсьлім, што дыялектычна-матэрыялістычная зброя нашаму аўтару не па плячы і што ён з лёгкім сэрцам яе адкідае, пападаючы тым самым у сваіх вывадах у звышнатуральную заблытанасьць.

Ня лепей выглядае з-пад пяра Жылуновіча і пара зараджэньня гэтак званай нашаніўскай літаратуры. Фактычна надзвычайна цікавы

[1]) Смык Беларускі Сымона Рэўкі з-пад Барысава. Выданьне V, прадмова.

пэрыод перад рэволюцыяй 1905 году, калі ў беларускай літаратуры назначалася дыфэрэнцыяцыя, аўтарам паказаны ў такіх-жа, як і папярэдняя эпоха, псыхолёгічна-суб'ектыўных рысах, якія ўрэшце нікому і нічога не гавораць. І толькі ўжо ў далейшым выкладе мы даведваемся, як „на сцэну зьяўляюцца першыя народныя пісьменьнікі Янка Купала і Якуб Колас". Аднак, дарма сталі-б мы шукаць у досьледах аналізу тых соцыяльных сіл, што вылучылі гэтыя пісьменьніцкія таленты, дарма сталі-б шукаць характарыстыкі мастацкіх вобразаў іхнае творчасьці, што характарызуюць зьлітнасьць аўтараў з соцыяльным асяродзьдзем і грамадзтвам. Адно нам даецца, як тэза, гэта тое, што „абодвы пісьменьнікі, нібы згаварыўшыся зразу, уносяць у беларускую літаратуру новыя мотывы соцыяльнага характару, ставяць рубам пытаньне аб соцыяльна-нацыянальным вызваленьні Беларусі і яе гаспадара—беларускага бедняка-селяніна" (22).

Усё гэта, як характарыстыка выдатных асоб, можа, і правільна, але ад дасьледчыка літаратуры—марксыстага, мы вымагаем ня голага констатаваньня фактаў, як фактаў. Творчасьць пісьменьніка павінна быць разгледжана ў незалежнасьці ад яго асобы; моманты біографічнага парадку могуць толькі ілюстраваць творчасьць, тлумачыць-жа яе, а тым больш быць крытэрыем аналізу, ім ня дадзена. І таму зусім неапраўданым характарам досьледу гучаць сьцьверджаньні Жылуновіча, што ў гэтых пісьменьнікаў „з выяўленьнем іх здольнасьці выяўляецца і іх разыходжанасьць у сэнсе літаратурных напрамкаў: Янка Купала нахіляе ў бок романтыка-сымболізму, а Якуб Колас абірае сабе рэалізм" (24).

Такі падзел пісьменьнікаў наогул ёсьць плён багатай фантазіямі галавы, ці бок пачуцьця Жылуновіча, і ні ў якім разе ня ўгрунтованы аналізам іхнае творчасьці. Мы сабе дазволім для яснасьці прывесьці выпіскі з артыкулу К. Бальмонта, які гэтыя дзьве плыні характарызуе наступным чынам: „Реалисты охвачены, как прибоем, конкретной жизнью, за которой они не видят ничего,—символисты, отреченные от реальной действительности, видят в ней только свою мечту, они смотрят на жизнь--из окна. Это потому, что каждый символист, хотя-бы самый маленький, старше каждого реалиста, хотя-бы самого большого. Один в рабстве у материи, другой ушел в сферу идеальности"[1]). Бальмонт сымболісты, і прыведзенае ім акрэсьленьне надзвычайна трапна характарызуе гэту літаратурную плынь. Немажліва на творчасьці Янкі Купалы давесьці, што ён бачыў у рачаіснасьці „свою мечту", што ён глядзеў на жыцьцё „з вакна". Гэта выключана і прычэпленая Купалу воляй Жылуновіча сымболічная школа не па адрасу. Але прымем за дадзены такі падзел і паслухаем, што далей кажа Жылуновіч. „Гэта зусім не перашкаджае ніводнаму з іх шчыльна трымацца ідэй, кінутых рэволюцыяй 1905 году, і не застаўляе

[1]) Литературные манифесты. Изд. Федерации. Москва, б. 26.

сходзіць з п'едэсталу народных трыбунаў“ (24). Вось тут і разьбярыся. Такі вінігрэт падносіць пад выглядам марксыцкай рэчы, прынамсі, ня зусім сумленна. Мы-б сяк-так даравалі гэта пачынаючаму крытыку і аднесьлі на рахунак яго невуцтва. Да Жылуновіча-ж гэта не прыстасоўна. Такая блытанасьць у разуменьнях—ёсьць бясспрэчны довад яго антымарксыцкай мэтодолёгіі і надзвычайна жонглёрскай здольнасьці. Як ілюстрацыю да ўжо пералічанага мы можам падаць урывак, прысьвечаны зьяўленьню ў літаратуры М. Чарота. Вось напрыклад: „Аднак, нішто іншае, як страшныя здані (ого!) гартавалі рэволюцыйныя думкі новага здольнага пісьменьніка Міхася Чарота. Апошні настарожана чакаў (вось як!) прыходу Чырвонай арміі для вызваленьня Беларусі, пяяў аб надыходзячым вызваленьні сваe радзімы і гатаваў (?!) музу да ўрачыстых гімнаў гэтаму вызваленьню“ (34-35).

Гэты ўрывак, як і папярэднія, гаворыць аб тым, што галоўнае, што зрабіла ўплыў на Чарота, што ўрэшце выгадавала яго як пісьменьніка, зусім апушчана як непатрэбная рэч. Такія зьявы соцыяльна-палітычнага парадку, клясавае змаганьне, рэволюцыянізаваньне сялянства, зусім ня ўлічаны аўтарам, і ў творчасьці Чарота ён іх ня шукаў, а таму і „страшныя здані“ у ролі пісьменьніцкіх нянек, таму і „настарожанае“ чаканьне. А між іншым такі надзвычайнай важнасьці факт, што Чарот, ідучы асабіста ўвесь час з пролетарыятам, усё-ж у творчасьці да канца застаўся тыпова сялянскім пісьменьнікам, абмінуты зусім. Нават у монографіі, прысьвечанай яго дзейнасьці, такімі „дробнымі“ пытаньнямі аўтар не заняўся.

Такім чынам, з паданага мы яскрава ўбачылі, што як гісторык-дасьледчык Жылуновіч, бязумоўна, далёка стаіць ад марксызму. Той факт, што артыкул перасыпаны спасылкамі на рэволюцыю, клясавае змаганьне, соцыяльную няроўнасьць, фактычна яшчэ нічога не гаворыць, і ні да нічога нікога не абавязвае. Цэлы рад пытаньняў, зьвязаных з гісторыяй беларускай літаратуры, падлены да таго-ж у ідэялістычным асьвятленьні, а самы этап разьвіцьця даволі зграбна ўбраны аўтарам у эклектычныя вопраткі.

Не абмінуў Жылуновіч у сваіх нарысах і пытаньняў стану беларускай крытыкі. Паводле яго, яна ў нас „у аснове сваёй соцыялёгічна-марксыцкая“, што зусім правільна. Але мы ніколі ня згодзімся з Жылуновічам, калі ён у гэту аснову залічае Піотуховіча, Байковага і Глыбоцкага, аўтараў, якія ўжо досыць паказалі свой „марксызм“. У такім складзе тэрмін „соцыялёгічна-марксыцкая“ гучыць, як зьдзек, як чарговая спроба прыкрыць уласны опортунізм. Мы да гэтай плеяды можам дадаць і аўтара „Узгоркаў і нізін“—сугучнасьць поўная, як формальная, так і мастацкая, а адначасова і ідэялёгічная еднасьць. Цану мы ёй далі, назоў сказалі, вартасьць давялі, а назову „соцыяльна-марксыцкая“ яна сама права браць ня мае.

II

Разгляд гістарычна-літаратурных нарысаў Жылуновіча ўжо з яскравасьцю паказаў, як недапасаваньне дыялектычна-матарыялістычнага мэтоду ў дасьледваньні літаратуры ў выніку прыводзіць да абсурдных вывадаў. Ня менш сумнымі вынікамі можна ўзбагаціцца, калі, прыступаючы да крытычнага аналізу творчасьці асобнага пісьменьніка, стаць на шлях адмаўленьня дыялектыкі, калі дасьледчык літаратуры соцыяльнае быцьцё, што абумаўляе характары і вобразы мастацкай творчасьці пісьменьніка, падмяняе яго жыцьцём, калі элемэнты жыцьцяпіснага парадку ўводзяцца ў канон, і паводле іх тлумачыцца мастацкі твор.

Так, разглядаючы монографію Жылуновіча аб Чароце, напісаную з прычыны дзесяцігодзьдзя яго літаратурнай дзейнасьці, мы знаходзім шмат цікавых біографічных дадзеных аб Чароце, але амаль зусім ня ведаем, што такое Чаротава поэзія. Жылуновіч у ролі ацэншчыка адну поэму, ці так якую поэтычную рэч, ставіць вышэй, другую ніжэй, прыкладам: „Босыя на вогнішчы“ вышэй за „Чырвонакрылага вяшчуна“, а гэты апошні лепшы за „Леніна“, „Карчма“ лепшая ад „Марыны, „Саматканая сьвітка“ горш ад „Галькі“ і г. д., і зусім не клапоціцца аўтар даць тэорытычна ўгрунтаваны погляд на характар мастацкіх вобразаў Чаротавой поэзіі, што для дасьледчыка павінна быць асноўнай мэтавай устаноўкай. Лепшая рэч ці горшая, падабаецца яна ці не,—гэта рэчы другараднага значэньня, і не на іх павінна зайстрацца ўвага крытыкі.

Паводле досьледу Жылуновіча мы дазнаемся, што Чарот „каб паўней (!) перажыць пачуцьці ваякі, адчуць іх сапраўднасьць, пакідае леру і бярэ стрэльбу“ (91). Даведваемся таксама, што перакананьне ў сіле рэволюцыі Чаротам зьмяняецца сьляпой „верай“ у перамену жыцьця (91). Няхай так. Няхай Чарот кіраваўся асабістымі меркаваньнямі, бяручы ўдзел у грамадзкай справе, але якое гэта мае значэньне для крытыка літаратуры, а не біографа?

Выходзячы з таго-ж біографічнага мэтоду, у сваім дасьледваньні Жылуновіч імкнецца для нечага давесьці, што верш Чарота „На сьмерць Сьцяпана Булата“ слабейшы (!) за верш на гэту-ж тэму Янкі Купалы і то толькі таму, што ў „Чаротавым вершы адбілася пачуцьцё грамадзкае страты“ (103).

Да яшчэ большых недарэчнасьцяй прыходзіць Жылуновіч, калі спрабуе падагнаць пад свой мэтод разгляд поэмы „Босыя на вогнішчы“. Аб ёй ужо шмат пісалася, і мы ня будзем пераказваць таго, што даведзена і раскрыта ў гэтай поэме. Але пакажам на тое „новае“, што знайшоў у ёй Жылуновіч. Напрыклад, ён даводзіць, „босыя замяняюць песьняру пролетараў у праламленьні беларускіх умоў“ (110), і заразжа дадае: „гэта ў вялікай долі адпавядае сутнасьці рэчаў“, а таму робіць ён зусім нечаканы эквілібрыстычны вывад і „даводзіцца заключаць, што ім (г. зн. Чаротам) схоплена дынаміка падзей праз туль

імпрэсыянізму". Жылуновіч—вораг гэтай літаратурнай школы. У цэлым радзе месц, асабліва полемізуючы з „Маладняком", ён гэта нядвусэнсава даводзіць. І найвышэйшай меркай пахвалы ў Жылуновіча для пісьменьніка гучаць сказы: „пазбавіўся імпрэсыяністычнай плыні—можна сказаць, чалавекам стаў". Аднак, у дадзеным выпадку крытык робіць выключэньні і, ня гледзячы на „імпрэсыянізм", адзначае, што „поэма ня траціць свайго багатага хараства і свае надзвычайнае сілы" (111). Надта цяжка сказаць, маючы сумленьне, што гэта „новае" хоць крыху ўзбагачвае марксыцкае дасьледваньне „Босых на вогнішчы". Гэтае „новае", як продукт эклектычнага думаньня, акрамя блытаніны, сапраўды нічога не дае патрэбнага для высьвятленьня характару поэмы. І зусім ні да чаго разважаньні аўтара аб ролі і значэньні „рамесьніцтва і дробнапрамысловага пролетарыяту" ў рэволюцыі—яны, гэтыя разважаньні, ўласна кажучы, зусім ня ўвязаны з агульнай сыстэмай думаньня крытыка, а прычэплены ня іначай, як для „марксызму".

Пакінем іх у баку і пяройдзем да вывадаў, што зроблены Жылуновічам. Вось яны: „Поэме не хапае зусім ня многа асобных рысаў, якімі б выразнасьць босых стала яскравей і пайней. Увесьці-б аўтару гэтыя рысы, і тады далёка ясьнейшы выгляд мела-б і сама крытыка твору" (115). Замест таго, каб раскрыць вобраз „босых", каб давесьці іхную соцыяльную сутнасьць, каб аналізам „босых" акрэсьліць характар літаратуры, Жылуновіч думае над тым, што Чарот думаў, калі пісаў „босых", як ён іх сабе ўяўляў. Гэтак можна прывесьці тысячы гіпотэз, і ўсе яны будуць у сваім родзе правільнымі, бо чым-жа Жылуновіч давядзе, што „меў на ўвазе" Чарот, пішучы „босых".

Так вось губляецца грунт досьледу, і апошні перастае быць досьледам, як і наіўна-рэалістычная крытыка ня можа быць марксыцкай крытыкай. Жылуновіч, бачыце, раіць увесьці аўтару ў свае вобразы сякія-такія рысы, і тады ня было-б клопату крытыцы—вось сынтэз разважаньняў аўтара. Ды й наогул, што да парад, дык у Жылуновіча іх ня шукаць. Болей таго, ён, як Буалё, уводзіць законы пісаньня, „інструкцыі", парушыць якія мастак ня мае права. Так, Алесю Гурло ён „раіць": „кінуць хістаньні і озіркі (!) на самотныя развагі ды любоўныя палотны. Яны не ўдаюцца поэту. Слабыя, бяз пластыкі, бяз сочнасьці. Быў час, аддаў увагу—і годзе. Беларуская поэзія мае пэрлы гэтага жанру ад іншых поэтаў, якія і часам і талентам вышукалі іх досыць" (222).

З Паўлюком Трусом таксама вышла нейкая закавыка—ударыўся хлопец у „любоўныя тэмы", і Жылуновіч пэтытам адзначае: „Трэба адзначыць вялікі ўхіл Паўлюка Труса ў бок любоўных поэм. Гэта нездаровае (?) зьявішча, і мы-б раілі даць больш увагі тэмам аб праламленьні ў вёсцы Кастрычнікавай рэволюцыі і яе вынікаў" (235). І так бяз канца—„мы раілі-б", „мы лічылі-б", „трэба кінуць", „гэтага

ня пішы“, „таго не чапай“, а „гэта не па табе“ і г. д. і г. д. Ці крытыка гэта? Не, мабыць далёка не. Няўдаласьць мэтоду, што ўжываецца Жылуновічам ужо відавочна. Мы толькі пакажам яшчэ адін узор таго, куды можа завесьці крытыка і дасьледчыка празьмернае захапленьне асабовай біографіяй пісьменьніка. Ёсьць такая поэма ў Чарота, „Карчма“ завецца. Жылуновіч лічыць яе аўтобіографічнай (мабыць таму, што напісана яна ад першай асобы) і піша: „Не выпадковым, хоць і дзіўным, здаецца тое, што поэта адпраўным момантам для свае новае поэмы бярэ вясковую карчму. З ёю, з гэтаю карчмою, у М. Чарота зьвязана вельмі многа імкненьняў, жаданьняў, намераў. Карчма, уцягнуўшы яго змалку, дзякуючы бацькавай слабасьці да яе, паміма адмоўнай службы, саслужанай песьняру, мела шмат і дадатных момантаў, зрабіўшых уплыў на яго псыхіку. Наведваючы яе, поэта шчыльна яднаўся з сялянскімі гушчамі (!!), вывучаў іх настроі (?), недахопы і імкненьні. У карчме Шлёмы пясьняр упяршыню знаёміўся з новым для яго жыцьцём прадстаўніка (?) яўрэйскага насельніцтва на Беларусі, і, нарэшце, дзякуючы карчме, яму трапілася перажыць першае ў даных умовах вельмі каразьлівае захапленьне каханьнем да карчмарскае дачкі, чорнавокае Рахілі“ (155).

Няхай даруе чытач за такі доўгі ўрывак з „крытычнага“ артыкулу Зьм. Жылуновіча. Ну чым не портрэт мы вам паказалі? Ці-ж ня ведаеце вы Чарота цяпер? Вам мо‘ не вядома яго постаць, дык прачытайце яшчэ раз. Уявеце. А што было-б з аўтарам „Боскай комэдыі“, каб, барані-божа, аб ім пісаў досьлед Жылуновіч, і пераказаць страшна. А калі Жылуновіч уздумае пісаць крытыку на „Фауста“— што тады стане з Гётэ?

Можна было-б прыняць гэта за жарт, праўда, грубаваты. Але не! Праз некалькі балон мы зноў-жа чытаем у тым-жа артыкуле: „Вельмі трапна зрабіў пясьняр таксама і з тым, што ўвёў у поэму біографічныя рысы. Яны выпучылі нам асобу поэты ў процэсе яго псыхолёгічнага аформленьня“ (155). Ну, калі гэта сур‘ёзна так, дык прыходзіцца пашкадаваць—Чарота, папаў ён у „добрыя рукі“. Але як-жа загадаеце ставіцца да крытыка? Як нам аднесьціся да яго навуковай угрунтаванасьці? І як гэта злучыць з акрэсьленьнем, што гэта крытыка соцыялёгічна-марксыцкая, аб чым выразна кажа сам аўтар. Мы, каб не паўтарацца, толькі запытаем, з якой пары Жылуновіч пачаў лічыць біографічна-псыхолёгічную (па сутнасьці ідэялістычную) крытыку за соцыялёгічна-марксыцкую? Мы, адносячы яго да першай, протэстуем супроць спробы падмяніць ідэялізм марксызмам, хто-б гэтыя спробы ні рабіў.

Літаратура ёсьць перш за ўсё грамадская зьява і, як такая, карыстаецца ў роўнай меры з іншымі грамадскімі чыньнікамі ўвагай грамадства. Але Жылуновічу гэтага ня досыць. Ён лічыць, што „гаварыць зараз аб беларускай літаратуры нельга іначай як з пачуцьцём умільнасьці (?) і ўважлівага ўхіленьня (!) перад сілай, багацьцем, перад яе

паступовым няўхільным разьвіцьцём, перад яе заслугаю ў справе вызваленьня беларускіх працоўных грамад і ў справе агульна-расійскае рэволюцыі" (188).

Што гэтым ён хоча сказаць, адгадаць ня цяжка. Акрэсьленая такім чынам беларуская літаратура, акрамя ўсяго іншага, зьяўляецца, як быццам, суцэльным монолітам, соцыяльна-клясавы падзел яе не датычыць, яна не падлягае крытыцы грамадства, яна ёсьць нешта такое, перад чым трэба стаць на калені і дзякаваць „духа", ці якое ліха, за атрыманую асалоду. Гэткая сусальнасьць, як быццам, не да твару „патэнтаванаму" соцыолёгу-марксысту. Такі погляд хутчэй уласьцівы „господам Погодиным" (на якога да рэчы і спасылаецца Жылуновіч)— буржуазным лібэралам, якія так зацята абаранялі „искусство" ад „грязных" рук пролетарыяту.

Высока цэнячы літаратуру, як праяву соцыяльнага (а не інтэлектуальнага, тав. Жылуновіч!) жыцьця, мы тым самым дапушчаем яе рознароднасьць, адпаведную соцыяльнаму падзелу грамадства. І як-жа можна „уміляцца" перад буржуазнымі ці мяшчанскімі плынямі ў літаратуры, нават у беларускай? Як-можам мы, марксыстыя, „уважліва ўхіліцца" перад яўнай спробай ідэялізацыі мяшчанства, ну хоць-бы такім пісьменьнікам, як Цішка Гартны? Не! На такі шлях вы нас не зацягнеце. Здаровае разьвіцьцё сучаснай беларускай, пролетарскай літаратуры вымагае крытычнага да сябе дачыненьня. Крытыка павінна дапамагчы пролетарскаму атраду літаратуры заваяваць гэгэмонію, тут справа жорсткай барацьбы, а не сусальнай сьлюнявасьці.

Жылуновіч папрабаваў „умільнуцца" перад такімі талентамі, як Паўлюк Трус і А. Моркаўка, а аказалася, што адзін з іх мае „нахіл да чужых тэкстаў", а другі, ня маючы гэтага нахілу, нічога наогул ня мае да пролетарскай літаратуры—у выніку чаго экспэрымэнт „вылучэньня" ўгрунтованы толькі асабістым пачуцьцём Жылуновіча, бяз грунтоўнага аналізу іхнае творчасьці, зьвёў у самых лепшых, так сказаць, намерах. Яно і зразумела, Жылуновіч знайшоў у творах памянёных пісьменьнікаў... „адпачынак" (236), а адпачынак, бязумоўна, калі і грае організацыйную ролю, дык толькі вакол сну. Нашу-ж пролетарскую літаратуру мы будзем будаваць, як ваяўнічую. Не для бюргерскага адпачынку павінны працаваць пісьменьнікі, а даваць творы такой сілы, каб рэшткі пасыўнасьці грамадскіх пластоў зжыць, каб яна, організуючы пачуцьці і эмоцыянальна заражаючы нас, была штуршком да творчай працы.

III

Няма нічога дзіўнага, што і ў галіне публіцыстычнай крытыкі, у якой Жылуновіч таксама рабіў неаднакроць спробы выступаць, заўважаецца надзвычайная заблытанасьць, няяснасьць у высьвятленьні літаратурных зьяў. Ягоныя артыкулы, прысьвечаныя асобным літаратурным падзеям, што мелі месца за апошнія гады, ані ня высьвятляюць іх, не даюць пэўнага выразнага ім тлумачэньня.

Зрабіўшы аднойчы відавочны крок наперад у разуменьні літаратуры, як. надбудовы, пераканаўшыся ў непарушнасьці соцыяльнага базісу, ён, аднак, з вялікімім жалем вымушан прызнацца, што „беларуская літаратура, разам з тым, яшчэ не адыграла ў беларускіх умовах ролі рухавіка“ (242). Ён яшчэ і да гэтага часу цешыць сябе марамі аб „гэроічнасьці адраѳэнцкага водбліску“, які „вітае (мабыць у сэнсе „лунае“. Ф. К.) над абшарамі вольнае, захопленае адбудоваю краіны“ (242). Будзе зусім лішнім пераконваць паважанага крытыка ў мітычнасьці яго меркаваньняў. Ён, углядзеўшы, як стара-шляхецкая інтэлігенцыя „абярнулася вухам да жыцьця“, можа толькі і рабіць, што цешыць сябе сваімі нязбыўнымі марамі. Ён таму, мабыць, і да ацэнкі сучасных літаратурных фактаў падыходзіць з такою-ж меркаю. Паводле яго тлумачэньняў і „Голы зьвер“ М. Зарэцкага і „На прасторах жыцьця“ Якуба Коласа—рэчы аднаго парадку, аднэй соцыяльнай катэгорыі (244).

Спробы ідэялізацыі літаратуры наогул, жаданьні адгарадзіць яе кітайскім мурам ад жыцьця, з яго выразнай пульсацыяй, займаюць не малое месца ў крытычнай творчасьці Зьм. Жылуновіча. Не дарма-ж ён заплюшчыўшы вочы кажа, што сучасныя пісьменьнікі „жадных уплываў старога ладу не адчуваюць на сабе, супроць яго спакусаў яны ўтрымаюцца загартаванасьцю кастрычнікавага шліфаваньня“ (246). Што і казаць! Сказана надзвычай ёмка, але... не пераканаўча. Надта наіўна і разьлічана на прастачкоў.

Што-ж, паводле Жылуновіча, клясавыя падзелы сучаснага грамадзтва, гэта нешта такое, што не датычыць літаратуры? Што, літаратурны Парнас не на грэшнай зямлі, ці што? Ці не такім поглядам на літаратуру тлумачыцца яго беспадстаўнае злучэньне ў адно цэлае па характару творчасьці пісьменьнікаў Александровіча, Чарота і Зарэцкага, фактычна поэтаў зусім розных соцыяльных катэгорый?

Бязумоўна, калі будаваць сваю гіпотэзу на падставе іхных асабістых стасункаў, то можа і ёсьць падставы для такога злучэньня. Але калі хоць павярхоўна глянуць у творчасьць кожнага з іх, дык ад такога бяспрынцыповага падзелу не застанецца нічога.

Узяўшыся даць аналіз расколу „Маладняка“, аналіз падзеям, што абумовілі гэты раскол, Жылуновіч, аднак, не пасьмеў ці ня здолеў ускрыць сапраўдныя яго прычыны, а толькі і зрабіў, што перапісаў дэклярацыі аднае і другое групы і, пераказаўшы цыркулярныя мотывы, стаў у баку, чакаючы, што з гэтага будзе. Як удзельнік, ён бязумоўна мае права „устрымацца“, але як публіцысты-крытык, ён павінен быў-бы даць яскравы малюнак, растлумачваючы гэту надзвычайна характэрную зьяву ў жыцьці беларускай літаратуры, якая да гэтага часу яшчэ не дасьледвана.

Затое, дзе дзелася тое ўстрыманьне, калі часопісь „Узвышша“ у адным з артыкулаў настроі Цішкі Гартнага ў адзнаку ад Алеся Гаруна назвала, і праўдзіва, „настроямі нацыянальна і соцыяльна-ўсьвядом-

ленага рамесьніцтва“ (264). Тут ён адразу кідаецца з заключэньнямі накшталт таго, што „мастацтва як мастацтва, адарванае ад жыцьця працоўнай клясы, надклясавае мастацтва, з прэтэнзіямі на векавечнасьць і прыгоднасьць усім часом, месцам і станам—вось квінт-эсэнцыя ўзвышанскіх імкненьняў“ (265).

Мы зусім ня хочам сказаць, што момант асабісты ў дадзеным выпадку граў вяршэнскую ролю. Але, выходзячы з агульнай аўтарскай установкі на суб'ектыўна-псыхолёгічныя фактары, мы ў праве дапусьціць, што трапна акрэсьленая творчасьць Цішкі Гартнага магла не спадабацца яго крытыку Зьм. Жылуновічу. Нічога тут дзіўнага няма. Густы часам сыходзяцца.

Мы-б маглі працягваць ілюстраваньне фактамі высунутых у першым разьдзеле нашага артыкулу тэз бязконца. Нам здаецца, што і прыведзенага ўжо досыць, каб пераканаць чытача ў тым, што самазваныя рэпрэзэнтатары соцыялёгічна-марксыцкай беларускай крытыкі фактычна прадстаўляюць сабою некалькі іншую плынь, назоў якой мы далі ў тытуле нашага артыкулу. Трэба спадзявацца, што далейшае разьвіцьцё беларускай літаратуразнаўчай навукі, якое з посьпехам адбываецца, дапаможа ёй заняць па праву належнае месца.

# КУЛЬТУРА МОВЫ

## Этымолёгічныя этуды

### I. Тор

Бел. *тор* „шлях“ адпавядаюць у расійскай і польскай мовах наступныя ўтварэньні: *тор* „убитое и торное место, место, где много народу, езды. ходьбы, где трутся, толпятся (Даль, 810 бал.), *торить* „прокладывать борозду, тропу, дорожку“, пар. *торить* пороги „абіваць парогі“, *торёный, торный, торно́й* „гладкі, роўны“ (Даль, 803 бал.), польск. *tor* „шлях“, *torować* (пар. torować drogę). Як расійскія, так і беларускія і польскія ўтварэньні знаходзяцца ў бясспрэчным сваяцтве з бел. *церці*, рас. *тереть*, ст.-сл. трѣти <* *terti*. Калі мы прыглядзімся да каранной часткі ўсіх гэтых слоў, дык прыйдзецца констатаваць, што ў вадных, як *церці*, *тереть* корань мае вокалізацыю *e*, тым часам у рас. і бел. *тор*, пол. *tor*, *torować*, рас. *торить*, *торный* корань знаходзіцца на вышэйшай ступені (вокалізацыя *o*). Чаргаваньне галосных е—о ў каранёх назіраецца ня толькі ў славянскіх мовах. Яно вельмі пашырана ў грэцкай мове.

Пар. грэцк. τρέπω—τρόπος, λέγω—λόγος, φέρω—φόρος „цяжар“. Сьляды індо-эўропейскага чаргаваньня галосных о—е ў каранёх захаваліся і ў лацінскай мове. Так, з аднаго боку, мы маем *tego*, з другога—*toga*, пар. яшчэ *pendo—pondus*, *precor* „прашу“—*procus* „жаніх“ medius „сярэдні—modus „мера“. Зварочваючыся пасьля гэтага невялікага адступленьня да бел. *тор* у чаргаваньні яго з *церці*, трэба адзначыць, што ў грэцкай мове ім адпавядаюць τείρω <* τερjω—τορός „долата“, а ў лацінскай—*tero*. Дзеля ілюстрацыі чаргаваньня галосных е—о ў беларускай мове прывядзём яшчэ некалькі прыкладаў. Вельмі распаўсюджаны ў індо-эўропейскіх мовах корань * *bher-*/**bhor*—пакінуў свае сьляды ў такіх утварэньнях, як бел. бяру<беру і *з-бор*, рас. *беру—с-бор*, *на-бор*, *вы-бор*, пар. грэцк. φέρω—φόρος „цяжар“, лац. *fero—fors*. Трэба зьвярнуць увагу на тое, што корань **bher-*/**bhor-*, апрача свайго асноўнага сэнсу „браць, нясьці“, ужываўся і ў спэцыяльным сэнсе „быць у цяжку“. Адбітак гэтага сэнсу мы назіраем у наступных словах: грэцк. ἔφερσεν· ἐκύησεν „панясла“ *(Hesych.)*, грэцк. φορός „цяжарная“, гоцк. *ga-bairan*, н. ням. *ge-bären*, лац. *foridus* „*trächtig*“ і *forda* „цельная карова“. Урэшце, падамо яшчэ адзін прыклад чаргаваньня галосных е—о ў каранёх: бел. *мерці*, *мерць*, рас. *у-мереть, меркнуть* адбіваюць корань *mer-, а у бел. *морак, па-морка, змора, зморaны*, рас. *об-морок*, *мор*, *моровой, у-мора*, *морить* мы знаходзім корань *mor-. Да кораню *mor- усходзяць бел. *мардаваць*, *мардавацца, мардаваньне*, пар. пол. *mordować*, *mordować się*.

### II. Шчэлка

Бел. *шчэлка* і родныя *шчэліць*, *шчэліцца, шчэлкі* „вочы“, як і рас. *щель*, *щелинка*, *щелить* „калоць, робячы шчыліну“ (пар. щелить зубы) паходзяць ад кораню **skel-*, які захаваўся ў літ. *skélti* „калоць“; корань **skel-* на яго вышэйшай ступені ў выглядзе **skol-* пакінуў свае сьляды ў рас. *о-сколокъ* і бел. *о-сколёпак* (гл. Насовіч, 368 бал.). На падоўжанай ступені корань **skol-*, а ўласна, **skōl-* мы назіраем у такіх утварэньнях, як рас. *скала* „πέτρα“, укр. *скала*, ст.-сл. *скала*, пол. *skała*. У гэту групу слоў трэба ўключыць і бел. *вы-скаляцца* і рас. *скалить* (зубы), *скалиться* „ашчэрваць“ (Даль, 172 бал.)[1]. Побач з коранем **skol-*/**skel-* ужываўся і

---

[1]) Асноўным сэнсам рас. *скалить* і *скаліцца* мы можам прызнаць «рабіць шчыліну».

родны яму корань *$\text{ḳ}$ol-, ад якога паходзяць рас. *колоть*, бел. *калоць*, ст.-сл. *клати* <*ḳolti*, літ. *ḳálti*. Да кораню *ḳol- мы адносім таксама лат. *culter* „нож“ і лат. *culex* „камар“. Корань *ḳol, пашыраны формантам -d-, а уласна, *kol-d-, захаваўся ў такіх утварэньнях, як рас. *колода*<*kolda, бел. *калода, калодка*; ніжэйшую ступень кораню *kold-, а ўласна, *k̥l̥d- мы маем у лац. *clādes* „паражэньне“ і грэцк. κλαδαρός „zerbrechlich“.

## III. Шчэнт, да-шчэнту

Бел. *шчэнт* „канец“, *да-шчэнту, у-шчэнт, на-шчэнт* „да канца, да апошняга“ нагадваюць нам пол. *szczęt* альбо *szcząt* „рэштка, канец“ і прыслоўі *do szczętu, ze szczętem*. Паўстае пытаньне, ці зьяўляюцца бел. і пол. словы спрадвечна-славянскімі? На гэтае пытаньне прыходзіцца даць адмоўны адказ таму, што славянскае ę на беларускай глебе павінна было-б даць рэфлекс я, і, значыцца, мы чакалі-б *шчат, *да-шчату. Выходзячы з гэтых меркаваньняў, мы лічым бел. *шчэнт* і *да-шчэнту* запазычаньнямі з польскай мовы. Што-ж датычыцца пол. *szcząt, szczęt*, дык роднымі ім зьяўляюцца пол. *ḳonać, ḳoniec, wyḳonać, sḳon, sḳonać*, укр. *кон, конати, конець*, бел. *кон* „лёс“, *канец, канаць* „умiраць“, ст.-рас. *кон, ис-кони*, ст.-сл. *кон, коньць*, чэск. *sḳon* „сьмерць“ і інш, аб якіх гл. Прэабражэнскі ЭС I 347. Ва ўсіх гэтых утварэньнях коранем зьяўляецца *ḳon-, які чаргаваўся з *ḳen-. Апошні захаваўся, між іншым, у рас. *на-чать, на-чало*, бел. *па-чаць, па-чатак*, пол. *па-cząć, ро-cząć* Прымаючы пад увагу такія ўтварэньні, як *sḳon, szcząt, szczęt*. мы маем права побач з каранямі *ḳen-/*ḳon- констатаваць і існаваньне каранёў *sḳen-/*sḳon-. Урэшце, адзначым, што ад кораню *ḳen- паходзяць бел. *чадó* „злое дзіця, упарты“, ст.-сл. чадо, рас. *чадо*, а ад кораню *sḳen- рас. *щенок*, бел. *шчаня*, пол. *szczenię*. Аб літаратуры пытаньня гл. Брукнэр „Słownik etym. jęz. polsk.“ 74, 542 і 543 бал.

**М. Коген**

---

# Корэктыва да слова „угодкі“

Апошнім часам у нас пачало дужа шырока ўжывацца слова „угодкі“, пры чым заўважаецца нават як-бы тэндэнцыя замяніць гэтым словам сэнсава блізкае яму слова „гадавіна“. Гэтае напару прыводзіць да наданьня слову „угодкі“ пашыранага, у параўнаньні з тым, які ёсьць у народнай мове, сэнсу, вынікам чаго зьяўляюцца такія выразы, як „11-я ўгодкі Кастрычнікавае рэволюцыі“ або „20-я ўгодкі пісьменьніцкай дзейнасьці Я. Коласа“. Гэта, вядома, ня што іншае, як скажэньне таго зусім акрэсьленага і вузкага сэнсу, які згаданае слова мае ў народнай мове, дзе яно значыць „гадавое памінаньне па нябожчыку“, як гэта правільна адзначае ў сваім слоўніку Насовіч. Таму для абазначэньня ўсіх іншых відаў „гадавога памінаньня“ трэба ўжываць слова „гадавіна“—11-я гадавіна Кастрычнікавай рэволюцыі“ і г. д. Трэба яшчэ дадаць, што слова „угодкі“ вымагае ў нашай мове пэўнай сынтаксычнай конструкцыі—прыназоўніка „па“ і зусім не дапушчае тлумачальнага слова „сьмерці“, паколькі апошняе ўваходзіць у самы зьмест паняцьця „угодкі“. Так, прыкладам, нельга сказаць „100-я угодкі сьмерці Бэтговэна“, а трэба—„100-я ўгодкі па Бэтговэну“.

**Ант. Адамовіч**

---

# Пра звароты з „тымчасам“

У нашай літаратурнай мове пад уплывам чужых моў ужываецца шмат дапаможных слоў і зваротаў, якія ўтвараюць неўласьцівыя ёй фразэолёгічныя конструкцыі, ня гледзячы на тое, што яны зусім лёгка могуць заменьвацца сваймі словамі і зваротамі. Вялікая колькасьць гэтых слоў заменьваецца нашым словам „тымчасам“. якое, апрача ўжываньня ў літаральным сэнсе (адпаведна расійскім „на время“, „тем временем“, гл. Насовіча) часта ўжываецца ў народнай мове і як дапаможнае пры разьмежаваньні сказаў. Так, яно можа дужа добра замяніць гэткія кніжныя словы і звароты, запазычаныя з расійскае мовы: 1) „між тым“ (рас. „между тем“), прыкл.: „У гэтай галіне ў нас мала зроблена, а **тымчасам** (заміж „між тым“) шмат трэба зрабіць (гэтае значэньне занатована і ў Насовіча), 2) „тады як“ („тогда как“), прыкл.: „Я інтэлігэнт, тымчасам (заміж „тады“) як мой бацька—селянін“, 3) „у той час як“ („в то время как“)—„Вышэйшыя клясы жылі ў раскошы, **тымчасам** (заміж „у той час“), як работнікі і сяляне галадавалі“. Апрача таго, для ўзмацненьня разьмежаваньня можна ўжываць з гэтым словам часьцінку „жа“—„тым-жа часам“ ці „тымчасам-жа“. Пры ўжываньні апошніх конструкцый можна ў 2 і 3 выпадках апускаць „як“—„Я інтэлігэнт, **тым-жа часам** (тым часам-жа) мой бацька селянін“, „Вышэйшыя клясы жылі ў раскошы, **тым-жа часам** работнікі і сяляне галадавалі.

**Ант. Адамовіч**

# Пра дзеяслоў „забыцца“

Дзеяслоў „забыцца“ у нашай літаратурнай мове ўжываюць у расійскай форме „забыць“, „забыў“, „забуду“ і г. д. Гэта, мне здаецца, няправільна, бо ў народнай мове такой формы няма, а ёсьць зваротная форма „забыцца“ (закончанае трываньне) і „забывацца“ (незакончанае). Напрыклад: „Пашла жняя жыта жаць, забылася сярпа ўзяць“ (народнае); альбо—„а мы й забыліся на цябе“; „не забудзьцеся свае палкі“.

У слоўніку Насовіча мы такжа не знаходзім формы „забыць“, а ёсьць словы „забывацца“ і „забыцца“, якія ён перакладае ў расійскую мову як „забываць“, „забыць“ і называе іх „общими глаголами“. Тарашкевіч пра такія дзеясловы, што ад іх нельга тварыць розных станаў, у сваёй граматыцы (б. 34) піша: „аб іх можна было-б сказаць, што яны ніякага стану“. Таксама і ў граматыцы Лёсіка мы знаходзім катэгорыю дзеясловаў ніякага стану. Мне здаецца што і дзеяслоў „забыцца“ трэба аднесьці да гэтай катэгорыі, г. зн., што ад яго нельга тварыць розных станаў і ўжываць бяз „ся“, „ца“. А форма „забыць“—чыста расійская...

**Г. Асот**

# КНІГАПІС

## Пра Коласаву „Новую Зямлю“

Умовы, у якіх ствараласяя „Новая Зямля“, вымагалі ад мастацтва паказу сялянскага жыцьця і яго „няпрыкметных“ гэрояў. Гэтыя ўмовы вымагалі ад літаратурнага мастацтва адказу на пытаньне, што-ж такое беларус, што такое той, хто дамагаецца права быць чалавекам у грамадзе (разумеючы гэта ў нацыянальным сэнсе). Адказам на яго і мусіла быць „Новая Зямля“.

Але ёй не ўдалося быць закончанаю ў той час, калі гэтыя вымогі стаялі востра перад беларускаю літаратураю. „Новая Зямля“ вышла ў сьвет ужо ў рэволюцыйны час. І гэта не магло не адбіцца на характары тых уражаньняў, якія яна зрабіла.

---

Тое пакаленьне, што было равесьнікам аўтара, што разам з ім дамагалася для беларусаў права „людзьмі звацца“, сустрэла „Новую Зямлю“ з надзвычайным захапленьнем. Яе аўтара яно называла, нават, сваім геніем.

Гэтаму ўражаньню ўтуравала і тое, якое зрабіў гэты твор на некаторых прадстаўнікоў расійскай народнасьці на Беларусі. Яны паставілі яе высока, як матар'ял для дэтальнага азнаямленьня з Беларусьсю, як этнаграфічнай самабытнай адзінкай.

Зусім іначай паставілася да „Новай Зямлі“ моладзь. Яна прыняла яе з некаторым халадком. Актуальнасьць паказу на тэму „што такое беларус“ для яе мінулася. Яна, усьвядомленая і нацыянальна і соцыяльна, ставіла перад літаратурай новыя задачы, на якія ў „Новай Зямлі“ не знаходзіла адказу, і таму называла яе старою.

Цікава, што тая плынь сярод моладзі, якая шчыльна была зьвязана з адраджэнскім кірункам, таксама, відаць, ня зусім ёмка адчувалася за „Новую Зямлю“ перад сучаснасьцю, бо ўзялася была перадусім апраўдваць Коласаў твор у вачох гэтай сучаснасьці, фактычна ў вачох маладога яе крыла. Яна, відаць, не магла не адчуваць некаторай дысгармоніі між патрабаваньнямі прадвесьнікаў новай эпохі і тым кірункам, які прадстаўляла сабою „Новая Зямля“.

---

Аднак, якое-б рознастайнае ўражаньне ні рабіла яна на розныя групы і групоўкі ў непасрэдным (чытацкім) да яе дачыненьні, „Новая Зямля“ ёсьць факт вялікай важнасьці ў гісторыі беларускай літаратуры. Гэта важнасьць вымяраецца яе дачыненьнем да папярэдніх твораў беларускай літаратуры. Гэтае-ж дачыненьне дае „Новай Зямлі“ пэўнае месца ў сыстэме паняцьцяў аб беларускай літаратуры.

Да „Новай Зямлі“ ў беларускай літаратуры пераважалі т. зв. малыя жанры, якія давалі мастацкія малюнкі жыцьця ў яго эпізодах. „Новая Зямля“ ў гэтым разрэзе твор монумэнтальны. Яна ахоплівае ўжо не адзін які эпізод, а дае цэлую карціну жыцьця. Да таго-ж у беларускай літаратуры да „Новай Зямлі“, як і ў творчасьці самога Я. Коласа, пераважала лірычнае ўцелаўленьне вакольнага сьвету. „Новая Зямля“ дае спробу апавядальнага жанру вершам, дзе за гэроя выступае не „я“ поэты, а цэлая сям'я (ў часе: ад маленства і да сьмерці). Гэта спроба ўносіць свае карэктывы ў паняцьце „поэмы“, якое было выснавана на ўзорах клясычных, ці то романтычных. „Новая Зямля“ прадстаўляла сабою поэму т. ск. сямейную, падобна да таго, як Янкі Купалы „Раскіданае гняздо“ зьяўляе драму сям'і. У гэтым разрэзе яны адна да другой падобны. „Новая Зямля“ хутчэй аўтабіографічны вершаваны роман сялянскай сям'і, ці праўдзівей і не роман, а сямейная альбо фамільная хроніка.

---

Яна і пабудована на ўзор хронікальнага апавяданьня пра жыцьцё-бытцё аднае сям'і, як яно ішло ў звычайным парадку. Узорам будовы „Новае Зямлі“ ёсьць гісторыяграфія з наочнымі малюнкамі і ілюстрацыямі, з яе казачным спакоем і ціхаю плаўнасьцю ў апавяданьні.

---

Гэта вызначае ўжо і тую поэтычную культуру, якая прадстаўлена „Новаю Зямлёю“. Апроч зазначанай статычнасьці, для „Н. З.“ характэрна аднатоннасьць і

павольнасьць у рытме. Яшчэ што характэрна для гэтай культуры, дык гэта натураграфічнасьць апавяданьня пра здарэньні вакольнага быцьця; выстаўленьне іх на паказ ці то як зьяў адмоўнага парадку (як у творчасьці Я. Купалы), ці то як праяў станоўчых (як гэта ёсьць у Я. Коласа).

І ў гэтым дачыненьні „Н. З." зьяўляе сабою як-бы паўтарэньне поэтычнай культуры суседніх народаў часоў іхняй клясычнасьці. Нядарма „Н. З." крытыка прыраўновае да „Евгения Онегина" Пушкіна ці да „Пана Тадэуша" А. Міцкевіча.

Апісальны момант у „Н. З." дамінуе і падпарадкуе сабе рэшту апавядальных элемэнтаў. Дыялёг або рэпліка або аўтаравае лірычнае выказваньне найчасьцей толькі ілюстрацыя да апісальных палажэньняў. Гэта ўласьціва для культуры поэтычнай статыкі, якая мае за канчатковы ідэал паказ рознастайнасьці і шматвобразнасьці пражытага, як жывое і дзейнае ўяўленьне. Недарма аўтар „Новай Зямлі" ў сваім творы часта зварочваецца з сваімі лірычнымі выказваньнямі да ўяўнага, як да жывое істоты.

---

Такая культура вымагае адпаведнага і таленту. І тая постаць, што прадстаўлена „Новаю Зямлёю," — сапраўды своеадменны і цікавы талент з тых, што ўзрасьлі на „Нашай Ніве". Праўда, ён мае свайго папярэдніка ў асобе Янкі Лучыны (Івана Нясьлюхоўскага), але гэта ніколькі не зьмяншае яго самабытнасьці, тым больш, што яго папярэднік выявіўся толькі т. ск. у эмбрыёнальным выглядзе.

Талент, прадстаўлены „Новаю Зямлёю", ёсьць талент надзвычайна вострага і сьвежага аднаўленьня мастацкім словам усяго таго, што калі наглядалася ці пражывалася ім. Пры чым аднаўляе гэты талент звычайна ў 3-й асобе, што становіць гэтае аднаўленьне эпічным. Таленты, якіх прадстаўляе і „Новая Зямля", мацней пражываюць сьвет ва ўяўленьнях, чым у непасрэдным да яго дачыненьні, а гэта кладзе пэўны адбітак і на іх творах.

---

Таму характару, які мае „Новая Зямля", канечне, спрычыла яшчэ і тая ідэялёгія, якая знайшла ў творы сваё ўцелаўленьне. Існасьць яе, калі казаць коротка, у наступным. — Тыя, каго пануючая кляса ня лічыць за людзей і не вызнае за імі права быць гэткімі, для сябе людзі і людзі пэўнай культуры. Гэтыя людзі ня толькі існуюць, яны ня толькі быдла ў вачох паноў, яны і жывуць, а жывучы, і мысьляць і дзейнічаюць як умеюць, абы вызваліцца ад залежнасьці пануючага стану. Праўда, усё жыцьцё іх ідзе на гэтае змаганьне за вызваленьне і без жаданых скуткаў: ім не даводзіцца бачыць сьветлай тэй часіны, аб якой яны мараць; вольнага жыцьця яны так і ня бачаць. Яны ўсё сваё жыцьцё ў дарозе па гэтае шчасьце, і ў гэтым падарожжы лёс ім ручыць толькі зьмену форм залежнасьці (пана-князя на гаспадзіна-банка). „Новая Зямля" гэта нішто іншае, як новая форма залежнасьці на жыцьцёвым шляху. А яны так любяць жыцьцё, зямлю, працу, любяць свае звычаі, абрады і песьні. Адным словам, яны надзвычай сымпатычныя людзі, высокай духовай культуры. Яны адным сваім унутраным зьместам заслугоўваюць таго, каб мець сваё пэўнае месца на гэтай любай ім зямлі і жыць людзьмі — гаспадарамі, а не вандроўнікамі — паслугачамі. — Вось у сьціслым выглядзе той сьветагляд, які выражае сабою „Новая Зямля". Яна паказвае, што такое Беларусь у яе сялянскім стане ва ўмовах капіталістычных форм гаспадараньня на зямлі, і гэтым адказвае на пытаньне, якое ставілася яе эпохаю.

---

Гэта паказвае ўжо і соцыяльнага аўтара „Новае Зямлі". Ён, канечне, тая соцыяльная група, што выйшла ў сьвет з сялянства і стала прадстаўляць яго ўжо ў іншым — ад таго, з якога выйшла — асяродзьдзі паказваць зьмест сялянскіх „сьвежых крыніц" гэтаму сьвету. Гэта тая група, што ходам гісторыі вымушана была ўзяць на сябе ролю т. ск. „сялянскага хадатая" перад моцнымі сьвету, абараняць яго, як нозьбіта адменнай нацыянальнасьці, ды дамагацца яму чалавечых правоў. Такою групаю была група нашаніўскіх адраджэнцаў у іх сялянскай паўпралетарскай адмене (бо былі і шляхоцкія, і рамесьніцкія, і рабочыя). Для гэтай плыні соцыяльнае стаяла бадай вышэй за нацыянальнае, прынамсі, другое вызначалася першым і ставілася ня так востра, як у тэй групе, што йшла ад шляхты. Яна будавала сваю так літаратурна-мастацкую, як і сацыяльна-політычную праграму на групе вывучэньня

і пазнаньня станоўчых пачаткаў і ўнутраных магчымасьцяй сялянства. як соцыяльнай катэгорыі. Вынікам такога дасьведчаньня зьявілася і „Новая Зямля“.

---

Чытацка-ж „Новая Зямля“ настроена, як твор школьна інтымнага чытаньня. Яна мацней дейнічае ў абстаноўцы інтымнага чытаньня. Тады яна ро'іць уражаньне, быццам сам аўтар з табою гаворыць і апавядае табе самае замілаванае і любае для яго ды апавядае так, як-бы апавядаў настаўнік або наогул старэйшы хто ў сям'і малодшым з адным жаданьнем выклікаць замілаваньне больш да т го, пра што апавядаецца, ніж да самога апавяданьня.

---

Крытыка перад „Новай Зямлёй“ ня выканала яшчэ тых абавязкаў, якія ўскладены на яе гэтым творам. Яна яшчэ дакладна не ўстанавіла, у якім дачыненьні знаходзіцца „Новая Зямля“ да твораў, што прадстаўляюць клясычную пару ў разьвіцьці літаратур суседніх народаў і ў першую чаргу літаратуры расійскай, а таксама не дасьледавала, якую ролю адыгрывае „Новая Зямля“ цяпер у розных чытацкіх групах. Будзем спадзявацца, што з дапамогаю чытача яна разьвяжа задачы, якія перад ёю ставіць „Новая Зямля“.

**А. Бабарэка**

---

**„Ну, каму з нас ахвота памерці“ М. Чарот.— Сонечны паход. Бал. 92.** *Ц. 75 к. Беларускае Дзярж. Выдавецтва. Менск 1929 г.*

Калі-б я вёў дзеньнік, дык сягоньня запісаў-бы так:

— Вечарам я прачытаў зборнік вершаў М. Чарота „Сонечны паход“. На мяне ён зрабіў вельмі прыкрае ўражаньне. Каб сагнаць гэту аскому і ўспомніць, што ўсё-ж ёсьць на сьвеце поэзія,—я змушан быў прачытаць выбраныя вершы Вэрхарна і Ўладзімера Дубоўкі.

Міхась Чарот—гэта той самы, дзесяцёхгодзьдзе літаратурнай дзейнасьці якога было адзначана нашым друкам летась.

Тэматыка гэтага зборніку і новая, а разам з тым і вельмі старая, дакучлівая. Ёсьць вершы, якія тэматычна ўвязваюцца яшчэ з нашаніўствам у якіх поэта абуджае ўсё некага ад сну: „Ты прачніся, мой брат“; далей ідуць вершы на юбілейныя сьвяточныя тэмы, да іх далучаюцца сэз нныя і, нарэшце, два-тры вершы інтымнага характару, у якіх поэта то рэкомэндуе сябе— „я малады... у сэрцы кроў струменіць“, то жаліцца—„у сэрца я паранены, вольны птах падстрэлены“, толькі ў разьмяшчэньні, цыклізацыі сваіх вершаў аўтар поўнасьцю тэматычнага прынцыпу ня прытрымліваўся, ад чаго зборнік рассыпаецца.

Пры такой беднай тэматыцы, другі аўтар апраўдаў-бы свой зборнік высокай мастацкай якасьцю,—але Чароту, відаць, гэта было не пад сілу. Маляўнічыя сродкі чаротаўскія надзвычай блёклыя: вобразы, мэтафоры страчаюцца рэдка, часьцей эпітэты, але шмат якія з іх да таго заношаныя, што зьяўляюцца ўсяго звычайнымі азначэньнямі, як: м і н у л ы х д з ё н, п р ы г о ж а я вопратка, м і н у л ы я вякі, н о в ы сьвет, н о в ы дзень, а п о ш н і я хмары, я с н ы прамень і г. д. Больш за ўсё Чароту падабаюцца эпітэты ч ы р в о н ы і с о н н ы; першым ён, мабыць апраўдвае сваю сучаснасьць, рэволюцыйнасьць, толькі шкода, што ён ім злоўжывае; калі яшчэ гаворыць—„чырвонае раньнечырвоная восень“—дык нічога, але горш— „чырвонымі ніткамі“ і зусім кепска—„арлом чырвоным“, бо арла ўсё-ж цяжка асучасьніць, перафарбаваць на чырвоны колер. Праўда, Чарот яшчэ любіць ужываць прозаізмы на ўзор—„кожнай вясне кожная дзяўчына рада“. „Ну, каму з нас ахвота памерці“; толькі ён іх ня ўвёў у сваю поэтычную манэру, а яны ў яго зьяўляюцца таму, што ён губляе ў сабе лірыка.

Гэта было-б яшчэ нічога, палавіна бяды, але Чарот граматычна часамі ня можа справіцца з сваімі вершамі і выходзіць не апіска, а звычайная няпісьменнасьць, вось некалькі прыкладаў:

1. Я шлях знайшоў,
Я слаўлю песьняй радасьць
І песьню я
Складаю ў сэрцы т о н... (бал 11).

---

2. Ад гэтых труб зямля ўся д р о г а е,—
Жыцьця б у р а е падваліны... (бал. 20)
3. Сягоньня сэрца мне ня ные (бал. 23)

4. Грамады ліхія гульні
Узьнялі курганаў сонны стан...
— Гэй, ад гучнага вадгульля,
Хто жывы—к жыцьцю сьмялей
паўстань (бал. 32).

Але мала гэтага. Чарот, захапляючыся рэклямай свае рэволюцыйнасьці, бывае, як кажуць, проста плот гародзіць—

Вочы вясны для мяне
Сонца гарачага промень...
У бойках я камянею,
Кліч рэволюцыі мяне пройме.

Так і хочацца запытаць у дужках (куды пабяжыш)?

Толькі некалькі вершаў з гэтага чаротаўскага зборніку носяць на сабе адзнакі поэтычнасьці, гэта будуць „Засьпявай быльлём, мяжа“... „Балотам сьнежным праз сасоньнік“.

Чарота за „Сонечны паход“ цяжка прызнаваць за поэта, проста не даеш сабе веры, што да гэтага мог дайсьці аўтар „Босых на вогнішчы“. Сучаснае маладое пакаленьне нашых поэтаў далёка абагнала Чарота формальна: ён у гэтым дачыненьні нейкі нявыразны, расплыўчаты, ня мае пэўнай мастацкай устаноўкі, а проста піша, хоць „Босыя на вогнішчы“ у свой час гаварылі за тое, што Чарот нешта здолее стварыць новага, толькі гэта пакуль што ня зьдзейсьнена.

**Л. Трыер**

**Максім Лужанін—Крокі — Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, Менск. 1928 год, бал. 74.** *Цана 45 к.*

Афіцыйна наша пара ня любіць нічога асабовага, інтымнага,—грамадзкасьць павінна сьвяціцца ў радасных і ў заплаканых вачох.

У сучасным нашым жыцьці—грамадзкае і інтымнае ня маюць аднолькавага права як на сваё бытаваньне ў ім, так і на сваё выяўленьне ў мастацтве.

Гэтая нераўнапраўнасьць, успрынятая павярхоўна, для адных зьявілася візытнай карткай у „пролетарскія“ поэты, для другіх у „марксыцкія“ крытыкі.

Амаль кожны поэт, выдаючы зборнік вершаў, пры цыклізацыі прытрымліваецца прынцыпу—ад грамадзкага да інтымнага, гэты-ж прынцып ужыў і Лужанін у „Кроках“.

Імем зборніку называецца і першая яго нізка. Уважліва ўчытваючыся ў яе, мы даведваемся, што „Крокі“,—гэта крокі не аднаго чалавека, скажам поэты, але гэта крокі ўсяе грамады, з якой у нагу стараецца ісьці поэта, гэта крокі ўсяе краіны на шляху соцыялістычнага будаўніцтва, успрынятыя і паказаныя па сіле аўтарскіх здольнасьцяй. Тут і верш „Да 10 ай гадавіны Кастрычніка“, і—„Навагодняе“, у якім поэта васьпявае мэліорацыю—„у краіне больш няма балот“, і—„Дзеці“, у якім у вобразе дзяцей бачыць будучых грамадзян, а таксама паказвае нам сягоньняшнюю дзіцячую грамадзкасьць і сьвядомасьць:

Ганка сочыць, як бегаюць доўгія
сьцені,
а Алесь за газэту схавацца пасьпеў.
Раскажы ты яму, калі ласка, пра
Леніна,
растлумач опозыцыю і УсеКП.

Тут і верш „Паштавік“ і „Трактар“; у вапошнім з гэтых вершаў ня толькі ўслаўлены трактар, які прышоў на зьмену каню, але з высокай узьнятасьцю, патэтычнасьцю дадзен малюнак індустрыялізацыі нашай краіны:

Ад відна да відна галасілі гудкі,
і ад сонца да зор стракаталі машыны.
І сачылі ўзьнятасьцю броваў вякі,
як праходзіць жыцьцё і напорна й
няспынна.

І здавалася, гэта імклівасьць і рух
непраўдзівы зусім, для краіны нязвычны,
бо ўзмахі натруджаных, стомленых
рук—
замянілі ўзмахам агнёў электрычных.

„Крокі“—гэта самая большая нізка з усяго зборніку, ёю аўтар увязаўся ўсімі мускуламі свае істоты з сучаснасьцю, з грамадзкасьцю.

Далей ідзе нізка „Постаць“. У ёй ужо сабраны вершы інтымнага характару, і па іх мы пазнаём унутраны воблік маладога поэты, у іх Лужанін унутрана раздвоіўся.—

першы верш названы „Будзе радасьць цьвісьці“, а другі—„Рэдка сьмяюся“. Радасьць і сум у гэтай нізцы процістаўляюцца між сабою і часамі ў дэклярацыйным тоне, у гэтым і выяўляецца Лужанінава постаць,—да яе падобны шмат чые постаці з нашых маладых поэтаў.

За „Постацьцю“ ідзе нізка вершаў „Вясна“, прысьвечаная гэтай радаснай пары году, якая відаць, блізкая поўнаму юнацкага жыцьця і красы поэту; і апошняй нізкай ідзе „Цішыня“, ня зусім, па-мойму, удалая па назьве, бо не адпавядае зьмешчаным вершам: калі яшчэ „Случчына“ і „Ноч“ могуць уваходзіць у гэту нізку, дык „Гоманы сьнежнай белі“—ня зусім. Праўда, можа, аўтар „Цішынёю“ хацеў адгарадзіць сваю сялянскую тэматыку ад іншай?

„Крокі“—гэта першы зборнік Лужавіна; у ім ён яшчэ ня мае пэўнага пункту, з якога аглядаў-бы творчым узьлётам шумлівае мора людзкога жыцьця; у „Кроках“ Лужанін яшчэ толькі ходзіць па шляху ад вёскі да гораду і назад, на якіх часамі знаходзіць, на чым спыніцца яго поэтычнае вока.

Па „Кроках“ цяжка гаварыць пра далейшы Лужанінаўскі лёс у поэзіі, але бясспрэчна адно: будзе яшчэ шмат разоў Лужанін пераацэньваць поэтычныя каштоўнасьці, будзе пашыраць і паглыбляць сваю творчасьць, і тады выявіцца больш выразна індывідуальнасьць поэты на фоне нашай поэзіі.

**Я. Плашчынскі**

**Інстытут Беларускае Культуры. Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Працы катэдры этнографіі. Том I, сшытак 1. Менск, 1928. Тыраж 1000 экз. Бал. 208+60 аркушаў укладных з рысункамі.** *Цана не паказана.*

Нарэшце, з развоем выдавецкае чыннасьці БАН, бачым мы збор грунтоўных прац катэдры этнографіі. Першы сшытак, бязумоўна, заслугоўвае ўвагі па колькасьці зьмешчаных у ім матар'ялаў.

Артыкул проф. Прывалава „Народныя музычныя інструманты Беларусі“ (бал. 1-39) зьяўляецца ня сучаснай дасьледчай працай на абшарах Беларусі, а проста групоўкай вядомых ужо матар'ялаў (спасылаецца часта на Шэйна, Бяссонава) і нават летапісных крыніц, а таксама асабовых меркаваньняў на падставе сваіх ранейшых досьледаў у трактаваным пытаньні на тэрыторыі былой Расіі. У канцы артыкулу аўтар зусім слушна аднатоўвае, што знаходзячыся па-за межамі Беларусі, ён „ня меў магчымасьці працаваць у мясцовых музэях, а, галоўнае, у жывым народным асяродку Беларусі“. Артыкул можа быць толькі вытокай, адпраўным пунктам для далейшых шуканьняў і досьледаў у музычнай гісторыяграфіі народнае інструмэнтыкі Беларусі. Між іншым, на бал. 20-й знаходзім дзіўную „ідэялізацыю“ акту „аслабаненьня сялян“ ад прыгону. Выходзіць, што пасьля яго „вызваленьня“ сялянская маса „шукала асьветы, гарнулася да мастацтва, у тым ліку і да музыкі“, далей: „вызваленая моладзь хацела пяяць, танцаваць, адзывацца на бягучыя пытаньні жыцьця: патрэбна была музыка“... Мы-ж ведаем, што „аслабаненьне“ ня менш закабаляла сялян.

В. Ластоўскі ў артыкуле „Прочкі і разлучыны“ (бал. 41-48) падае сабраны ім у Дісеншчыне матар'ял аб захаванай там абраднасьці прочкаў і разлучын. Гэта—праўны норматыў, які замяняў сабой тагочасныя рэлігійныя абраднасьці разводу. Артыкул падрабязна гаворыць пра абраднасьць, аб якой мала зусім гаворац ранейшыя этнографы. В. Ластоўскі спамінае летапіс аб абрадзе разлучын Кіеўскага князя Валадзімера і Рагнеды, што можа падкрэсьліваць даўнасьць гэтае абраднасьці. Але-ж гэты летапіс падкрэсьлівае таксама і ўласьцівасьць гэтае абраднасьці ня толькі для этнографічнае Беларусі. Артыкул цікавы асабліва тым, што дае пэўныя падставы меркаваць, што рэлігійная абраднасьць часта абміналася, і нават калі яна і адбывалася, то ня мела асаблівай моцы да выкананьня сьвецкага звычаёвага абраду.

І. Ф. Баршэўскі ў працы „З гісторыі фальлёктэнізму“ (стар. 49-80), на падставе знойдзенага ў Рослаўшчыне высечанага з каменю выбражэньня фальлюса давозіць існаваньне ў этнографічнай Беларусі культу фальлёктэнізму (культ багоў размножнай сілы прыроды, якія выабражаліся ў выглядзе

плоцьных органаў: мушчынскага—фальлюс, жаночнага—ктэіс). Аўтар падмацоўвае свае довады досьледам культу Ярылы, Купалы, сьвяткаваньня Юр'я, дзе ён знаходзіць перажыткі фальлічных абраднасьцяў. Меркаваньні і здагадкі зусім слушныя. Але ім адведзена месца ня так ужо і шмат: артыкул немаль цалкам зьяўляе сабой фундамэнтальны трактат пра фальлічны культ на ўсёй зямной гале. І толькі для таго, каб паказаць, што вось так (а можа інакш?) магло быць на Беларусі! Вартая лепшага прыстасаваньня стараннасьць... Да артыкулу ёсьць прыпіскі рэдакцыі зборніку, яны паказуюць на тое, што і аўтар гэтага артыкулу таксама, як і аўтар артыкулу „Народныя музычныя інструманты", — не знаёмы цалкам з матар'яламі, якія можна знайсьці ў самой Беларусі. Асабліва цікаўна прыпіска рэдакцыі аб тым, што вясельны „каравай" у Беларусі таксама выпякаўся ў фігуры ктэіса і фальлюса. Аўтар артыкулу, відаць. ведае толькі. што такую форму надавалі хлебу ў рымлян...

У артыкуле М. Нікіфароўскага „Напоўпрыказкі — напоўпрыслаўкі" (бал. 81—115) дадзены толькі канец матар'ялаў нябожчыка дасьледчыка. Большая частка артыкулу была надрукавана ў „Записках Сев.-Зап. Отдела Импер. Русск. Географического Общества" (Вільня 1910-1911 г.), а затым перадрукавана ў часопісі „Крывіч" (Коўна, 1924 г.). Матар'ялы вельмі цікаўныя і каштоўныя ня толькі для этнографаў, але для мовазнаўцаў і літаратуразнаўцаў: шкода, што яны губляюць шмат з прычыны выдрукаваньня толькі канца. Сам аўды дасьледчы каштоўны матар'ял, варты таго, каб яго падаць цалкам. Можна толькі пажадаць, каб гэта было выпраўлена надрукаваньнем у наступным сшытку „Прац" першых частак матар'ялаў. Гэта, бязумоўна, патрэбна, калі заўважыць тое, што выданьні, дзе яны былі надрукованы, — бібліяграфічная рэдкасьць.

Цікавая характарыстыка дзейнасьці выдатнага этнографа, што працаваў на Смаленшчыне, дадзена Ал. Шлюбскім у артыкуле „Этнографічная дзейнасьць Дабравольскага" (бал. 117—126).

Вялікую каштоўнасьць мае артыкул М. Грынблята „Этнографічнае вывучэньне каўтуна" (бал. 127-153), які на падставе аналізу этнографічных матар'ялаў, а таксама (на чым і пабудаваны артыкул)— уласных назіраньняў ў Тураўскім і Рэчыцкім раёнах даводзіць, што „каўтун"— гэта ня ёсьць зьнешняя калматасьць, зьлепласьць валасоў, як лічылася дагэтуль, а нутраная хвароба, якая ўяўляецца народам нейкай старонньняй сілай, што праяўляецца паводле слоў знахароў Палесься тым, што „у сярэдзіне давіць. ломіць, круціць, гне"... Часта пад „каўтуном" разумеюць рэўматычныя болі, хваробы суставаў, нэрвовыя і г. д. Тое-ж, што назіралі знадворку— зьбітыя, зьлепленыя валасы. робіцца паляшукамі наўмысьля па сваеасаблівых „рэцэптах" з надзеяй на тое, што каўтун „плюсьнецца" ў валасы і выйдзе з хворага. Артыкул Грынблята канчаткова выясьняе загадковасьць каўтуна, перакульвае ўсе, што існавалі, меркаваньні, здагадкі, беспадстаўныя сьцьверджаньні як мэдыкаў, так і этнографаў.

Артыкул М. Мялешкі „Камень у вераньнях і паданьнях беларуса" (бал. 155-182) дае падагуленьне, зводку ў адно цэлае розных ведамак, раскіданых у працах этнографаў і пэрыодычных выданьнях. Дадзена дасьледваньне. якое значэньне меў камень у сьветапогляде першабытнага чалавека і ў вераньнях беларусаў (багомленьне каменя).

В. Ластоўскі падае „Духоўныя вершы 1702 г." (бал 183-186) з запісаў літоўскага профэсара Буга, цікавыя „сваёй мовай і формулёўкай народных уяўленьняў царкоўна-абрадавых сьвят".

Ал. Шлюбскі ў артыкуле „Аб беларускай набойцы" (бал 187-192), пра якую за апошнія часы піса ася даволі многа, высьвятляе некаторыя стораны гэтага пытаньня, зьвязаныя з находжаньнем і разьвіцьцём набойкі на Беларусі, выводзячы існаваньне двох шляхоў разьвіцьця набойкі на Беларусі: 1) з XII па XVIII ст. пад уплывам беларускіх нацыянальных форм, і 2) з XIX ст. пад уплывам саматужнікаў Цьвярской губ. Артыкул ілюстраваны ажно 101 узорам.

Аддзел „Бібліографіі" зьмяшчае тры рэцэнзіі Шлюбскага на цікавыя для Беларусі этнографічныя выданьні.

У канцы кнігі дадзены паказьнікі: прадметны, географічны, асабовы і сьпіс рысункаў, што палягчае карыстаньне кнігай.

Выдадзена кніга вельмі прыгожа, багата ілюстравана (155 рысункаў).

Зварачае на сябе ўвагу значнасьць матар'ялаў, што не да сучаснае па межах Беларусі. Якраз гэтыя артыкулы менш грунтоўны, менш поўна ахопліваюць трактаванае пытаньне. Значная ўвага дадена абгляду, сыстэматызацыі матар'ялаў ранейшых дасьледваньняў. Адчуваецца нейкая ненадённасьць у сэнсе адсутнасьці падачы новых, нядаўна дасьледваных ведамак (напр. такіх, як у Грынблята). І побач з тым, недаацэнка некаторых ранейшых ведамак, як гэта здарылася з матар'яламі Нікіфароўскага. Катэдры этнографіі трэба паставіць канечнай задачай перадрук (можа з комэнтарыямі) падобных матар'ялаў.

Кідаецца ў вочы адсутнасьць у акадэмічнай друкарні шрыфту для перадачы старадруку (вершы, пададзеныя Ластоўскім.)— Прыкрая загана. Ня ёмка бачыць (хоць гэта і дробязь) слова „балона" побач з словам „старонка". Гэта ў тым жа самым, адным зборніку!

Калі-ж глянуць на першы сшытак прац катэдры этнографіі цалкам, ацаніць яго ўвогуле, дык відаць яго каштоўнасьць, цікавасьць сабранага тут матар'ялу.

**Хв. Шынклер**

**Ад рэдакцыі.** По тэхнічных умовах разьдзел „Слова—чытачу" ў гэты нумар не увайшоў і будзе дадзены ў № 4 у павяличаным памеры.

*Рэдагуе* **Рэдколегія** *Выдае* **„Узвышша"**